ВЕЧАСЛАЎ АДАМЧЫК

# Дзікі голуб

*Апавяданні*



ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1972

# Дзікі голуб

Гэта было год дваццаць назад...

Але раскажу спярша, што было летась.

Я ехаў дадому, не — спярша ляцеў. Жаўтаваты «АН-2» (у аэрапорце, дзе грэліся на сонцы, нібы шчупакі каля плыткага берага, доўгія «ТУ», ён здаўся мне бог ведае якою старызнаю) доўга вісеў, што лёгкі камар, над чорнымі палеткамі ўжо вузааранага на зіму ржышча, над блішчастымі, вузенькімі і ў адных петлях рэчкамі — здаецца, наступі нагою — і запыніш, над маленькімі, хоць збяры ў жменю, вёскамі, над лесам: зверху выдавала — гэта не лес, а растрэсены мох. З моху курыўся сіні дымок, як тлела папяроса: недзе быў пажар.

Лес там-сям быў жаўтаваты — на асінах і бярэзінах чэзла лісце. Стаяла восень — чорствая, сухаватая — ужо капалі картоплі. Каля Наваградка, калі самалёт пачаў зніжацца, даганяючы свой цень, кабеты з гародаў, абапёршыся на капачы, узіраліся на нас, мусіць, як на лялек у кругленькіх вокнах-ілюмінатарах.

Самалёт дагнаў свой цень, цвёрда стукнуўся, аж скрыпнуўшы ад злосці, і заскакаў па зялёным аблогу; траву гнуў, усё роўна як падлізваў, вецер ад прапелера.

Не верылася, што ўжо Наваградак: жоўтыя вяргіні млеюць ад цеснаты ў гародчыках і хіляцца на плот, чырванеюць буйныя яблыкі ў дробных садках, таўкатня каля аўтобуса на станцыі — і праз якое паўгадзіны ты будзеш дома.

А кругом, як другое царства — старадаўняе, бо ў аўтобус зайшоў чалавек у суконным фрэнчы з кішэнькамі на грудзях, з прыклееным да губы білецікам, каб бачылі ўсе, і яму крычыць бялявая, шырокая ў крыжы кабета, ставячы на сядзенне кошык з капачамі:

— Міхалко, ці ж узёў мне білет?

Аж ёкае сэрца ад нейкае дзікаватае, нязвыклае радасці — гэта ўжо наша гутарка.

— Хібо не бачыш...

І доўга гуркоча, як нешта там у яго саржавела, і ніяк не заводзіцца аўтобус — круглы, кароценькі, з тонкаю рэйкаю на падлозе — мусіць, пасля рамонту. Я помню, такія аўтобусы хадзілі ў Мінску год пятнаццаць назад недзе ўсё на край горада — то на Грушаўскі пасёлак, то на цагельню.

— Садзіся, чаго стаіш,— сапе, не аддыхаўшыся, кабета і здымае з сядзення кошык з капачамі.

— На тым тыдні сядзеў, на гэтым пастаю,— разам з губою варушыцца ружовы білецік.

Шафёр, малады, няголены хлапец у стракатай кепцы, за доўгую блішчастую ручку зачыняе дзверцы — нарэшце паедзем: аўтобус дрыжыць, востра дзынкаюць шыбы; каля мяне адна «ўтоплена», і ніяк яе не падкруціш угору: зламалася ручка.

— Пачакай, браток, дочачка асталася тамака,— схамянуўся чалавек і чапіў шафёра за плячо.

— Цьфу, каб ты не даждоў разам з ёю! — нагінае галаву і адварочваецца кабета.

Толькі цяпер я ўспомніў, што каля аўтобуса дробненька круцілася, усё хаваючыся за нечыя ногі, чорная сучачка.

Шафёр абярнуўся, падняў брыво і пацягнуў за доўгую ручку.

Чалавек зняў з губы білецік, высунуўся з аўтобуса і паклікаў:

— Мушка, цю-цю-на! Мушка...

Сучачка скочыла ў аўтобус і палахліва задрыжала, затрапяталася ў чалавека каля ног. Ён узяў яе на рукі і ўмасціўся на сядзенне каля дзверцаў — мы паехалі: застракацелі запыленыя платы, вішні — жоўта-чырванаватае ў прамежку з зялёным лісцем, вокны з белымі ліштвамі, і ў некага на падаконніку я ўбачыў памідоры. І нешта зашчымела ў грудзях: падумалася пра дом, пра памідоры, што некалі таксама спялілі на сонцы, на цёплым акне. Як гэта даўно было! Колькі ж я не жыву дома?! І ўжо як счужэла ўсё тут, і гутарка, і шаша, і мне было трохі нязвыкла, што няма бруку, а шарэе асфальт, дзе на трэшчынах заліты тлустаю смалою. Гэта адтуль, з дому, ідуць машыны і гудуць, як вялікія чмялі, мінаючыся з аўтобусам. І недзе туды бяжыць бензавоз — пад ім матляецца ланцужок, нібы пупавіна ў ягняці. Фыркае халодны вецер праз адчыненае акно і студзіць, што аблівае халоднаю вадою, маё плячо.

— Сцішылася, як дзіцятка,— кажа нейкая маладзіца ў плюшавым сачыку, прыглядаючыся да сучачкі.

А мне пачынае здавацца, што я недзе бачыў гэтую маладзіцу, гэты чырванаваты круглы твар і нават помню яе голас. Толькі дзе, калі? І не магу ўспомніць...

— Балазе знайшоў сабе забаўку,— усё скоса пазлядае на свайго чалавека дзябёлая бялявая кабета з кошыкам і капачамі.

Чалавек адварочваецца, як не да яго гаво-

рацць, і маўчыць. Сучачка дрэмле ў яго на каленях і раптам палахліва ўздрыгвае, адкрываючы вочы, і пільна глядзіць на маладзіцу ў плюшавым сачыку.

Я прыглядаюся да чалавека ў суконным фрэнчы: твар у яго дробны, худы і трохі васпаваты і нейкія хітрыя, быстрыя вочкі — і думаю, што ён рыхтык, як той Марцін Дзікуць з нашае вёскі, і, мусіць, гэтакі трохі махляр, і добры гультай, і такі самы бяскрыўдны.

Чалавек як чуе, што я думаю пра яго, і пільна азіраецца. Я адварочваюся да акна і гляджу на белавата-шэры апаласканы дажджамі папар, на цёмны, карычняваты лапік нявырванае грэчкі,— ужо кончыўся горад,— на балотца з маладою атавою, на разасланы лён, дзе цэлаю плоймаю топчуцца гракі, на сароку, што ляціць пад нечую зводдаль шашы хату, і думаю, што я не люблю гэтае пары, калі на сметнікі прылятае сарока — знак, што скора халады, а з памяці ўсё не сходзіць Марцін Дзікуць. Помню: рабаваты, чорны, з-пад шапкі вылезлі і вісяць на вушах касмылі. Згадалася яго смерць, страшная, нечалавечая смерць...

З ім у вёсцы ніхто інакш не вітаўся, як пытаў здалёк: «Марцін, сечку жнуць?» Найбольш смяяліся тады, калі збіралася многа мужчын перад святам у каго-небудзь на падворку і Марцін прыносіў сваю аблупленую, шчарбатую машынку, каб падстрыгаць усіх. Машынка, мусіць, ірвала валасы, бо хто-небудзь, седзячы на скрыпучым табурэце з хусткаю на плячах, спачатку моршчыўся, а потым крычаў: «Марцін, сечку жнуць... тваю матары, валасэ павырывоў!»

Гэта некалі яшчэ, мусіць малым, Марцін пайшоў на сяло, а там у яго спыталі, што робяць

маці з бацькам. «Сечку жнуць»,— сказаў Марцін (яны, мусіць, рэзалі сечку), і з таго дня за ім цягнуўся гэты хвост і кожны тузаў...

З Марціна смяяліся ўсе — і ён, папраўдзе, быў трохі нягеглы і негаспадарскі чалавек. Невядома дзеля чаго трымаў трое сабак. Зямля на Марцінавым хутары колькі год ляжала аблогам, і на ёй ужо займаўся ядловец, і рос сівец, і дзе-нідзе цвіла жоўтымі калівамі дзіванна — яна любіць песчугу́ і сонца. Кожнае вясны Марцін падпальваў сухую траву, нізка па зямлі бег агонь, сіні дым пах ядлаўцовымі ягадамі, як у царкве. Толькі каля самае хаты зелянеў загон позняга жыта і цвіла ліловым цветам картопля-варшаўка — рана, наша толькі ўсходзіла.

У Марціна не было ні гумна, ні хлява, а толькі хата: зялёнымі купінамі-пляйстрамі мох на страсе, старая шапка на калу каля коміна, каб салому не дралі вароны, кошык на шчыце для галубоў, але я не помню, каб яны там вяліся, два акны ў чатыры балонкі і на адной накрыж лучынкі, каб не вывалілася разбітае шкло. І каля хаты ніводнай прысадзіны, толькі гусценькія хвоечкі, што, пэўна, выраслі самі па сабе — адтуль кожны раз, падцягваючы порткі, выходзіў Марцін Дзікуць.

Я бачыў гэта раніцаю, калі прыганяў на сваё поле карову: у нас, у Заходняй Беларусі, яшчэ не было калгасаў.

Наша «дзялка» — надзел поля ў паўтара гектара — была праз сценку — вузкую дарогу, што зарасла дзяцелінай, бо па ёй ездзілі толькі тады, калі вазілі з поля збожжа ці картоплі, і на якую, барануючы, сцягвалі пырнік.

На сценцы, трымаючы за вяроўку, пасвіла пярэстую маладую карову Марцінава дачка —

мая равесніца — тонкае, няспелае дзяўчо, помню, кожан дзень у адной з чырвонымі вылінялымі кветкамі сукенцы. Карова чмыхала, круціла галавою — доўгай павуцінаю цягнулася на сонцы яе сліна — і лезла ў наш авёс. Меншы Марцінаў хлопчык у кароткіх портачках на шлейцы вазіў па сцежцы нейкую старую, пагібаную, у белай вапне тачку — аб днішча церлася і вішчала кола.

Калі памерла Марцінава жонка — я не помню.

Дзікуцеў хутар быў вясёлым месцам: за хвоечкамі, дзе крута абрываўся бераг, цякла і рабіла свой заварот плыценькая рэчка; раніцаю, змялеўшы, вада перакочвалася па пяску, не займаючы нават купіны з расою, і калі глядзіш на іх у гэтую пару, здавалася, што нехта высунуў з рэчкі галаву і да яе ліпнуць доўгія валасы. Старая алешына з колам на вяршку (мусіць, зацягнуў Марцін для буслоў, але на ім крычалі, аж давячыся, вароны) берагла гэты грудок ад паводкі.

За рэчкаю жаўцеў поплаў: улетку — ад курачае слепаты, увесну — ад пяску, што наносіла вадою. І нехта пасыпаў яго попелам, каб расла трава. Па пяску слаўся падбел, цвіў белымі чачоткамі, як у рабіны, крываўнік, і гнала ўгору асот — увосень ён быў што абсыпаны ватаю: вецер нёс адтуль на наша поле лёгкія парашуты. За нерухомымі купамі вербаў, за маладым алешнікам на другім грудку бялелі атынкаваныя мястэчковыя хаты, чуўся нізкі сыраваты грукат цягніка, раптоўны крык гусей і тоўсты голас з рэпрадуктара, быдта гаварыў нехта высокі, велічынёю да неба.

І цяпер, бывае, пачуўшы далёкі голас з рэпрадуктара, я ўспамінаю поле, траву ў скалках расы, ад якое шчымелі і заходзіліся ногі, белыя атын-

кованыя домікі, што былі за маладым алешнікам, і Марцінаву хату.

У ёй я быў усяго раз — спамінаецца — улетку, як пажалі жыта, пазвозілі з поля снапы і браліся касіць гарох. На нашым іржышчы паднялася трава, а ў Марціна яшчэ ўсё стаяў зажаты загон — жыта, пэўна, пераспела і асыпалася.

Я пасвіў тады на ржышчы карову, пільнуючыся, каб яна не ўскочыла ў Войнаву канюшыну, што ўжо густа закучаравілася на пакошы маладою атаваю: на другі бок нашае «дзялкі» было поле Клемуса Войны.

Клемуса я пабойваўся, бо аднаго разу, калі мая карова сцягнула з яго мэндля сноп-шапку, невядома адкуль узяўся гаспадар, трымаючы ў руцэ бізун з чорным плеценым дзяржальнем і чырвонымі кутасамі. Я гэта ўбачыў потым, а спярша ўчуў, як нешта раптоўна, нібы лінулі кіпятку, апякло маю шыю, потым плячо — на ім нешта з тыдзень не сходзіла, наліваючыся, што жоўцю, сінявата-цёмная пісяга.

Клемуса Войну недалюблівалі ўсе: у часе вайны ён загадваў бэнэсаўскім [1] складам, куды немцы звозілі яўрэйскае рыззё, і, казалі, набраўся золата. Не ведаю, праўда гэта ці не, але што ён неяк адразу пасля вайны прынёс дадому грамафон — помню: кожнае нядзелі Клемус Война адчыняў акно, закідваў на вяровачку край фіранкі і заводзіў грамафон — мы, дзеці, сабраўшыся на вуліцы, бачылі толькі карычневую трубу, што вялікую засохлую кветку.

Седзячы на мяжы, я назіркам пагдядаў на карову і пароў чмялёў — яны, вялікія, чорныя,

---

[1] БНС — так званая беларуская народная самапомач; нацыяналістычная арганізацыя, якая дапамагае фашыстам.

з жоўтымі паскамі, ляцелі сюды і лезлі ў норку пад чубком сухаватае травы: пад мяжою было іхняе гняздо.

Я падняў галаву і ўбачыў: над мястэчкам стаяла цёмная хмара з папяловымі краямі — кругом зрабілася сцішана і жаўтавата, як на шарай гадзіне, і стаяла духата, як накінулі на цэлы свет радзюжку. Хмара, варочаючыся клубкамі, ішла сюды, проці ветру: над мястэчкам каля шашы ўставалі аж да неба жоўтыя косы пылу. Я ведаў, што папяловая хмара — на град. Раптам вецер сціх, зрабілася страшна — са сполаху цвыркнуў і нізка паляцеў над полем жаваранак. Косы жоўтага пылу пацягнуліся на поплаў, і нечакана дыхнула скразняком і холадам, аж палягчэла. Карова падняла галаву і стала трывожна нюхаць вецер. Рэдка, нібыта і не хацеў, пасыпаўся град. Буйныя, велічынёю з арэх, калівы граду зашасталі па сухім іржышчы, заскакалі па сцежцы, нібы хто кідаў іх, забаўляючыся. Карова згорбіла спіну, закруціла галавою — па вушах яе, мусіць, сек град — і пабегла пад Марцінаву хату. Туды, пад хату, бегла і Дзікуцёва дачка — вецер сарваў з яе галавы і панёс па полі белую хустку.

Хмара ішла пры самай зямлі — там нешта шумела, гуло, як гарачыя каменні ў дзежцы з вадою. Ужо не было відаць местачковых хат, алешніку на поплаве — там стаяла шэра-жоўтая сцяна. Толькі два галубы, кідаючыся ў бакі, ляцелі туды, дзе яшчэ, як радасць, сярод цёмных хмар яснела неба.

Холадам у мяне па спіне прабег страх — я кінуўся пад Марцінаву хату, а за мною вецер каціў па ржышчы бярэма скошанага гароху.

А там, над мястэчкам, над поплавам грымела, раўло, нібы ламалася і падала на зямлю вялікімі

крыгамі неба. Мне зрабілася страшна: я ўспомніў — казала маці,— што калі на зямлю ўпадзе хмара, то на тым месцы паўстане мора.

Град пабольшаў. Ён моцна сек мне па костачках, па пятах, і раптам па галаве востра трупнула, і было чуваць, як адскочыла вялікая, з курынае яйцо, градзіна — я аж спатыкнуўся і адчуў, як на галаве пякучай гарачынёю наліваецца гуз.

Я дабег да Марцінавай хаты і стаў пад страху: па сцяне грукацеў, нібы перавярнулі воз з каменнямі, сіняваты, што выліты са шкла, град. За вуглом стагнаў, аціхаючы, нібы клаўся там спаць, а потым тоненька скавытаў, як што яго раздзірала вялікімі кіпцюрамі, і недзе ляцеў, бэрсаўся са страшэнным свістам вецер.

Карова, панурыўшыся, стаяла пад страхою і тулілася задам да сцяны — яе даставаў град.

У Марцінавых сенцах нешта шкраблося па дзвярах, дзынкала клямкай — мусіць, яе лапамі даставалі сабакі; і раптам дзверы адчыніліся, аж я стрыпянеў — з сенцаў выткнуў галаву Марцін Дзікуць:

— Ідзі ў хату, страшна ж аднаму?..

Адганяючы сабак, Марцін упусціў мяне ў сенцы. Паклаў на маю шыю сваю руку — яна была цеплаватая і шорсткая, як тарка,— і падштурхнуў у хату.

— Ідзі, ідзі, не бойся...

У хаце яшчэ стаяла сухаватая, напараная сонцам духата і было цемнавата. І з гэтай цемнаты, з ложка на мяне цікавалі Марцінавы дзеці — вочы іх сцішана блішчалі. На калодзе сярод хаты сядзеў Клемус Война — сагнуўшыся, раскарачыўшы высокія калені; босыя ногі яго былі шырокія, як лапці. Ён маўчком, не паднімаючы галавы, зірнуў на мяне, і ў яго апечаная, з белымі

лішаямі руцэ я ўбачыў бізун — той самы, з плеценым дзяржальнем і чырвонымі кутасамі.

— Гузоў не насадзіў, кажу, град? — спытаў Марцін, прымошчваючыся каленьмі на лаву і ўзіраючыся ў акно.

Я толькі цяпер учуў, як у мяне шчыміць, расце, сцягваючы на галаве скуру і, здаецца, паднімаючы шапку, гуз.

— Нічога, пакуль жаніцца — загавіцца! — сказаў Клемус Война і раскруціў доўгі бізун.— Тут во — без хлеба астанёмся. Малоціць як цапамі, саб'е ўсё.

— Не грашы,— ціха сказаў Марцін і ссунуўся з лавы,— ты жыта нажаў.

— А ты што — лічыш чужое? — Война падняўся з калоды — цёмны, як хмара, высокі, аж дастаючы галавою да бэлькі.

Марцін стаяў каля яго дробненькі, быдта дзіця.

Востра і пякуча кальнула ў вочы маланка — недзе блізка, з ляскам, як у камень, стрэліў пярун, потым з грукатам пачало ламацца неба.

Марцін скоранька і тройчы перахрысціўся.

— Ты, брат, як маленькі...— зарагатаў, але адышоўся ад акна Клемус Война: зноў мільганула і, здаецца, зашыпела за акном маланка.

А па сцяне ўсё цвёрда грукацеў град.

На гарышчы нешта трашчала — ці не кроквы — і ў коміне грукалася юшка і жаласна, тоненька выў вецер — нібы хто залез на страху, усадзіў у комін галаву і страшыць.

Ужо замакрэлася над ложкам столь — пачалі налівацца і, расцягваючыся, падаць кроплі вады і потым тоненька задзынкалі — дзеці прынеслі і падставілі чыгунок.

Град зашоргаў па шкле — вецер павярнуў у

вокны, хмара варочалася назад. Па рамах білі, як палкаю, і раптам, як незнарок, патрапілі па шкле — шыба прутка лускнула,— на лаву, суха звонячы, пасыпалася шкло: нібы ў прорву хлынуў і холадам заліў хату вецер.

Марцін схапіў з ложка падушку і, трымаючы яе за адзін рог, падбег да акна і заткнуў шыбу.

Але град ужо радзеў, толькі са страхі густа, быццам хто, абмыўшы, яшчэ апалоскваў яе, чуваць было, лілася вада.

На дварэ, калі мы выйшлі з хаты, стаяў белаваты і нерухомы, хоць ты разводзь яго рукамі, туман. Недзе рыкалі, нібы тапіліся ў ім, каровы. Мая стаяла каля Марцінавае хаты, тыцкаючыся пысаю ў град — нюхала. Яго нападала аж па костачкі, і ён шоргаў пад нагамі, як шоргае сцукраваны напрадвесні снег. З граду вытыркаліся сцяблiны зломанае ў каленцах саломы — гэта там, дзе быў загон Марцінавага жыта.

Марцін у драўляных выдзеўбленых шлэбах з накарэлым на іх зеленаватым гноем пасунуўся да загона. За ім, абнюхваючы яго сляды, беглі сабакі. Марцін пастаяў перад жытам і, не скідаючы шапкі, моўчкі перахрысціўся.

— Хрысціцца, а святым духам жыць не будзе. Кавалак гультая. Цьфу! — Война плюнуў і адышоўся ад парога.— Усё тут аблатошыць, аб'есць, як вусень.

І Война пайшоў, гразнучы ў мокрым градзе, і ўжо крыкнуў, каб чуў Марцін:

— Ого, ліха яго матары, пячэ як прыскам!

Ён пастаяў на адной назе, падгінаючы другую, як бусел, і сказаў яшчэ:

— Пайду гляну, што там робіцца ў мяне.

І пайшоў, схаваўся, як за якою сцяною, за туманам.

Я адагнаў ад сцяны карову. Яна падняла вушы і пабегла на дарогу, кіруючыся дадому — там яе чакала кожны раз радзюжка зелля.

— А куды ж ты? — аклікнуў мяне Марцін.— Крый бог, прастудзішся...— і падышоў да мяне, сунучы шлэбы: яны звальваліся ў яго з ног.—На, вазьмі, заўтра прынясеш.— Ён выступіўся з іх і адышоўся пад сцяну — там зелянела сухая трава.

Я ўсунуў ногі ў шлэбы, усё роўна што ў пячоркі — нагрэў Марцін.

З акна, уткнуўшыся ў шыбы і расплюшчыўшы насы, на мяне глядзелі яго дзеці, і да самае дарогі бег чорны, з жоўтымі кропкамі пад вачыма і тыцкаўся ў маю руку сабака, пакуль яго не паклікаў Марцін:

— Цю-цю-на, цю-цю-на...

— Баба, у руж'ё! — гукнуў чалавек у суконным фрэнчы.

Дзябёлая, шырокая ў крыжы кабета, паднялася з месца і, чапляючыся капачом за сядзенні, вылезла з аўтобуса.

А я глядзеў на чалавека ў суконным фрэнчы — ён пусціў з рук сучачку, і яна дробна бегала па канаве — і думаў, што ёсць на свеце дзіўнаватыя людзі, нездароўча чулыя да ўсяго і толькі, мусіць, нядбайныя да сябе.

Аўтобус тузануўся, з перабоямі і натугай загуў матор — мы паехалі; чалавек і кабета хаваліся з вачэй. Аўтобус выбраўся на грудок, мінаючы з боку шашы могілкі з трыма хвоечкамі — на камлях высока не было галля, нібы хто сашмаргнуў яго вялікаю рукою, пакінуўшы толькі макаўкі.

Шафёр скінуў газ, і аўтобус ціхенька, дзе часам падскокваючы на ямках і бразгаючы жалезным нутром, пакаціўся ў лагчыну і раптам затрубіў, сцішаючы ход: сярод шашы стаялі спутаныя коні, адзін на аднаго паклаўшы шыі. Было Кашалева — дадому асталося кіламетраў дванаццаць. На нечым хлеўчыку ляжалі доўгія і рабаватыя, як парасяты, гарбузы. На акне цвіў высокі, што куст, агеньчык — і нейкая чырвоная радасць была ад яго. Голы да пояса хлопец, што правіў ганак — прыбіваў з аднаго боку белую абструганую дошку,— агляннуўся, згледзеў коней і, кінуўшы сякеру, падбег да шашы, замахаў абедзвюма рукамі, як ганяючы курэй: коні, задзіраючы галовы і збіваючыся адзін на аднаго, сышлі ў канаву. І аўтобус зноў нехаця завуркатаў: зноў быў грудок, была відаць вёска, уся, як на далоні, і за ёю — пад цёмны, завешаны рэдзенькаю сінечаю лес — доўгія будынкі, кароўнікі ці стайні, над імі громаадводы з растапыранымі лапкамі на вяршку, як што шчупаюць угары, і над вёскаю, высока ў небе, пад белаватаю набрынялаю хмаркаю трапечуцца і ўсё вісяць на адным месцы два галубы. І мне зноў спамянулася тое лета, што было даўно, град, што пабіў на маладым алешніку кару — яна нават адстала на камлях з таго боку, адкуль ішла хмара. Спомніўся Марцінаў хутар і дзікі голуб...

Я знайшоў іх аж два. Назаўтра мы прыгналі каровы на местачковы поплаў — там хадзіў, звесіўшы крыло, падбіты ў град бусел. Адно вока ў яго было заплюшчана і ў крыві. У рукі ён не даваўся — біў, ляскаючы, дзюбай — і местачковыя дзеці паролі яго доўгімі кіямі здалёк, аж мне зрабілася шкода, і я адышоўся, каб не бачыць, і натрапіў на гэтых галубоў. Яны ляжалі ў лаг-

чынцы з вадою — адзін трохі на купінцы, на сушэйшым. Я падняў абодвух: той, што ляжаў у вадзе, быў ужо спруцянелы і халодны — галава ў яго целяпалася; у другога на воку яшчэ моргала сінявата-белая плевачка — у ім яшчэ тлела цяпло. Я паклаў голуба ў шапку: ён высах, акрыяў і пачаў варушыцца. Местачковыя дзеці заглядалі ў маю шапку і казалі, што гэта іхні, з мястэчка. Але на поплаў прыйшоў Марцін праганяць дзяцей ад бусла, выняў у мяне з шапкі голуба, пагладзіў яго і спытаў:

— Можа аддасі?..

Я маўчаў — аддаваць не хацелася.

— У мяне ёсцека клетка... Падлячу,— тады забярэш.

Я не хацеў, але паверыў. І праўда, праз тыдняў колькі, прыгнаўшы на сваю дзялку карову, я ўбачыў, што Марцін, стоячы на надворку, махае рукою — кліча мяне.

Я падышоў пад хату. Да мяне кінуліся, віляючы хвастамі, яго сабакі. Марцін маргнуў вачыма, пайшоў у сені і вярнуўся адтуль, трымаючы абедзвюма рукамі голуба. Голуб круціў галавою, выцягваючы шыю — на ёй сіняватай чырванню пералівалася пер'е. У Марціна варушылася, дрыжала ад радасці ніжняя губа. Ён пагладзіў голуба і падняў яго на далоні — схіліўшы набок галаву, голуб глядзеў на зямлю, мусіць, яшчэ не верачы, што ён ужо вольны. Сабакі, высалапіўшы языкі, цікавалі то на голуба, то на Марціна. Голуб прыгнуўся, натужыўся і, здаецца, няўмысна, спадцішка залапатаў крыллямі і паляцеў — нізка, пры зямлі і неяк улукаткі, як малады, як не навучыўся лётаць. Сабакі кінуліся за ім, падскокваючы ўгору і дзеручы ад злосці зямлю.

Я глядзеў на шэры знак, што варушыўся,

мільгаў, пераварочваючыся, над поплавам, над алешнікам пад мястэчкам, аж пачало ўсё кружыцца і мігцець у вачах. Знак растаў, расплыўся на шэрай хмарцы, і ў мяне нешта як адарвалася ў грудзях.

— Як усё любіць волю,— сказаў Марцін, тручы вочы: яму, мусіць, таксама заслязіла. Адышоўся пад хату, агляннуўся і спытаў яшчэ: — Шкада, нябось, га?

...Праз многа год, спамінаючы выпадкам гэтае далёкае лета, град, Марцінаў хутар, я заўсёды спамінаю гэты міг, гэтую хвілю, калі нізка над цемнавата-зялёным, аж да чарнаты алешнікам ляцеў дзікі голуб, трапятаўся, нібы паперка на ветры, прападаючы назаўсёды з вачэй.

Не ведаю чаму, але і сёння я выразна помню, як ляцеў дзікі голуб.

А тады я пайшоў пільнаваць карову, думаючы, чаму чалавек не ўмее лётаць. Малому ўсё хацелася зрабіцца птушкаю, каб гэтак высока і вольна лётаць над зямлёю; усё заманьвала вышыня, якой цяпер не зношу: душу агортвае адзінота, калі глядзіш на зямлю здалёк, і яна здаецца табе мурашнікам, а сам ты драбнюткай макавінкай у гэтым бясконцым абсягу.

Цяпер жа цягне бліжэй да зямлі, і знайшлася ўжо нейкая жаднасць цвярдзей і мацней чуць яе пад нагамі. Ужо бярэ радасць ад таго, што ступаеш на мякаць муравое травы, што бачыш воддаль дарогі корч дзікае грушы, чуеш, як шархаціць, капае са стрэх і точыцца ў пясок пасля дажджу вада — і, бог ведае, якую ты маеш ласку ўсяму, што ты жывеш, глядзіш на гэты свет і будзеш паміраць у ім, як наканавана кожнаму. Вельмі ўвосень, калі выпадзе дзень прэлага сыраватага цяпла і стаіць нейкая празрыстая ціш і яснасць, калі

пасля лянівага туману з раніцы — уполудзень перад вачыма зазелянее жыта, тады надыходзіць гэтая жаднасць да зямлі і нейкая нядужая, саслабелая, як пасля хваробы, радасць стрэць ці ўбачыць даўнейшае...

За Кашалевам на грудках паказаўся лес: спярша з аднаго боку шашы — усё ельнік, панурыя, цёмны, з цёплымі капцамі мурашніку пры беразе на сонцы, потым — малады, нерухомы, сіваваты хвойнік, далей і ніжай — прагаламі балотца з купінамі зрудзелае асакі, белы рэдзенькі бярэзнік, і далей цёмны гушчар — малады грабнік — галавы не ўваткнеш, а з ім — дубы, яснязялёныя, як учора распусціліся. І зноў зварухнулася ў памяці, як у такую пору, ці можа трохі пазней, калі павыкопваюць картоплі, калі на стрэхах, на трэсках каля сметнікаў зашарэе з раніцы і цвёрда зашоргае на траве пад нагамі марозік, хадзіў сюды, у кашалеўскі лес, збіраць жалуды, ужо набрынялыя, патрэсканыя, каторыя з расткамі пад лісцем на зямлі. Спомніўся іх грукат у мяшках на печы і нейкі гаркаваты, сухі, аж сцягвае ўсё ў роце, іхні смак. І цёмная і слізкаватая, што крухмал, іхняя мука...

Спамянулася тая восень, як мы з Марцінам Дзікуцем наабдзіралі з яловых пнёў паўнюткія, як паднесці, торбы сырое слізгаватае «губы», і не на трут для крэсіва, а на лякарства. Ад хворых на сухоту (у мястэчку быў тады шпіталь для інвалідаў вайны) Марцін дачуўся, што «грыбок», настоены на гарэлцы,— найлепшае лякарства ад сухотаў. І нехта дакляраваў, што купіць, дасць 50 рублёў за кілаграм (вядома, старымі грашыма), калі мы нарвём і прынясём гэты «грыбок» у шпіталь. Марцін падгаварыў мяне, і я пацягнуўся з ім сюды, у кашалеўскі лес. Помню, зранку

церушыў, а да полудня разышоўся спорны дождж, і мы добра вымаклі, пакуль натрапілі з краю лесу на яловыя карчы. Наабіваўшы сырое «губы» і папалуднаваўшы,— я частаваў Марціна сухаватым, з цвёрдаю скуркаю, вылежалым за лета на гарышчы салам, кавалачак якога мне дала маці з сабою,— Марцін круціў папяросу з зеленаватага, высушанага на бляхах у печы тытуню, і, абкусваючы край цвёрдае паперы, пытаўся:

— З пуд будзе? — ён наслініў паперку, прыгладзіў пальцам папяросу і, не ўстаючы з пня, трохі падняў ад зямлі сваю торбу.— І ў цябе на рублёў...

Марцін раптоўна змоўк, сцішыўся і, задзіраючы ўгору галаву, пачаў узірацца ў неба — над лесам крычаў крумкач — расцяжна, сцішна: крум-крум.

— Кажуць, калі гэтая пташка сядзе на чыюнебудзь страху, той памрэ.— Але махнуў рукою і пашыўся ў кішэнь па запалкі.— Ат, усе памром... А зрабілі мы з табою добра. Толькі глядзі — нікому не прагаварыся...

Я, вядома, прагаварыўся — ужо потым, як не было на свеце Марціна. Я і цяпер думаю, што чалавек чуе сваю смерць. Яшчэ і назаўтра ў Марцінавых вачах асталася нерухомасць і нейкая каламутная сцішанасць, як у глыбокай вадзе.

Мы насілі ў шпіталь прадаваць «губу». Я чакаў Марціна за крамаю, ашаляваным аполкамі домікам з жалезнымі прантамі ў вокнах і з завалаю на дзвярах, што стаяла напроці шпітальнае прахадное. Каля маіх ног ляжалі тыя дзве торбы з мокраю «губою». Праз якое паўгадзіны Марцін прывёў сюды хударлявага чалавека ў сіняй байкавай піжаме з шэрымі закарвашамі і ў пантоф-

лях на босую нагу. Белыя, з сіняватымі жылкамі рукі чалавек трымаў у кішэньках.

Марцін развязаў торбу. Чалавек у байкавай піжаме прыжмурыўся, нагнуўся над торбаю і, выпростваючыся і закідаючы худою рукою назад валасы, спытаўся:

— Што ж вы прынеслі? Мне трэба во,— і выняў з кішэнькі лісток сухога, усё роўна як абадранага з каменя, лішаю — грыбок, што расце на дубах.

Голас у чалавека быў нядужы і сіплаваты.

Марцін узяў з рукі ў чалавека лісток, патрымаў на далоні, падносячы да носа і ўзіраючыся, потым плюнуў і штурхнуў босаю нагою торбу — з яе высыпаліся тоўстыя пляйстры яловае «губы».

— Каб чалавек ведаў... Мы і на гэтую нарасць кажам «грыб». А такі лішай, і праўда, расце на дрэве.

— Яго і нарвіце. Тут у нас купяць. Многім, кажуць, ён памагае,— чалавек суха і нямоцна пакашляў, патаптаўся каля нас і пайшоў, сагнуўшыся і трымаючы рукі ў кішэньках.

Марцін паглядзеў яму ўслед, падняў сваю торбу, вытрасаючы яловую «губу».

— Доўга не паходзіць... Кажа, захварэў на сухоты на фронце. А мы на яго рубель пагналіся... Грэх, браце, грэх, таму і не пашанцавала. А ты схадзі, прынясі яму гэтага лякарства,— сказаў Марцін, аддаючы мне той сухенькі лісток лішая...

І я потым схадзіў, ужо разам з дзецьмі, і нарваў торбу гэтага лякарства: яно расло на дубах, вісела зеленаватымі карункамі на камлях, усё болей з таго боку, дзе няма сонца, і высока ад зямлі.

Марціна Дзікуця ўжо не было на свеце. Яго за-

білі ў той год, як выпаў град. Гаварылі, што Марцін капае чужыя картоплі, і ўсе бегалі прыцемкамі на поле. Аднаго вечара я з маці пайшоў пільнаваць свае: там асталіся начаваць, прысыпаныя пырнікам і сухім картаплянікам, два мяхі накопанае мацераю картоплі; маці не дапрасілася ў вёсцы каня, а бацька не паспеў панасіць іх дадому — яшчэ завідна ён выпраўляўся ў мястэчка вартаваць склады.

Тая ноч была сыраватая, глухая, і нам з маці было страшна: казалі, знайшлася «чорная кошка» — у мястэчку раздзявалі людзей, абкрадалі сельпоўскія крамы і застрэлілі праз акно старшыню сельсавета — помню, рудога, насатага чалавека ў зношаным кіцелі, з пацёртаю скураною сумкаю ў руцэ.

На поле мы выправіліся шараю гадзінай — у мястэчку ўжо загарэлася электрычнасць, і вострае, тоненькае, як трэшчыны на шкле, святло калола ў вочы. Мы спатыкаліся, абмацваючы нагамі цвярдзейшы грунт, тую нераз'езджаную, зарослую травою сценку, і палохаліся дзе якога ядлаўцовага куста — выдавала, што там стаіць чалавек ці бяжыць воўк, і трэба было прысядаць, нагінацца, каб пазнаць, што гэта.

Было сціпіна, не аказваліся Марцінавыя сабакі. Хата, здаецца, урасла ў цемнату, на белаватым небе былі знаць толькі комін і шапка на кійку — нібы хто залез на страху і выцікоўвае нас. Толькі на Войнавым полі нешта тупала, шастаючы сухім картаплянікам. Тупат чуўся перагонамі, нібы хто бег, падаў і зноў бег. Раптам нешта як запішчала, нібы сава драла зайца, потым глуха енкнула, застагнала, што ў падушку, і сціхла.

Мы сядзелі на сваіх мяшках з картоплямі. Маці нават ссунула з галавы белую хустку, на-

стаўляючы вуха ў той бок, адкуль быў гэты тупат, і ціха пытала:

— Там як што робіцца?

— Тупат блізіўся сюды, да нас.

— Вунь пабег у нашыя картоплі! — зашаптала і прыгнулася маці. Мне ў грудзі вострым холадам кальнуў страх. У другім канцы поля было відаць, як нехта бег, лукаткамі і сагнуўшыся, і раптам упаў у нашым картаплянішчы.

— Дальбог, будзе капаць картоплі,— стрывожылася маці і выцягнула з-пад мяне капач — яна яго не брала дадому, а пакідала кожан раз тут, на полі, прыхаваўшы сухім картаплянікам.

Я ціха сядзеў, баючыся нат зварухнуцца.

— Уставаймо, прагонім, наробім крыку... Во — чуеш — капае...

Там нешта цвёрда дзынкнула, як хто, папраўдзе, трапіў капачом у камень.

Маці паднялася з мяшка, насоўваючы на галаву белую хустку.

— Што ты капаеш! — крыкнула маці, але голас у яе захлынуўся, нібы яго таксама перахапіў страх. Яна, мякка грузнучы ў перакапанай зямлі, ступіла колькі крокаў туды, дзе ўпаў чалавек.

— І яшчэ не ўцякае, думае — не бачу! — голас яе задыхнуўся.

Я крадком пайшоў за мацераю, наступаючы дзе на сухі асот — ён вострай гарачынёю апякаў босыя ногі.

— Панадзіўся, як у сваё,— яшчэ раз крыкнула маці і аглянулася на мяне, мусіць, ужо баючыся злодзея сама.

А там як хто капашыўся, шастаў картаплянікам, поўз і стагнаў.

— Усё адно як стогне,— сказаў я.

— Няўжо? Няхай крые бог, што гэта? — маці пачала адступацца, трымаючы нагатове капач.

І адтуль, здалося, нехта клікаў мацеру:

— Броня, Броня...

— Ці мне падалося, ці не: во як кліча мяне? — маці нібы сумелася.

У мяне, што ад холаду, шэрхла скура — уставалі валасы.

— Броня, памажы. Ідзі сюды, Броня,— голас быў нападобе Марцінаў.

— Мусіць, Дзікуць...

— Няўжо? — маці не то здзівілася, не то спалохалася.

У картоплях нехта варушыўся і поўз да нас. Я прысеў і ўбачыў нешта чорнае — пэўна, спіну: чалавек поўз ракам.

— Броня, родненькая, памажы!

— Ага, голас як Дзікуцеў,— спатыкаючыся, маці падступілася туды, дзе стагнаў і варушыўся чалавек.

— Марцін, гэта ты? — маці нагнулася, узіраючыся здалёк, што робіцца там, у картоплях.

— Я, Броня, я... Памажы ўстаць,— у картоплях ракам стаяў Марцін Дзікуць, намагаючыся падняцца.

— Марцін, што ж гэта з табою? — маці падступілася бліжэй, яшчэ ўсё не верачы, што гэта ён, Марцін Дзікуць.

— Знявечылі, забілі... Ой-й, Бронечка! — нібы яго парнулі чым вострым і глыбока, аж дастаўшы да сэрца, застагнаў Марцін і падняўся на ногі. Голас у яго быў глухі і хрыпеў.

— Ах, божачка, ды хто ж гэта цябе? — маці падхапіла Марціна пад пахі.

— Войны, Бронечка,— ён хістаўся, як п'яны.— Яны недзе тутака, хіба можа ўцяклі, як

учулі, што ты крычыш.— Марцін быў без шапкі, валасы зліпліся, мусіць, ад крыві, і яна цякла чорнымі рагамі, заліваючы вока, толькі другое, непадбітае, злосна блішчала ў цемрыве.

— На, хоць абапрэшся,— маці дала яму капач і ўзялася за яго руку вышэй локця.

Мы павялі яго пад хату. Яна злівалася з чарнатою поля. Там недзе ад злосці зайшліся і кінуліся сюды сабакі — і раптам сціхлі, пэўна, абнюхалі Дзікуця, і толькі чуваць было, як мякка скакалі і дыхалі, мусіць, высалапіўшы языкі. Потым замільгаў адзін, белы, і, яхкаючы, кінуўся Марціну на грудзі, закруціўся каля мяне, б'ючы хвастом па калашыне.

— Позна, Дружок! — загаварыў Марцін да сабакі, і той аж прылёг на пярэднія лапы.— Дзе ты быў раней? Во забілі мяне...

— І за што, Марцін? — голас у мацеры падабрэў.— Каб гэтак знявечыць. І за што, скажы...

— Чаму не, скажу. І ў цябе накапаў кошык картопель, во ўчора...

— Ды каб за кошык картопель?.. Божа!

— Пачакай, Броня, я прысяду, не магу ісці. Слабасць, цямнее ў вачах,— ён сеў, ды нават не сеў, а неяк асунуўся на калені.— А ў Войны і кошыка не накапаў, я толькі ішоў цераз яго поле...— Марцін трохі падняў руку,— а ён во... біў прэнтам па галаве. Ці дажыву да раніцы. Дзяцей шкада, як жа ж яны без мяне?..

— Каб, можа, да доктара? — маці ўзяла яго пад пахі, зноў памагаючы ўстаць.

— Не, Броня, так ужо бог даў. Ой,— ён застагнаў, сагнуўся і ўжо не ішоў, а цягнуў, як нежывы, ногі.— Ды куды ж сярод ночы па таго доктара? Яны мо толькі і пільнуюць, ці пойдзем мальдаваць. А дзяцей, Бронечка, шкада...

У Марцінавай хаце не было агню. Сляпою цемнатою блішчэлі вокны — дзеці, мусіць, спалі.

Каля хаты Марцін трохі выпрастаўся. Маці памагла яму падняцца на парог. Ён узяўся рукою за клямку і ўваліўся ў чорную прорву сяней.

— Я ўжо сам... Ідзі, Броня, дадому,— ён нечым там грукнуў, мусіць, устаючы і шукаючы дзвярэй у хату.

...Цярэз-паля мы беглі дадому. На ўсходзе між навалы хмар заяснелася неба — браўся ўсходзіць месяц. Весялела ноч. А на Марцінавым хутары пачалі брахаць сабакі, неяк усё гыркаючы, як там хто хадзіў і дражніўся. Зрабілася сцішна, і нуда брала за сэрца.

— Божачка, за што ж яны чалавека,— маці прыпынілася (яна, пэўна, усё думала пра Марціна) і ціха, нагінаючыся, гаварыла да мяне.

...Аўтобус я спыніў напроці вёскі. І ён зноў доўга вуркатаў, у маторы нешта скрыгала, як там церлася ржавае жалеза аб жалеза. А я адчуваў нейкую вінаватасць, што гэта праз мяне шафёр, той малады хлопец у стракатай шапцы, ніяк не можа ўключыць скорасць і недзе, мусіць, злуецца. У грудзях дрыжала, і трохі як слабелі, аднімаліся ногі — ці то з дарогі, ці то ад таго, што так скора і нечакана бачу сваю вёску — ужо як чужую і меншую. І зрабілася трохі непамысна, што зараз каго стрэну, а ён, вітаючыся, будзе трохі сарамяжыцца, як малое дзіця, чырванець, і будзе яму несамавіта перада мною, і мне самому зробіцца ніякавата, як бывае заўсёды, покуль не асвойтаешся з чалавекам. Я перамяніў у другую руку чамадан і борзда перайшоў чужыя падворкі — рады, што нікому не трапіў на вочы, і ўжо азірнуўся на шашу — аўтобус ціхенька і ўпарта пасунуўся, як вялікі жук, і зад яго падкідала на

ямках. Я трохі паспакайнеў, сцішыўся; знайшлася весялосць, што я дома, што бачу сваю хату: з гэтага боку ад шашы — сені, якія некалі рабілі з бацькам. Спомнілася, як ачэсвалі дзеравіны, а перад гэтым прывязвалі да цвічкоў вяровачку, бацька шмараваў яе мелам, а потым адцягваў — вяровачка туга, ляскаючы, біла па акоранай жаўтаватай дзеравіне, і на ёй аставаўся роўны белы шнарок. Было дзіўна, што помніцца гэты шнарок, і ўзялася радасць, што чую, як недзе на вуліцы за гушчаром бэзу хрыплавата і нядужа пяе малады певень — мусіць, ужо наш, што бачу, як каля парога курыца дзяўбе гурок-насеннік, які, мусіць, прынесла з гародчыку.

У хаце быў бацька. Ён высунуўся з-за грубкі нейкі ўвесь зблажэлы, і я ўбачыў, што ён паменшаў і зрабіўся нейкі трохі сухі, што ў яго змянілася хада, калі ён ішоў да мяне вітацца, намацваючы нагамі падлогу, як ходзяць старыя, і неяк няўмела, растапырыўшы пальцы, падаў мне руку. І стала шкада, што старэе бацька.

— Вот трохі нездаровіцца, сынку,— бацька прысеў на ўслоне каля стала, сагнуўшыся, упёршыся рукамі ў калені.— Нага ўсё баліць...

— А дзе ж маці? — спытаў я, распранаючыся і пачапіўшы плашч на вешалцы, што была, як і некалі, між вокнаў.

— Гэта ж пайшла адспёўваць нябожчыка. Памёр Война.

— Клемус?

— Ага... Гаварыў, не ідзі, не свянціся ўжо з гэтым набажэнствам... Так не, кажа, грэх... Пайшла.

Касцёла ў нас няма даўно, і мацеру клікалі адспёўваць нябожчыкаў. Яна брала з-пад бэлькі сшытую чорнымі ніткамі без аднае акладкі

«ксенжку для набажэньства» і нейкія старыя, з расхістанымі вушкамі акуляры — бог ведае, як яны знайшліся ў нас,— і ішла.

І было трохі нязвыкла, што маці яшчэ ходзіць адспёўваць нябожчыкаў, і адначасна дзіўна, што сціраецца след таго даўняга,— бо над сталом няма лямпы са шкляным магазынам, з паліванаю талеркаю-абажурам, у якой заўсёды падскокваў жаўтаваты-ясны язычок полымя, калі адчынялі ці зачынялі хату, прыстукнуўшы дзвярыма, а вісіць вялікая, мусіць, на сто ват, электрычная лямпачка, і на сцяне суха патрэсквае карычневая скрыначка-рэпрадуктар.

Потым зноў нагадалася даўнейшае, калі вярнулася маці і пачала трэсачкамі распальваць у печы, шоргаючы панівою па прыпеку, а потым засцілала стол вытканым «у каробачкі» абрусам, калі селі вячэраць і яна прыгубляла чарку, калацілася і пытала:

— Як жа ж людзі п'юць? Але праўду кажуць: кепска замуж, але йдуць, горка водка, але п'юць.

А ў хату, як і некалі, коса глядзела сонца, востры слупок адным ражком даставаў аж да ложка, а за акном, у гародчыку, на бэзе скакала шэра-карычневатая пташачка з жаўтаватым воллем, і сухі вецер варушыў на бярэзіне доўгае вецце, нібы хто браў яго спаднізу рукою і паднімаў угору.

— Як жа ж тваё там? — маці глядзіць на мяне, а я думаю, які ў яе ўжо зморшчаны твар і як ужо выцвілі і сталі жаўтлявымі вочы, і каля губ знайшліся шнары, толькі, здаецца, голас у яе трымаецца той самы. Дзіўна, але старэйшых людзей у вёсцы я пазнаваў здалёк не па твары, не па выгляду, а па голасу.

— Чаму ж, я кажу, не прывёз? Няхай бы пабегалі тут. Большы як быў, во бабы на полі хвалілі.

— Во, зраўняла,— бацька смяецца, і мне трохі дзіўна, што ён ужо шчарбаты і трохі свішча,— яго — гарадскі, а тут што: ходзяць смаркатыя ды без портак.

— Як чыё і як да дзіцяці. Вунь Ладкаў, каб бачыў, які спрытны. У мястэчку ў клубе ўсё спявае. І да работы... Каня вунь сёння запрог, як Клемуса хавалі... Гэта ж ці чуў? — маці зноў пварочваецца да мяне.— Клемус Война памёр.

— Чуў,— ківаю я галавою,— бацька гаварыў.

— Ды нейкаю наглаю смерцю... Пайшоў да ветру на сметнік і не ўстаў... Ёсцека бог на свеце. Гэта ж, ці помніш, Дзікуця некалі забіў. Таго Дзікуця, што каля нашае дзялкі жыў, што сабак усё трымаў. Ці, можа, ты ўжо і забыўся...

— Чаму, мама, я забыўся,— кажу я, і мне спамінаецца, як пустую Дзікуцеву хату з забітымі вокнамі — дзяцей ужо забралі ў дзетдом — пільнавалі сабакі. Яны ўсе трое сядзелі пры дарозе каля круглага каменя, соваючыся да кожнага, калі хто хацеў падысці пад хату. Двое пасля недзе прапалі ці сышлі — па ялавіне бегаў толькі адзін — белы, з перахлябленым худым азадкам. І я помню, як яго забілі. Ужо на маладое жыта пускалі авечкі — зямлю ўкаваў мароз, а Клемус Война прыганяў нават сваіх двое спутаных коней. І тады нечае ягня схапіў Марцінаў сабака. Дагналі яго каля хаты. Ды ён нікуды не ўцякаў, ён лёг каля круглага каменя, наставіўшы поўсць, шчэрыў зубы, гыркаў і падграбаў пярэднімі лапамі пад сябе ўжо нежывое ягня.

— Чаго гледзіце? — крыкнуў Война.— Ён ша-

лёны,— і, азіраючыся кругом сябе, знайшоў вялікі, як падняць, камень.

Сабака прыціснуўся да зямлі, вочы яго закаціліся недзе пад лоб, але не ўцякаў.

— Бі, хлопцы! — Клемус размахнуўся і з-за вуха кінуў цяжкі камень — пацэліў сабаку ў спіну.

Сабака заскавытаў, выцягнуўся і папоўз, трымаючы ў зубах ягня.

— Не пускай, не давай уцячы! — крычаў Война.

Сабака падняўся на ногі, але нечы камень адскочыў ад яго галавы. Сабака ткнуўся мызаю ў зямлю і выпусціў ягня.

— Пераймай, не давай яму апомніцца,— Война скінуў з сябе доўгі кажух.— Жывушчы, але я яго ўбяру, быць не можа...

Сабаку перанялі за маладымі хвоечкамі — ён ужо цягнуў перабіты азадак, неяк усё гэльцаючы пярэднімі лапамі.

Война кінуўся пад хату і сарваў з акна дошку.

— У-у, я зараз... У мяне, брат, толькі дробненька з...іш і богу душу аддасі.

Пастухі зарагаталі.

Сабака ўжо не поўз, а толькі неяк бокам круціўся на месцы — яго па галаве кантам дошкі біў Клемус Война. Мы, дзеці, адышліся — глядзелі здалёк. Война плюнуў, шпурнуў у хвоечкі дошку і падняў з зямлі кажух, накінуў сабе на адно плячо.

— Нічога, патрапечацца і дойдзе. А жывушчы, ядры яго палку...— Война рукавом выцер змакрэлы лоб.

Мы пайшлі пільнаваць авечкі, аглядаючыся ўсё на сабаку: ён, лежачы на спіне, трэпаў задняю нагою — даходзіў.

Назаўтра мы бачылі, як ён ляжаў недалёка ад тых самых хвоечак, уткнуўшыся акрываўленаю мызаю ў пясок і выцягнуўшы спруцянелыя ногі. На ім, як і на ягняці, шарэў мароз...

— Некатарага году хлопец яго прыязджаў,— маці зноў гаворыць пра Дзікуця.— Каб бачыў, які хлопец,— выкачаўся, выліняў... Тут усе дзеўкі за ім... Кажуць, вывучыўся на нейкага голага.

— Мо геолага?

— А ці ж я, сынок, ведаю.

— Каб жыў Дзікуць,— бацька ап'янеў, расчырванеўся, нібы паздаравеў, і яго сінія вочы заблішчалі, як у маладога,— то і хлопец гэтак хадзіў бы: адзін лапаць, адзін бот...

— Ты ўжо выдумляеш...

— Думаеш, маню. Каб не бачыў — сам веры не даў бы. Едзе на возе, звесіў ногі праз драбінкі — адна абута ў хадак, а другая ў бот,— бацька смяецца да мяне, і я бачу яго шчарбаты рот і зноў думаю, як ён скора састарэў.— А што, сынку, думаеш — за польскаю добра жылося?

І гутарка пайшла пра даўнейшае і пра тое, як жывуць цяпер.

А потым маці вадзіла мяне ў хлеў паказваць, якую яна купіла авечку — маладую, з чубам — і якая ў яе доўгая воўна.

Заходзіла сонца — хавалася, як тонкі грош у шчыліну, між хмар і выязджала зноў. А са страхі каля вугла спускаўся на невідочнай павуціне дагары нагамі вялікі павук. Над сцежкаю ад хлява да хаты таўклі камары мак. І мне пачало здавацца, што я нідзе не быў, што я кожан вечар бачыў, як гоняць з пашы каровы, як далёка ззаду за імі цягнуцца пастухі, як ціха сакочуць

куры — просяцца на седала, збіраючыся каля парога, як скрыпяць вазы, шоргае аб камень кола і нукаюць на коней — возяць з поля картоплі.

Назаўтра была нядзеля, быў пагодны дзень з вастраватым ветрам. Толькі ў зацішку, дзе за вугламі прыгравала сонца, была астатняя, трохі пякучая яго ласка, як у немаладое кабеты. І я хадзіў у мястэчка — гэта таксама наш даўнейшы звычай нядзеляю ці святам хадзіць у мястэчка, хадзіць так сабе, дзеля разнастайнасці, дзеля весялосці — таптацца купкаю на рынку, стаяць ля крам.

Цяпер здавалася смешнаю і дзікаватаю гэтая весялосць, было ўжо дзіўна, што цяпер гэтаксама, як некалі, маладзіцы з вёсак мераюць, дастаўшы з кошыка, адломаным ад дзеркача дубчыкам чаравікі для дзяцей, а дзядзька, успёршыся на прылавак, панура глядзіць на хамуты — на ніжняй губе ў яго вісіць, прыклеіўшыся, папяроса, дым заходзіць у вока, і ён жмурыць яго.

На вуліцы каля плота стаялі кабеты: каля ног у іх валтузіліся ў мяшках парасяты — мусіць, уставалі на ногі і тыцкаліся лычамі, паднімаючы мяшок. П'яны чалавек з рудым, спечаным на сонцы тварам, з расхрыстанаю белай грудзінай крычаў маладым хлопцам, пэўна, са свае вёскі:

— Каму даць у морду?

— Усім, дзядзька. Пачынай па парадку,— азваўся баявейшы з іх.

І чалавек, падышоўшы да хлопцаў, стараўся абняць за плечы ўсіх.

Гэта быў таксама наш звычай. І гэтаксама, як і некалі, быў кірмашовы дзень: за высокім плотам з адламанымі дошкамі, са сцежкамі праз нечыя картоплі да гэтых дзірак стаяла некалькі базоў, параспраганыя коні ў аглоблях, а на вазах цэбры са слівамі, скрынкі з грушамі, але іх мала

хто купляў, людзі — адны кабеты — збіліся пад навесам, дзе прадавалася адзежа. Чырвонае маладое дзяўчо мерала зялёнае паліто.

— Дальбог, сядзіць як уліта.

— Як на яе і шылі...

— Дзіва што, каб за такія грошы не пашыць,— сказаў нейкі чалавек, і зноў у суконным фрэнчы і суконных галіфэ, падступаючыся на камень, каб бачыць, што там робіцца.

Бабы азірнуліся, і я ўчуў, як некаторая з іх сказала, ужо пра мяне:

— А во, Бронін прыехаў.

Мне зрабілася ніякавата, і я пайшоў і, здаецца, доўга чуў на спіне іх вострыя позіркі, пайшоў дадому — не шашою, а сцежкаю, што адлучылася ад шашы пад рэчку. Сышоўшы на рудаватае выпасенае балотца з вяночкамі зялёнае травы, адчуў лёгкую радасць, што я адзін, што дыхае тугаваты востры ветрык і паднімае крылы пінжака, халодзіць грудзі і недзе пад пахамі цячэ за плечы, што раптоўна шуміць і раптоўна сціхае алешнік — яшчэ зялёны здалёк, а зблізку лісце ўсё ў дзірках і спаднізу карычняватае, і наападала яго многа, і яно суха шасціць пад нагамі.

А калі ўлягаўся вецер, было чуваць, як ціхенька плюскалася вада ў рэчцы, нібы там купалася маладое дзяўчо і баялася, каб хто яго не ўбачыў.

Я пайшоў берагам: на вадзе бліскала, пераліваласа і сляпіла ў вочы разарванае сонца — рабаватыя палоскі-цені беглі па пяску на дне, і перакочваўся там-сям счарнелы альховы ліст-тапелец. Зялёнаю шапкаю водарасцяў выглядалі з рэчкі купіны. Пры беразе хісталася высокая, збэрсаная павуціннем мятліца і варушыліся дзе падсохлая крапіва і карычняваты шчаўюк.

Я падышоў да грудка, дзе некалі стаяла Марцінава хата, і здзівіўся, што няма тае высокае старое алешыны, што рэчка падмыла груд — сярод вады ляжаў пень, тоўстымі счарнелымі карэннямі ўгору, каля яго віравала вада, круцілася, плавала жаўтаватая шапка шумавіння, лазовы дубчык матляўся і выводзіў на вадзе глыбокі равок — здавалася, корч плыў проці вады і цягнуў яго за сабою.

Я перайшоў кладкаю на другі бераг. Яна ледзьве ліпела: нехта клаў на ёй агонь — павыпальваў жэрдкі. На другім беразе цягнуліся каровы, шукалі лепшае травы, адмахваючыся галовамі ад куслівых асенніх мух. Адна, бязрогая, рабая, тупавата глядзела з высокага берага ў рэчку — мусіць, хацела піць.

І балотца каля грудка здалося мне чужым і голым — і я ўспомніў, што тут павысякалі маладыя алешнік: на купінах каля корчыкаў рос марны хвошч, сохлі кучкамі жаўтаватыя воўчыя грыбы на танюсенькіх ножках. Толькі адзінока сумаваў разложысты кусцік старое шыпшыны, і на ім чырванелі спелыя ягады.

Я падняўся на грудок, і нейкаю жальбою агарнула маю душу. Там, дзе некалі былі хвоечкі, цяпер маўкліва цямнеў сіваваты маладыя лясок, пасеяны год дзесяць назад, ужо не пры мне. Высока над ляском, і не было відаць дзе, драў горла крумкач — расцяжна і счакаўшы — крум-крум. А тут, дзе стаяла некалі хата, горбаю ляжала патрушчаная цэгла, між яе выбілася трава і паднялася ўжо высокая бярэзінка; каля круглага каменя пераспела і хісталася сухая крапіва, а там, дзе быў якраз покуць, цвіло ліловым цветам каліва смакатухі. Сярод двара, недалёка ад котлішча, зелянела таўставатая ліпка з адламаным

вяршком — я ўжо і не помню, ці расла яна тут.

І мне зрабілася тужліва, што няма хаты, раптоўнага брэху сабак, старое алешыны — усяго таго, што было памяткаю малых год. Я заплюшчыў вочы і, здаецца, зноў убачыў Марцінаву хату, купіны зялёнага сыраватага моху на страсе, кошык на шчытку для галубоў, і, здаецца, учуў, як зайшліся ад злосці і недзе з-за вугла пакаціліся да мяне сабакі. І неяк раптам ціха, нібы баючыся, іх паклікаў Марцін:

— Цю-цю-на-а, цю-цю-на-а.

Я адкрыў вочы, пастаяў яшчэ колькі і пайшоў.

Халаднаватасць вечара кралася на балота — цень ад мяне быў доўгі і доўгі цень ад алешніку. Недзе далёка на полі надрываўся і раптам глух трактар. За алешнікам, на шашы, з ляскам страляла машына, потым нізка і густа гула, нібы пад зямлёю. З гвалтам ляцелі, расцягнуўшыся, гракі — астатні крычаў, усё роўна як ікаў. Зашарахцела грамадка шпакоў, і даўгахвостая тоненькая пташачка ціліўкала, даганяючы іх.

Адсвечвалі чырванню вокны ў нашай вёсцы — там яснелі галасы, рыкала недзе ў гародах каля вёскі цяля.

Я агледзеўся на Марцінаў хутар: сонца стаяла нізка — баба качаргой дастане — якраз над тым бугрудком, дзе была калісь Марцінава хата. На балоце, як хто накінуў вялікую сетку, блішчала тапюсенькае павуцінне.

І мне зноў падалося, як недзе там, на грудку Марцін клікаў сваіх сабак:

— Цю-цю на-а, цю-цю на-а!

Я, здаецца, выразна чуў яго голас.

# Кароль Нябожа

Летась на «рускага Пятра» (яго рэдка дзе цяпер святкуюць у нашым баку) малодшыя ў вёсцы бабы спраўлялі «велькую гарэлку» — пілі цэлым звяном, балазе кончылі палоць лён.

Пасля шчырага дажджу, полуднем, вецер сушыў купіны зялёнага моху на страсе і вымытую ўдзень даёнку на плоце. Толькі на вішні, перад акном, матляхала яшчэ сыраватымі рукавамі зношаная, з вырваным плячом, рубашка — страшыдла ад сарок і шпакоў — і на лічаннях капусты, што расла ў гародчыку і не бралася яшчэ ў галоўкі, дрыжала растопленым волавам тлустая вада.

Перад парогам у пустым карыце чубіліся біцца, натапырваючы мокрае пер'е, бясхвостыя пеўнікі, і на прыгуменні мыкала, закруціўшыся вяроўкаю за калок, пярэстае цяля.

Але ў хаце не чулі. П'яныя бабы ўставалі з цвёрдае лавы, адпіхалі жыватамі стол і выходзілі на сярэдзіну хаты. Пабраўшыся ў пары, шоргалі босымі нагамі па чорствым гліняным таку; па жоўтых сухаватых лытках матляліся чорныя паркалёвыя спадніцы, і ў вокны віўся клубкамі пыл — горкі, ад яго пяршыла ў роце.

Толькі адна, каторая не мела пары, сядзела на покуце, выцінала языком польку і біла па стале счарнелаю дзеравянаю лыжкаю; на край ехалі шчарбатыя алюміневыя відэльцы, а ў шклянцы калыхалася і, здаецца, аж курылася сівая, як туман, недапітая на палец самагонка.

Бабы прытупвалі сухімі патрэсканымі нагамі і падспёўвалі: «Цягнуў ногу на дарогу, як выцягнуў, так пайшоў». Хусткі ў іх з'язджалі на патыліцы, і было відаць, як трасліся дробныя, сабраныя з рэдкіх пасечаных валасоў, іхнія куклы.

Змогшыся, бабы пападалі на ложак і там ужо аддыхваліся, падцягвалі на клубах спадніцы, убіралі за пояс кофты і папраўлялі валасы. Шчокі ў іх раз'ятрана гарэлі. Толькі тая, чарнявая, дробная ў твары, што сядзела на покуце і выцінала языком польку, была спакойная і, падсунуўшыся цяпер да акна, глядзела на двор: з вуліцы ў надворак заварочвала фурманка. Вялікі гняды конь з сытымі персямі раптам тузануўся і стаў — зачапіўся задняю воссю за рог плота. На частаколіне заварушылася даёнка, і з перапуду, махнуўшы голымі крыллямі, ад карыта адскочылі цыбатыя кураняты.

— Ці не стары Кароль Нябожа прыехаў? — спытала чарнявая маладзіца, не азіраючыся на хату.

— Дзе? — бабы пасхопліваліся з ложка і павіслі перад акном адна адной на плечы.

— Нос у яго велькі, дальбог, пачуў гарэлку,— сказала некаторая з тых, што глядзелі праз другое акно.

— Гэты нос і так ужо набраўся.

Конь пацягнуўся да травы, і на вочы яму пасыпалася скалмачаная, у шышках ад дзядоўніку, грыва. Зноў затрашчаў плот.

— Дальбог, загарадзь паломіць! — забедавала вялікая бялявая гаспадыня, кінулася ў сені і не зачыніла за сабою дзверы.

Счакаўшы, за ёю выбеглі ўсе. Узяўшыся за цуглі, бялявая заварочвала каня: воз крута вяр-

нуўся набок, аб драбінку шоргала пярэдняе кола.

— Назад, назад трохі дай,— крычалі ад парога бабы,— бо, дальбог, выкінецца чалавек з воза.— І беглі брацца за дышаль, каб адцягнуць воз назад.

— Авой, гэта ж ён нежывы! — крыкнула адна і адскочыла ад воза.

Разапрэлыя бабы раптам звялі, працверазелі і сціхлі. На возе ў палукашку, прутка выцягнуўшы ногі, ляжаў з адкрытымі невідушчымі вачыма сухі і скамянелы ў твары Кароль Нябожа. Шапка ў яго з'ехала — вецер перабіраў сівыя валасы...



Караля ў той дзень бачылі ў мястэчку: было гэта пад дванаццаць — ён стаяў з возам каля пераезду. Мільгаючы зялёнымі вагонамі, прайшоў прыгарадны цягнік, але шлагбаума яшчэ не падымалі.

— То адчыняй, чаго стаяцьму! — крыкнуў з воза Кароль. Ён сядзеў на анучах, натрамбаваных пад самыя драбінкі; яго востры і загнуты да губы нос глядзеў з-пад салявога мяшка, насунутага на самыя вочы: разышоўся той самы дождж, што рабаціў гладкае каменне на шашы і крапіў палеглую ад пылу траву ў канаве.

«Пераездчык» усміхнуўся, не адкрываючы, а толькі расцягваючы губы, заткнуў за халяву скручаны жоўты флажок і пайшоў паднімаць шлагбаум; на канце брыля ў яго дрыжалі дажджавыя кроплі.

Недзе на станцыі аціхаў цягнікоўы шум, а тут, на пераездзе, яшчэ ляскалі мокрыя рэйкі. За чор-

ным насмаленым дахам доўгага склада вяла ўставаў густы, хоць ты па ім качайся, белы дым. А тут пырскаў, шапацеў, як што шукаў, дождж. Блішчала мокрая бляшаная страха на пераезднай будцы. Цвіў зялёным лішаём на другі бок чыгункі нізкі плот.

Кароль думаў, што вот мокнуць анучы і можа прыйдзецца варочацца дадому і што вот круціць — абы дождж — руку, а ён ад самае зімы ніяк не збярэцца да доктара.

— Эй, чаго заснуў!—ляпнуў дзвярыма «пераездчык» і схаваўся ў будцы.

Кароль тузануў за слізкія лейцы, конь уздрыгнуў мокраю скураю, натужыўся і пайшоў. На пераездзе падкінула і пачало трасці воз.

Мястэчка было мокрае, соннае: па гонце на стрэхах, па цёмным бэзе ў гародчыках холадна расіў дождж. Нізкія прысадзістыя яблыні хавалі ў сваім лісці дробныя, з курачае яйцо, яблыкі. За рогам высокага плота востра трашчаў і рапстам глух нядужы матацыкл: там была аўтобусная станцыя — конь завярнуў туды; ён ведаў дарогу сам. Тут ціханька мок пусты, з адчыненымі дзверцамі аўтобус, а бабы сядзелі пад навесам і чакалі «свайго».

Прыпёршыся да слупка, стаяў мужчына з перавязаным вокам, на хустцы цямнела, запёкшыся, кроў.

— Ці не Восіп? — Кароль адхіліў ад вачэй салявы мяшок і пазнаў з свае вёскі колішняга брыгадзіра.— Хто ж гэта цябе так?

— Хто ж, як не свой! Швагер вунь...— чалавек падняў галаву.— У бальніцу іду, хай спраўку дадуць.

— Ага...— Кароль скіраваў у вулачку між глухою сцяной хаты і драцяною загарадздзю ў

дзве столкі. За ёю ўжо цвіла ліловым, як вылінялым, цветам ранняя картопля.— Б'юць? А табе і не вадзіць. Думаў — век будзеш цараваць? Прыйшло і на цябе...— Кароль ужо гаварыў сам сабе.

Колы шоргалі па пяску, ён браўся за шыны і адвальваўся ў каляіны сырым цестам.

За картоплямі, за драцяною загараддзю на голым дворышчы шэрхлі на дажджы козы: у аднае на шыі целяпалася качалка. Каза паднімала абедзве нагі разам і скакала да калючага дроту, у картоплі.

— Куды цябе нясе? — крыкнула і адлучылася ад шэрае сцяны блізкае хаты босая кабета без хусткі.

Кароль пазнаў дурнаватую Бортнікаву дачку — вярнулася хворая з Нямеччыны, так і не выздаравела. Бортнік памёр нагле на згоне зімы. Кароль так і застаўся вінен яму тры рублі — пазычыў яшчэ восенню.

— Тпру! — Кароль прыпыніўся і пачаў абмацваць на грудзях кішэньку — там меліся быць грошы.— «Трэба аддаць, аддаць хоць ёй. Чужога не спажывеш».

Прыпынілася і маладзіца. Яна была ў адной сукенцы на голае цела. У белых, роўных, як пруткі, валасах сядзеў грэбень. У руцэ яна трымала сукаваты, з сухое грушы, кіёк.

— Як жа цябе зваць? — абедзвюма рукамі Кароль зняў з галавы мяшок. За шыю пачаў церусіць халодны дождж.

— А ты не ведаеш, ці што? — маладзіца калупала сукаватым кійком пясок.

— Ведаю, таму і хачу аддаць табе грошы. Некалі быў пазычыў у бацькі,— Кароль разгладжваў скамечаныя паперкі.

Маладзіца глянула спадылба і не падняла галавы.

— Мяне не вельмі купіш...

І пайшла, ступаючы шырока, па-мужчынску, і б'ючы грушавым кійком па калючым дроце: дрот звінеў, з яго пырскала вада.

— Но-о, каб на цябе воўк! — Кароль махнуў рукою, прыпаднімаючыся і шукаючы пад сабою пугу.— Вот зачапі такую. Но-о-о!

Кароль круціў над галавою лейцы. Конь туліў вушы, адварочваўся ад дажджу. Кароль скіраваў на цвёрдую, уезджаную машынамі вуліцу — яна спадала ў лагчынку, і конь пабег сам — напіралі калёсы.

Радзеў, перасціхаючы, дождж. На нечым коміне асіпла ад крыку мокрая варона. Кароль пазнаў страху Красоцкага — загадчыка базы «Утыльсыравіны». За абвіслаю на плот чарэшняю жаўцела шалёўкаю сухая з гэтага боку сцяна.

Кароль тузануў лейчыну — конь скіраваў на масток з круглякоў цераз канаву і стаў, упёршыся ў высокую з дошак браму. У двары гаўкнуў і зазвінеў дротам сабака. Кароль ссунуўся з воза, закруціў лейцы за шула і, прыгнуўшыся, знік за вузкімі веснікамі.

Сярод двара ў цабэрку з двума вушкамі мок фікус. У паліваную місу каля ганка цурком лілася са страхі вада. Сабака кінуўся з-пад буды, павіс на караткаватым ланцузе і захроп ад злосці — нашыйнік перацiскаў яму горла.

— І табе не брыдка? — Кароль патрос стусінавым пужальнем.— Жучок...

Сабака закруціўся на ланцугу, нехаця завіляў хвастом і пашыўся ў буду — аб дошкі за ім загрукацеў ланцуг.

У акне, што было на кухні, паказаўся кабецін

твар і знік: Кароль убачыў жонку Красоцкага. Пашоргаў чаравікамі па драбінках, што ляжалі перад ганкам, і знарок загрукаў перад дзвярыма, каб было чутно ў хаце.

— Во, дзядзька Кароль прыехаў! — прачыніўшы дзверы, кабета дзяржалася адною рукою за клямку, другою трымала сабраныя за патыліцу валасы — ці не збіралася іх мыць. Рукі ў яе былі голыя аж да плячэй.

— То ідзіце ж у хату,— кабета зняла з клямкі голую руку і пастаранілася.

— Не... Я тут з канём. Прывёз дабро. А дзе аспадар? — спытаў Кароль, не заходзячы ў сенцы.

— Спіць. Улёгся, і каторая пара.

— Ат, такое бяды. То можа вы адамкняце хлеў? — спытаў Кароль, так і не пераступіўшы цераз парог. Рагі яго фуфайкі набрынялі вадою. Пад нагамі ўжо збіралася лужына.

— Чаму ж не, толькі акрыюся,— сказала яна і мільганулася за сцяну, недзе да вешалкі.

Ён пайшоў адчыняць браму.

— Хаця ж не едзьце — фікус возьдзека.

Ён зняў з прабоя зашчапіцу і агляну ўся на яе голас. Яна ўжо спускалася з ганка: у мужчынскім пінжаку з падкасанымі рукавамі, у белай хустцы, што гладка ляжала на галаве, завязаная недзе аж на патыліцы пад валасамі.

— Пачакайце, ці ж адна падымеце — гэтакі ценжар,— сказаў ён і тузануў да сябе дзверы — адчыніў браму.

Яна чакала яго: падвязвала, каб, мусіць, не раскалоўся, фікус. Сукня на ёй падцягнулася вышэй каленяў. Ён падышоў, пільна ўзіраючыся на яе яшчэ пруткія, цвёрдыя ногі, белыя пад каленьмі. Яму заўсёды падавалася, што яна была кругом як тая бежанка, хіба трохі нізшая.

Бежанку тую ён меў даўно, у другое ці першае лета пасля вайны. Была яна тады адных год з цяперашняю маладзіцаю — бралася пад сорак, была дзябёлая, толькі паўнейшая ў твары, вузшая ў клубах, такая ж русавая, і надта ж белае цела — можа як і гэта.

Ён узяўся за другое вушка ў цабэрку з фікусам і адвярнуўся, каб не глядзець ёй у вочы: саромеўся, што пачало думацца старому пра ўсё брыдкае і маладое.

Яны маўчком паняслі фікус пад хату. На іх лілося са страхі, густа, як праз рэшата цэд, але дождж перасціх. На ясным небе за хлявом востра паднімала цёмны вяршок маладая высокая груша.

Міса каля ганка была поўная, як вока, кругом яе ўжо стаяла лужына, жоўтая, нібы з попелу луг, і ў пене. Маладзіца абмінула лужыну і пайшла да хлява, слізгаючыся па раскіслай гразі. Сабака высунуўся з будкі і скочыў лапамі ёй на ногі. Яна крыкнула на яго, адмахнуўшыся рукою,— на лытцы ў яе чарнела пісягаю гразь.

У адчынены хлеў Кароль уехаў з калясьмі. Пахла свежым гноем; у загарадзі рохкаў белы доўгі япрук і шоргаў спіною аб сцяну.

— Нябось, добрая скварка,— сказаў Кароль і павесіў торбу з сенам каню на шыю.

— Леташні быў як лось, а гэты закажанеў, нічагутка не есць,— маладзіца падняла з тока астаткі зелля, урэзанага картаплянiку і макрыцы, і кінула за загарадзь.

Кароль згроб з воза мокрыя анучы і растрос па таку ў пустой старане, дзе ляжаў яго палукашак — пакінуў некаторы раз,— і сказаў:

— Гадаваў бы і я, але хто карміцьме?

— Узялі б якую, ці ж мала?

— Не ў маіх ужо гадох.— Ён падышоў да воза і набраў бярэмаануч.— А быў панаравіў адну.— Ён ізноў падумаў пра бежанку.

— А кажаце — стары...

— Не цяперака, а як бежанцы ехалі ў першы год пасля вайны,— сказаў ён ужо каля сцяны, дзе горбаю кінуў анучы. Вярнуўся да воза і сказаў яшчэ: — Маладая была, не раўнуючы, як вы цяпер,— і ўкалоў вачыма.

Маладзіца пачырванела і схавалася за каня — сышла з яго вачэй.

— І чаму ж, дзядзька...

— Дзеці асталіся тамака.

— Скуль жа яна?

— Недзе з-пад Варонежа, з сяла Ганны, казала.

— І многа дзяцей?

— Трое, казала.

— Удава хіба?

— Чаму ж? Не,— ён прынёс і ўклаў у воз лазовы палукашак.— Інвалід толькі.— І яму прыпомнілася, што бежанчын, казала, прыйшоў з вайны без абедзвюх рук.— Трудна ёй прыйшлося, ой, як трудна,— сказаў Кароль і пайшоў знімаць з каня торбу. Завязаў яе і кінуў у палукашак, каб было мякчэй сядзець у возе.— Аб'ездзіў паўсвету, а назбіраў во — гляньце — жменю,— ён паказаў на анучы і ўзяў каня за вобруць каля мокрых, у зялёнай пене цугляў.— Цяпер парцянога нямашака, усё гэтая танюсенькая крамніна.

Ён даў каня назад — задзіраючы галаву і спатыкаючыся на парозе, аж асядаючы на воз, конь задам выйшаў з хлява.

Маладзіца зачыніла хлеў і пайшла наперадзе каня; каля ганка, каля місы нагнулася, узяла жменю вады і абмыла з лыткі гразь.

Кароль выехаў з надворка і спыніўся за мастком на вуліцы — зачыніць браму.

— Не мардуйцеся, я сама...— сказала маладзіца, ідучы да брамы.

— То добра,— крыкнуў Кароль, усаджваючыся ў палукашку на мяшок.— Скажыце свайму, што на днях прыеду.

— Ну ле, скажу,— яна стаяла ў расчыненай браме. Пад нагамі ў яе, як нанава адскочыла, зелянела трава.

Кароль ад'ехаўся і агледзеўся: яна ўсё яшчэ не ішла ў хату, каля чорнага плота была знаць яе белая хустка.

Свежаю шалёўкаю здалёк жаўцела сухая сцяна Красоцкавай хаты.

Стары Кароль думаў пра маладую Красоцкаву жонку і пра тое, што яна рыхтык тая бежанка.

Скрозь у хатах сохлі запацелыя вокны. На пустым дворышчы валтузіліся дзеці, білі нагамі мячык, што, мусіць, паляжаў на гарачай печы — бок у яго ўваліўся. Бортнікавай дачкі з козамі не было. І Каралю зноў успамянуліся тыя пазычаныя тры рублі. Падумаў, што грэх адзін — прапіць, і не скіраваў на дворышча, паехаў вуліцаю: так бліжай было да сталоўкі.

Конь плюхаў па лужынах: вуліцаю з грудка яшчэ сачылася вада, у калдобіне, дзе яе назбіралася многа, круцілася пена і плавала леташняя салома. З каня ішла пара, ён яшчэ добра не высах.

Перад вачыма ў Караля ўстаў Бортнік.

Было шкада, што Бортніка няма шака на свеце,— як шкада дрэва, што расце пры дарозе і яго зрэжуць.

За дворышчам стаялі новыя хаты, і Кароль ужо не ведаў чые,— людзі будаваліся хто адкуль

і хто як мог. Хаты былі са шпуру, з новага і старога дзерава. На шэрай абмошанай сцяне з жоўтымі шуфлядамі ў вокнах яшчэ без рам былі знаць крэскі ад сіняе крэйды — нехта перавозіў і перасыпаў стары будынак.

Хаты стаўлялі ўжо і на тым месцы, дзе за польскім часам быў свіны рынак, а вайною вучыліся нямецкія салдаты: джаламі на ружжах блішчалі шырокія багнеты. У Караля тады аж адарвалася ўсё ў грудзях — ён ледзве не насунуўся на гэтакі багнет. Перад ім стаяў немец, маладзенькі, і зубы белыя і роўныя, як не свае,— ён рагатаў, наставіўшы на Караля ружжо. Кароль ішоў глядзець Хоневу хату. Яна стаяла ў канцы свінога рынку: яшчэ новая, дзеравіна ў дзеравіну — адна смаліна.

Немец кіўнуў галавою — паказаў ісці назад, але Кароль не паспеў адысціся: ніжэй паясніцы ў мякаць упіўся і аж, здаецца, застаўся там сядзець багнет. Салдатня душылася ад смеху.

Рана гаілася доўга, бытта ўкусіў сабака. Кароль і прыкладваў яе дзіваннай — лякарствам ад шалёных сабак — зеллем, што расце на выгарах у лесе: жоўтыя кветкі на тоўстым стрымбулі і шырокае, як у лопуха, лісце.

У Хоневу хату ён не перабраўся, хоць свае не меў — згарэла, як немцы палілі вёску. Жыў у мястэчку: пуставалі казённыя дамы.

Сюды да яго і прыходзіў Хоня. Прыцемкам адлучыўшыся ад купы, калі яўрэяў гналі ўжо з работы з тартака назад у «гету». Хоня і казаў тады Каралю, каб пераходзіў да яго ў хату: «Жыў буду — змірымся, памру — табе астанецца».

Твар у Хоні быў жоўты і як набрынялы — чалавек пух ад голаду. Кароль насыпаў яму торбу

грэцкае мукі, але ад хаты адкаснуўся: баяўся немцаў. І цяпер яна стаяла як новая, на два канцы, з высокімі, у тры шыбы вокнамі і накрытая бляхаю. Каля коміна ўжо завязвалася ржа — зімою тут грэўся і раставаў снег.

«Не свая, нікому не абыходзіць»,— Кароль заварушыўся ў палукашку: пачала муляць торба і недзе казыталася салома. Кароль укленчыў, перавярнуў торбу на другі бок, сеў на яе і зноў пачаў думаць пра Хоневу хату. Яна была яму як свая, і яго брала радасць, што Хоня нікому, а яму аддаваў гэтую хату. І ён нават убачыў, як жыў бы тут з бежанкаю і як яна цвёрда ступала б босымі нагамі па чырвонай падлозе. І Каралёвы думкі набеглі зноў на ўсё брыдкае і маладое. Сонца даймала праз фуфайку, нібы хто прыклаў да спіны нагрэтую і закручаную ў анучу цэглу. Кароль расшпіліўся, але фуфайкі не зняў. Прыпякала, і зноў як на дождж.

Кароль завярнуў у вузкую, двум вазам не абмінуцца, папярочку і выехаў на шашу.

Конь пайшоў барзджэй. Тут быў асфальт, яшчэ мяккаваты і тлусты — днямі залілі. Вада збягалася на ім, бытта на патэльні. Бабы, што ўжо варочаліся дадому з пустымі бітонамі, закручанымі ў белыя радзюжкі за плячыма, ішлі сярэдзінаю шашы, ляпалі босымі нагамі па тлустай смале. Ногі ў іх запырскаліся аж да каленяў.

Кароль мінуў доўгі плот і спыніўся на другі бок вуліцы, каля белага дома з высокімі цэментовымі ўсходамі. Злез з воза, кінуў пад ногі каню сена, закруціў за частаколіну лейцы і падбег да цэментовага ганка.

Мажная дзяўчына ў белым, забруджаным на жываце фартуху, не знімаючы з прабою рукі, вы-

пусціла са сталоўкі дробнага, сабе па плячо, мужчыну.

— Абед, дзядзька,— сказала Каралю і грукнула дзвярыма.

— Во-во, паненачка, я ж на абед і прыйшоў.

— Чытайце, там напісана,— сказала яна ўжо з-за дзвярэй.

— Але пісаным не кормяць...— Кароль шлёгнуў пугай па высокай, збэрсанай каля плота траве і перайшоў вуліцу, у магазін.

Дзверы былі расчыненыя. З магазіна нясло духатою і селядцамі. Кароль зайшоў — астатнія з чаргі аглянуліся. Каля прылаўка цярпліва парыліся адны бабы, і ўсе, мусіць, па цукар — падаспелі ягады. Пярэднія выварочвалі і вытрасалі палатняныя торбы.

Кароль абвёў вачыма паліцы: на ніжняй стаялі адны чорныя бутэлькі.

— А свянцонае няма?

— Сёння і без яе не вытрываць, варыць, што ў печы,— азвалася не прадаўшчыца, а некаторая з чаргі.

— Толькі віно.

— І на памін душы?

— Я ж кажу — толькі віно! — крыкнула цераз баб прадаўшчыца.

Ён падняў вочы — на верхняй паліцы, пад столлю, над ходзікамі з зялёнымі шышкамі-гірамі, стаялі кірзавыя боты. Падумаў, што на восень трэба было б купіць.

— А там каля бальніцы ў «орсаўскім» яе колькі хочаш, я нат узяў,— голас нападобе быў як Восіпаў. Кароль скалануўся, бытта за пазуху кінулі жабу.— Я ж толькі адтуль,— гаварыў ён, Восіп, але Кароль не абярнуўся, глядзеў на паліцу.— Выняў спраўку.

— І няўжо будзеш судзіцца? — Кароль глянуў цераз плячо. Восіп ужо быў перабінтаваны, верхняя губа раздулася, як укусіла аса, на кончыку вуха лушчылася запечаная кроў — добра не абмылі.

— Казалі, год-два мецьме.

Кароль пайшоў уздоўж прылаўка, усё цікуючы на паліцы, знарок, каб не глядзець на Восіпа.

— То можа падвязеш? — Восіпаў голас засціг яго на парозе.

— Я ж толькі [redacted] дому,— ужо знадворку змахляваў Кароль і так і не абярнуўся, выйшаў з магазіна.

Конь падбіраў сена, пад возам грабліся куры. Кароль зняў з частаколіны лейцы і выкіраваў каня на сярэдзіну вуліцы.

За магазінам кончыўся асфальт, пайшоў брук — воз ляскаў і калаціўся, у Караля аж казытала ў вушах.

Пахла смаловым карчом — курыўся, як куча свежага гною каля хлява ўвосень, ссыпаны горбаю асфальт. Залівалі ходнікі, уздоўж плота было насыпана бітае каменне. Цыган, без рубашкі, у рукавіцах, спечаны на сонцы, стаяў на каленях і рассоўваў дошкаю чорную горбу. Другі — без шапкі, русавы, з завушніцай у вуху — сядзеў у цяньку пад плотам, трымаў між каленяў збанок, бразгаў у ім лыжкаю — палуднаваў.

«Нябось, і іх цягне на сваё...» — падумаў Кароль пра цыганоў і ўспомніў, як вайною стаялі іхнія абедзве пустыя хаты — акурат дзе цяпер сталоўка. Нехта павысаджваў у вокнах рамы і разбіраў столь: адтуль вісела, зачапіўшыся рукавом за цвік на гарышчы, старая адзежа. Здалёк выдавала, як хто павесіўся. Цыганскія хаты прадаваліся, і нат сходна, і нехта, мусіць, купіў,

а ён, Кароль, рабіў сваю, хоць з маладнічыны — яшчэ стаяў гектар пасажнага жончынага лесу. Цягаў на плячах — конь быў потым: немцы кінулі каля вёскі кульгавую бельгійскую кабылу. Тады яшчэ быў дужы, хоць якое там было дзерава — жэрдкі. Але буду зляпіў, абы выбрацца з мястэчка. Немцы выганялі з казённых дамоў.

Ззаду затрубіў аўтобус, Кароль з'ехаў убок і забыўся, пра што думаў.

Аўтобус дыхнуў скразняком і, асядаючы на запырсканы зад, скіраваў на прыпынак. Там зафыркаў, стрэліў сінім дымком і сціх. Прывёз адных баб. Адкуль яны толькі браліся — сыпаліся праз двое дзвярэй, і канца не было.

Кароль пазнаў толькі адну, у чорным сачыку, у сіняй суконнай спадніцы з белым шляком — тарціярку [1], што некалі таварышкавала з жонкаю. Яшчэ вот жыве, а яго даўно зямлю парыць. Памерла недзе ў Польшчы, аж каля Лягніцы, летась, у такую пару — перад жнівом. Дачка дала «цілігараму», але ён так і не сабраўся: усё думалася — пакуль вырабіш той дакумент на выезд, пакуль даедзеш. Але адзін бог рассудзіць. Дурны быў — на зямлю пагнаўся, браў старэйшую за сябе на дванаццаць год. А яна і тыцкала гэтай зямлёю. А потым, як прыйшлі нашы, усё баялася калгасаў. Ездзіла ў Гродна, вазіла нямецкую рудую паперку, што складвалася надвое і дзе была яе картачка і адціснуты ўмазаны ў чарніла палец. Гаварыла, што яна палячка. Хоць напісала на гэтай паперцы сама.

А тады, як ехалі людзі ў Польшчу, ён завёз яе сюды на вакзал, а сам з канём вярнуўся дадому.

---

[1] Тарціярка — непадстрыжаная манашка, багамолка.

А куды ехаць — ад свайго не ўцячэш. Кажуць, добра там, дзе нас няма.

— Ну, кудэю ж ты едзеш?

Кароль падняў галаву: конь ішоў каля самага плота, знайшоў мякчэйшае сам — не наравіў брук.

Чалавек з новаю касою, абкручанаю анучаю, сышоў з ходніка на сярэдзіну вуліцы. Кароль тузануў левую лейчыну, конь спатыкнуўся і збіўся з хады. Воз затросся на бруку. У Караля нешта павярнулася ў грудзях, парнула, што швайкаю, і не адпусціла. «Трэба паказацца дохтару»,— Кароль сагнуўся, прыціснуў рукамі грудзі і падкурчыў ногі. Трохі адлягло.

За пераездам кончыўся брук: па драбінках сек шротам сыры пясок. Воз перастала трасці — Каралю палепшала. Пах жвір з пустое вуліцы і аднекуль дым, моцны і горкі. Мусіць, недзе на вакзале тлеў вугаль. І гудзеў матавоз, як вецер у пустую бутэльку,— ціха, аж не чуваць, бо далекавата.

Кароль быў ужо ў канцы мястэчка.

Хаты стаялі на адзін бок вуліцы, і ў некага на надворку зелянеў загон позняга жыта — выплываў толькі колас. Нехта сеяў ярыцу.

Вуліца звузела, як хто яе чым перавязаў. Мястэчка кончылася, толькі слупы пабеглі далей, сценкаю між аўсом і нізкім жоўтым лубінам.

Сценка ішла на груд. Было відаць хату — саламяны лоб страхі, як крылі даўней і не рабілі шчыта. Там недзе яхкаў сабака. Пачыналіся Ятранскія хутары — да вёскі была яшчэ добрая вярста. Крычала ўжо кнігаўка, падала ў адное месца над лубінам — за хатаю было балотца. Рыпелі гужы на аглоблях, як сухастоіна ў лесе, шоргала рэхва на задняй восі аб калодку, мякка сту-

паў конь, але Кароль не чуў — яму зноў спамянуўся Восіп. Тае пары, як ён, Кароль, стаў конюхам, а Восіп — брыгадзірам.

Кароль тады быў адзін на дзесяцёра коней і дагдядаў не горш як цяперашнія ўдвох — конюх з памочнікам. Тады ў Ятры і канюшні не было — коні стаялі ў Каралёвым гумне.

Зіма ў той год лягла на пакровы. Пасля каляд мароз стаяў, як звер, не адпускала нешта да самага благавешчання. Коні пасля ночы стаялі ссівераўшы, што ссыпаныя снегам. Адзін і зайшоўся, маладзенькі: кашляў і чах даўно. Кароль нат гарнікам[1] яго паіў. Казаў і Восіпу, каб выпатрабаваў з раёна ветэрынара — мо паглядзеў бы. Але Восіп усё мок у гарэлцы.

А тады прывёў старшыню з участковым і кажа: «Тарасавіч, не карміў, глядзеў толькі свайго». А гэты Тарасавіч быў старшынёю (цяпер недзе ў раён пераехаў), аднекуль з-пад Гомеля ці што, і ўсё маўчаў, як гэта не да яго. Хоць папраўдзе Кароль «свайму» даваў больш: жарабок ад тае бельгійскае кабылы быў як гара, хіба ж яму дасі менш. Але тады злыдзень пад'юшчыў: як трымаў Кароль вобруць у руках, так і сперазаў Восіпу па галаве — на брыве ў таго нахапіўся гуз велічынёю з арэх.

Можа, судзілі б, ды ўважылі па гадах — знялі толькі з конюха. А жарабка прадалі сюды, да Красоцкага. Восіп не папусціўся. Дома стала не ўседзець. Балазе Красоцкаму трэба быў яшчэ адзін анучнік — падраіў і замовіў слова Бортнік. А на конюха Восіп прывёў свайго швагра з Літаварцаў. А цяпер б'ецца з ім — нешта не падзялі-

---

[1] Лекавая трава, купальнік.

лі. Яшчэ і ў турму аддасць — на руках мае спраўку.

У Караля зноў пацяжэла ў грудзях, у роце сушыла, млявіла ўсяго, як ад гарачыні. Сонца стаяла жоўтае, у смузе. Падпарвала — яшчэ раз на дождж. Сценка ішла картоплямі: у глыбокіх разорах гуслі, што кісель, лужыны.

Паказалася вёска — першыя на грудках хаты і цёмныя напроці сонца дрэвы. Было знаць жыта, белае перад вёскаю — падгарэла. У гародах, нагнуўшыся, стаялі бабы: палолі зелле, кожная ў сваім, але Кароль іх ужо недабачваў.

Сценка спусцілася з груда, і было відаць балотца: гнуліся ў адзін бок і густа блішчалі сівізною вербы. Вецер хіліў асаку, як хто вялікі па ёй качаўся.

Над сценкаю снавалі ластаўкі, кідаліся над Каралём угору і, здаецца, сціналіся ў камяк ад вострага піску.

Конь слізгаўся па кіслай гразі, гразь пухкала і цягнулася за капытамі, як выхаджанае цеста. Пачалася лагчынка.

Пад жыта было сушэй, ад пяску, што наняслo ўвесну; па ім займалася рэдкая, без соку, што ў картаплянай яме, трава. Пры жыце за калючым дротам нехта выйшаў пракос, прэла нераструсенае сена. У жыце яшчэ трымалася раса, зіхацела зеленаватай чырваннею на падпаленых асцюках і сухаватым пер'і.

За атосы чапляліся каласы, сцябло пэнкала, аж звінела — каласы падляталі ўгору і падалі на каня. Конь туліў вушы і касіў галавою назад. Жыта стаяла лаваю — высокае, тоўстае ў сцябле, што троснік, хоць барану стаўляй. Дзе-нідзе палягло.

Кароль выцягнуў руку, злавіў саломіну, у ку-

лаку астаўся колас — сашмаргнуўся. Колас пах блышчыцаю — мусіць, сядзела на ім. Кароль вылушчыў зерне, укінуў у рот і доўга лавіў на зуб. Зерне было мяккае і саладжавае — з малаком.

«Яшчэ не налілося, а тыдні два будзе спець. Яшчэ не скора жаць»,— падумаў Кароль, узіраючыся на жыта, далей ад балотца ўжо нізкае і рэдкае, зблізку жоўтае ад румянку. Вецер хадзіў перагонамі, жыта шумела — паднімалася і аціхала. Варушыліся толькі каласы. Жыта было як вада ў рэчцы: не слухаеш — не чуваць. І каля жыта рабілася свежа на душы, як каля вады.

На паўмежку ў рудым цвёрдым быльніку ляжаў камень. Ціха, як злодзей, з яго паплыў каршун, лена махнуў крыллямі. Згледзеўшы яго, недзе закрычала ўгары і завілася варона. Камень здаваўся такі самы стары, як і многа год назад; і стаяла на паўмежку пераспелая мятліца і пруткае сцябло быльніку — каля каменя адны чаранкі: нехта ламаў быльнік на венікі. А далей за каменем на паўмежку цвіла шыпшына — лінялі і асыпаліся кветкі. Гэтак як і тады, калі Кароль меў тут на мяжы бежанку. І тады стаяла тут рэдкае, жоўтае ад румянку жыта, і вецер хадзіў перагонамі — жыта шастала, і яго было не чуваць, калі звыкнешся і не слухаеш. На шыпшыне ліняў і асыпаўся цвет — самая цёплая пара лета.

Недзе пад Варонежам тым годам стаяла суш: бежанцы ехалі ўсё сюды, за імі было не прабіцца. Кароль і сам не помніць, чаго быў тады на вакзале. Стаяў на пероне. Тады да Караля і падышла яна, босая, высакаватая, трымаючы на голай руцэ сачык, у другой — цыратовую сумку, на якой лушчылася фарба. Адзежа на ёй была чыстая, як не ў бежанкі. Толькі па гутарцы Кароль пазнаў, што яна не тутэйшая, а прыгледзеўшыся

ўбачыў, што і тварам не гэтакая — круглейшая, і рот малы. І трохі жаўтлявая: у вачах чэз бляск. Казала, тры дні нічога не ела. Кароль завёў яе тады да Бортніка, накарміў, у вёску яны прыйшлі — хілілася на вечар. Але нанач яна не асталася.

— А можа жыцьмем разам? — ён тады яе панаравіў, як не панаравіў нікога.

— Ніж ты не знойдзеш? — яна нават стала жартаваць і чапаць яго сама.

І Каралю зноў спамянулася ўсё брыдкае і маладое. І той надвячорак, і мяжа з цвёрдым быльнікам, і шэпт жыта, і зморанная здаровая яснасць, бытта абнавіўся свет пасля гэтага.

А шарай гадзінай ён запрог каня, скінуў на воз мех жытняе мукі, торбу ячнае шатраванкі і паехаў з ёю ў мястэчка — павёз на станцыю.

Тае ночы не спаў: перад вачыма стаяла мяжа з быльнікам і шастала высокае, як тросцік, жыта. У хляве грукаў конь, і Кароль уставаў і ішоў глядзець, ці не падвярнуўся. Слухаў, як нізка шумеў, аціхаючы за мястэчкам, цягнік, думаў, што недзе там едзе яна, і варочаўся ў хату.

А потым нешта з год кожная маладзіца падавалася бежанкаю — Кароль аж стаў баяцца. З часам страх ачах і выветрыўся, як попел. А бежанка ўсё помнілася, помнілася жыта і мяжа ў цвёрдым быльніку. Перад вачыма варушыліся каласы, во гэтаксама — не ад ветру, а ад ценжару, і шапацелі, як шапацяць мурашкі, калі зачэпіш іхняе гняздо.

Кароль прыслухаўся: у жыце круціўся віхор, угары вілася салома і чорная, ці не ад вароны, пярына. Шастала і трашчала сцяблом жыта. Было чуваць, як ступаў па чорствым, прышэрхлым

пяску конь, як церла аб ляску задняе кола, як скрыгатала дзе аб камень шына.

Тут былі крушні — іх назносілі тады, калі сеялі канюшыну, яшчэ да калгаса. Воз паднімала, ён хіліўся набок і тросся, як на бруку. У Караля дрыжала ўсё ўсярэдзіне, займала дух.

І раптоўне ў грудзях нешта млосна заныла і пацяжэла ад гарачыні. Кароль прыхіліўся да драбінак — воз падкінула, адарвала ад зямлі і ціха панясло, нібы труну на плячах. Гарачыня і шум хлынулі Каралю ў галаву. Ён намогся ўстаць, але рука ўжо не знайшла драбінку, пальцы сашчаміліся, і рука ўпала на грудзі. У вачах закружыўся, пажаўцеў і змерк, як перад зацьменнем, свет. І Кароль недзе паляцеў, што ў глыбокую прорву. І там зноў як сталася яснасць, і Кароль зноў убачыў жыта, сваё жыта, што некалі сеяў на жончыным пасажным гектары пры лесе. З краю палетка стаяла бежанка, трымаючы ў руцэ серп. Яна зажынала жыта. Кароль памкнуўся да яе, але бежанка прапала: каля жыта нехта стаяў з касою. Чалавек пашастаў мянташкаю, навастрыў касу і зачаў пракос: жыхнула, упілася ў жыта каса, каласы страпянуліся, замільгалі і пацягнуліся за касою.

Нехта касіў жыта. Кароль аж анямеў. Хацеў крыкнуць, але голас перасеў у грудзях. Кароль пашукаў вачыма камень і з гарачкі не знайшоў, так і пабег з голымі рукамі — жыта бэрсалася і сплятала ногі.

«Апомніся, што ты робіш?» — крыкнуў Кароль і не пачуў свайго голасу. Касец падняў касу — мокрую, з травою — размахнуўся і ўбіў вастрыё Каралю ў грудзі...

Кароль пруткa выцягнуўся і застыў на возе.

Конь выйшаў з жыта, пастаяў на пясчанай

дарозе, падумаў, што тут няма травы, і пайшоў у вёску. А жыта хвалявалася, адлівала яшчэ зялёнаю саломаю — па ім хадзіў вецер.



Караля пахавалі крэўныя, на трэці дзень, без дачкі: яна адбіла тэлеграму, што прыедзе праз тыдзень. Хавалі па полудні. Дзень той выдаўся сухі і ветраны — ужо сенавалі. За труною ішлі ўсе з вёскі бабы, якраз збіраліся варочаць сена, ішлі з граблямі; ніхто не плакаў, усе пыталіся, ці мецьме Каралёва дачка права спрадаць яго хату, бо ён, кажуць, пакінуў тастамант, каб хату аддалі нейкай кабеце з-пад Варонежа, з сяла Ганны. Другія казалі, што стары, здзяцінеў, бо яго дачка таксама завецца Ганна.

Труну вязлі калгасным канём, Каралёвага Красоцкі завёў у мястэчка. У той дзень ён наймаў новага анучніка — русавага маладога цыгана з завушніцай у вуху. Яны згоджваліся ў Красоцкага — жонка сышла з хаты і рвала на паўмежку траву.

Шэрх вечар — закацілася сонца. Толькі там, дзе яно нядаўна было, асталося яснае, спаднізу ліловае неба. Паднімала вушы і хавала нанач свой цвет картопля. Ад зямлі цягнула холадам — на траву садзілася раса. Праз дробнае лісце чарэшні прабівалася цёмная, але яшчэ, здаецца, гарачая чырвань буйных ягад.

Кралася ціш, лёгка, як босая. І раптам заіржаў конь. Жонка Красоцкага пастаяла на паўмежку, паслухала, ці не падалося, і, трымаючы абедзвюма рукамі хвартух з травою, пайшла ў хлеў.

Конь, задраўшы галаву, стрыг вушамі. У злым воку яго blішчала святло, што цадзілася з дзвярэй. Ёй спамянуўся Кароль. Конь апусціў галаву — ён думаў ці хацеў таксама думаць пра Караля. У загарадзі азваўся япрук. Яна высыпала туды зелле і выйшла з хлява. З будкі загрукацеў ланцугом і скочыў на яе сабака — яна адмахнулася рукою. На ганку спынілася, паслухала, што робіцца ў хаце. У хляве заржаў конь, нямоцна, як да свайго гаспадара. Ёй стала сцішна — яна падумала, што, мусіць, так плача конь.

Ёй зноў спамянуўся Кароль.

# Пагарэльцы

Вецер трос на яблыні паследак счарнелага, як апечанага, лісця. Пад кустом голага смуродніку драмала курыца, схаваўшы пад крыло сваю галаву. Каля мокрага плота зелянела яшчэ крапіва і цвіло марнае каліва румянку. Пахла сырым днём восені і пустою раллёю з гарода.

Яна пастаяла сярод надворка, успомніла, як улетку гарачыя восы абсядалі сопкія, патрэсканыя пасля дажджу папяроўкі, і пайшла ў хату.

Была яна ўжо немаладога веку і ішла сагнуўшыся і намацваючы нагамі зямлю, як ходзяць сляпыя. Твар яе зжоўк і завастрыўся — яго сцягнула старасць; звялыя губы суха і пякуча сінелі, толькі чорныя вільготныя вочы былі яшчэ пільныя і жывыя. Засуканыя да локцяў рукі яе ружавелі ад халоднае вады. На старой камізэльцы, што шчытна сядзела на ёй, выкачаўся плюш, і на выцвілай суконнай хустцы ледзьве значыліся шырокія клеткі.

Яна паднялася на ганак — вецер шастаў і шумеў сухою саломаю пад застрэшкам; аб сцяну, па другі бок хаты, ляпалі мокрыя анучы, якія яна павесіла. Крычалі і нізка ляцелі над чужою хатаю цэлаю плоймаю каўкі. Вецер іх разганяў і зносіў убок.

Выпрастаўшыся, яна глянула туды, куды проці ветру ляцелі вароны, і аж здрыганулася: каля чужога плота стаяла фурманка — дваякае масці, жоўтае з белай, конь растрасаў сена, заварочваючы ад ветру галаву. На возе вышэй драбінак

жаўцелі снапы старога, ужо зрудзелага акалоту.

Пасля леташняй восені, пасля кірмашовага дня на спаса яна стала баяцца пярэстых коней. Нехта ёй паказаў тады на вазы, што стаялі ў канцы рынка, дзе вішчалі і валтузіліся ў брудных мяшках парасяты,— там быў з гэтакім самым пярэстым канём Ёда з Вялікага Груда, што застрэліў яе меншага сына. Казалі, што ён, адседзеўшы сваё, вярнуўся з турмы. Але ёй тады як засланіла вочы — нават твару не ўбачыла яго. Толькі і помніць, як праз сон, што сядзеў на возе, спусціўшы праз драбінкі доўгія ногі ў кірзавых ботах і, мусіць, ведаў, што цікуюць за ім, бо неяк скоранька тузануў за лейцы. Яна і бачыла ўсяго, як целяпаліся тыя доўгія ногі, як траслася яго шэрая глухая спіна, бо ехаў па ямах і крапіве, не разбіраючы дарогі, абы скарэй з рынка.

А потым ёй нешта праз ноч сніўся пярэсты конь. Цяпер такі ж самы стаяў на вуліцы, перабіраў сена, на вочы яму аб'ехаў хамут. Фурмана нідзе не было відаць. Яна абаперлася рукою аб касяк — у яе неяк адразу здранцвелі ногі,— другою ўзялася за клямку, адчыніла дзверы і ўвайшла ў сені. У цёмным кутку бялела вялікаю горбаю маладая капуста. Пайшла ў хату, падумаўшы, што трэба будзе шаткаваць капусту, як гаспадар прынясе з мястэчка солі, а ў вачах у яе ўсё стаяў гэты пярэсты конь.

У хаце было чорства і суха пасля сырога надворку. Пахла цыбуляю, што вісела доўгімі вянкамі на кійку каля печы, і абсмаленаю, з прыпека, авечаю галавою.

Яна пастаяла сярод хаты, спамінаючы, што мелася рабіць, але не ўспомніла — думкі ўсе былі да гэтага пярэстага каня. За акном праз цёмна-карычняватае варухлівае галлё саду белава-

тым знакам шарэла страха суседняе хаты. Жоўтым мохам цвілі дошкі на нізкай страсе паграбка. Шастаў вецер за хатаю, і аб сцяну ляпаліся мокрыя анучы, што віселі на жэрдцы.

І нешта як незнарок пацягнула яе да акна: дваякае масці конь усё гэтаксама стаяў каля чужога плота, унурыўшы і завярнуўшы ад ветру галаву. І двое мужчын было цяпер каля воза: адзін, з доўгімі, абвіслымі кудзеляю вусамі, у выцвілай фуфайцы, у салдацкіх портках, збіраў у мяшок растрэсенае канём сена; другі, высокі, мусіць, малодшы, у чорным шынялі, уціскаў рублём снапы — цягнуў вяроўку, упёршыся ботам у воз. Было чуваць, як скрыпела аб рубель сухая вяроўка.

«Божа, няўжо гэта ён, той самы паліцыянт Еда?» — яна аж адхіснулася ад акна.

Еда быў у чорным і тады, калі застрэліў хлопчыка. Застрэліў улетку на другі год вайны, за немцамі. Палавела ўжо жыта, і гарачыя восы абсядалі сопкія патрэсканыя папяроўкі.

Яна хадзіла тады зажынаць жыта. Пасля полудню, выправіўшы свайго меншага з каровамі на пашу. А ён адтуль і пабег у мястэчка.

У жыце нехта навязаў куклаў, многа — аж яе ахапіў страх. І яна, як чула бяду, вярнулася назад, бегла дахаты, не чуючы пад сабою ног. На дарозе ўжо напаткала пастухоў. Самы меншы, задыханы, ззелянелы ад страху, і сказаў:

— Цётачка, паліцыянт Петрыка застрэліў! — і заплакаў.

Яна не помніць, як асунулася на зямлю і колькі ляжала. Астатняе мільгаціць як у сне: бегла жытам, маладымі картоплямі, згубіўшы недзе хустку, бегла наўпраста ў мястэчка, дзе якраз на грудку на шашы, там яшчэ і цяперака расце бя-

рэзіна, ляжаў ён — ніцма, раскінуўшы ручкі і яшчэ ўсё трымаючы ў адной тую нямецкую лапатку з кароткім чаранком.

Яна і цяпер млее і адыходзіць ад памяці, убачыўшы на грудку перад мястэчкам тую бярэзіну. І кожны раз перахварэе, калі, бывае, нясе на кірмаш курыцу ці якое паўкапы яец, каб купіць сабе корту або паркалю.

Божа літасцівы! Як у яе тады не разарвалася сэрца: схапіла яго на рукі, а ён ужо быў халодненькі — на шашы цёмнаю лужынаю стыла кроў — і панясла дадому, цалуючы ў зжоўклы скамянелы тварык.

Яна і не помніць, як гэты самы Ёда страляў у яе. Пра гэта ўжо казалі пасля, казалі, што недзе каля склада дзеці набралі нямецкіх лапатак.

Божачка, і за гэтую нямецкую лапатку ён забіў дзіця! А потым страляў у яе: ледзьве помніць, што каля таго крайняга з мястэчка склада, дзе цяпер кожнае восені прымаюць картоплі, нехта хадзіў у чорным. Ён, мусіць, страляў адтуль — у яе была разарваная як калючым дротам спадніца, яна ўжо агледзела на другі ці на трэці дзень.

«Дык няўжо ж гэта ён, той самы Ёда?»

Ногі ў яе зрабіліся як не свае. Яна адышлася ад акна, чуючы, як адымаюцца ногі і слабее ў грудзях. Хацела дайсці да ложка, але спалохалася, што не дойдзе — далекавата, бліжай было да лавы — і яна села.

На сцяне шаптала чорная скрыначка: кожны раз у ветраны дзень «радзіва» пачынае шаптаць — недзе скручваўся дрот. Маўчалі ходзікі, і ёй падумалася, што ад страху яна недачувае. Але ўбачыла, што ніжняя гіра дастала да лавы і ходзікі сталі. Не, яна чуе. Чуе, як ляпаюць мок-

рыя анучы, што вісяць на жэрдцы, як шоргае і звініць дрот, як грукаюць веснікі і нехта тупае надворкам. І раптам схамянулася: «А можа ідзе ён, той самы Ёда?» У яе аж забалела ў скронях і сціснула, як абручом, галаву. Па лаве яна падсунулася да акна: нечая спіна мільганула за сцяну, туды, да дзвярэй.

«Хоць бы прымкнуць дзверы». Яна схапілася з лавы, але нехта быў ужо ў сенцах, шукаў у цемнаце клямку — рукі шасцелі па дзвярах, як мышы ў саломе. Яна, здранцвелая, стаяла і глядзела на чорныя паточаныя шашалем дзверы і на абслізганы, аж белы, язычок клямкі — ён пазваньваў і варушыўся. І раптам моцна дзынкнуў, аж яна здрыганулася, і дзверы адчыніліся. У хату ўвайшоў той драбнейшы, стары ў выцвілай фуфайцы, з абвіслымі вусамі. На шапку яму нацерушылася дробная сцёртая салома. На рыжаватым, трохі закручаным кончыку вусоў целяпаўся асцюк. Вусы заварушыліся, і асцюк адарваўся:

— Дзень добры!

Яна адступілася назад. «Няхай крые бог, няўжо тыя Ёды з Вялікага Груда? І ён прыйшоў у хату?.. Засуканыя да локцяў, ссохлыя рукі яе калаціліся.

— Пагарэльцы мы, просіма, можа знойдзецца снапок саломы.

Яна ведала, што пагарэльцы яшчэ здавён жабравалі па вёсках салому. Пасля вайны яна жабравала і сама. Хату спалілі немцы, тады яны стаялі ў іхняй вёсцы. Накідалі шпалаў у печ — збіраліся пячы хлеб. Шпалы гарэлі аж на прыпеку — ад іх і ўхапіўся пажар. Пасля вайны ўжо, як будавалася хата нанова, не хапіла акалоту дакрыць страху. Прыйшлося па вёсках збіраць

саломy. І людзі выносілі: хто па снапку, хто па два, а хто мацнейшы — то і тры.

«Можа і гэты даваў...» Яна глядзела ўсё на яго, нерухома стоячы сярод хаты.

— Хоць снапок, гаспадынька. Дальбог, хоць небам крый страху.

«Божа, няўжо гэта яны, Еды?» Яна як п'яная, як сама не свая выйшла з хаты, помніла, што недзе ў гумне ў пустой старане на дрывах ляжала яшчэ снапы са два сточанага мышамі акалоту.

«Хай бярэ, хай...»

Яна пайшла і чула, як, марудзячы, ён зачыняў за ёю дзверы, як тупаў, спускаючыся з ганка, як гаварыў, што яму не даюць страхоўку і хочуць яшчэ спагнаць штраф, бо хата згарэла ад керагаза. Вецер студзіў яе сухія голыя рукі, задзіраў рог суконнае хусткі, краўся холадам за плечы,— і ёй трохі палягчэла.

Трапятаўся пасцедак цёмнага рэдкага лісця на голай яблыні, шасталіся аб плот вялікія зжоўклыя стрымбулі ссохлых у гародчыку кветак. І ўсё гэтак крычалі і ляцелі пры самай зямлі процi ветру вароны. І пад кустом голага смародніку драмала, стоячы на адной назе, белая курыца. З-за шэрых чужых гумен насоўвалася халодная нізкая хмара, усё рабілася цёмным і жоўтым — паказвала, што пойдзе снег, першы малады снег.

Яна доўга адчыняла гумно, усё ніяк не магла выняць з прабоя зашчапіцу — не слухаліся рукі. А потым ледзьве не ўпала, вецер папхнуў яе разам з дзвярыма аж да сцяны, балазе яна адскочыла.

Гумно было пустое. У ім хадзіў вецер. На латах і кроквах целяпалася цяжкімі рванымі анучамі шэрае павучынне. На палушчаным за-

нядбаным таку стаялі каляскі з жалезнымі коламі і доўгім абслізганым жалезным дышлем.

На шуле вісеў хамут з іржавым кольцам і перасохлымі гужамі. У голай старане трухлела ўсё ў белых лішаях старое дзерава, на ім ляжалі сточаныя мышамі два кулі даўняй саломы.

— Бярэце ж, вундзека,— абапёршыся на шула, яна глядзела, як ён паднімаў тыя снапкі, як перавязваў нанова і як у яго тужыўся і чырванеў карак.

«Божа, яго сын забіў маё дзіця, а я яму яшчэ даю салому. Божа...»

Ён моўчкі ўзяў абодва снапы пад пахі і моўчкі выйшаў з гумна. За ім шасталі ў снапах сухія каласы. І ўжо віўся рэдкі і ніяк ўсё не хацеў падаць на цёплую зямлю першы малады снег.

«А можа гэта не Ёды?» — раптам падумалася ёй, і яна ўчула для сябе ў гэтым нейкае збавенне і ратунак і памкнулася з гумна.

— То скуль жа ж будзеце? — гукнула яна, раптоўна анямеўшы і чакаючы, што ён скажа. І ёй падалося, што ён прыстакнуў, на міг спыніўся. Але не — ён ішоў. Ён, мусіць, не чуў яе голасу. Ён ішоў да веснікаў, трымаючы пад пахамі тыя два снапы акалоту; каласы трасліся, але ўжо не было чутно, як яны шасталі. А за ім сыпаў і гусцеў снег. Ад гумна да хаты пачала стракацець сырая сцежка, і ўжо былі знаць на ёй яго чорныя сляды. Ён схаваўся за веснікамі, мільгануўшы яшчэ жоўтымі снапамі. Яна выйшла з гумна, не зачыніўшы нават дзвярэй.

«Божа, скуль жа яны?..»

Яна стаяла абамлелая і ўжо не чула, як пагарэльцы гукалі на каня, як на яе падаў і шархацеў па голых дубцах ссохлых кветак першы снег.

Не бачыла, як пачынала сівець зялёная каля плота трава.

Ёй зноў спаміналася тое труднае пераспелае лета, палавое жыта, спаміналася, як яна, звар'яцелая, бегла полем, згубіўшы хустку, туды, пад мястэчка, дзе на грудку сярод шашы ляжаў ён, яе самы меншы, Петрык, з тою нямецкаю лапаткаю з кароткім чаранком.

А снег усё падаў і раставаў халоднымі слязьмі на яе зжоўклых худых шчоках, блішчаў расою на чорнай плюшавай камізэльцы. Ужо забялелася сырая сцежка ад гумна да хаты, толькі малая лужына на ёй была яшчэ чорная.

Гэта быў ужо каторы малады снег, як няма яе меншага сына.

3 Зак. 1238

## Аптэка нумар тры

Аптэка нумар тры. На Нямізе...

Няўжо на той самай Нямізе, дзе пахла з пад'ездаў цвілымі дрывотнямі, сырымі брукаванымі падворкамі і развешанаю на вяроўках бялізнаю, ёсць аптэка? Аптэка нумар тры.

Я помню там была цырульня: маленькі пакойчык з адным драўляным крэслам перад люстэркам у разной паточанай шашалем аправе з цьмянай, як захуканай, амальгамай.

Падстрыгаў і галіў стары яўрэй з нерухомым жаўтлявым тварам і худымі пашчэнкамі. Я помню, што ў яго дрыжалі і не гнуліся худыя, доўгія пальцы, калі нейк няспрытна-растапыраныя лавілі ў каго-небудзь на галаве сухія рэдкія валасы, і над імі лязгалі ножніцы.

У мяне між лапатак халадзела спіна і макрэлі рукі, калі я сядзеў на драўляным крэсле і ў люстэрка бачыў, як гэтыя растапыраныя пальцы наводзілі па асялку брытву.

Аптэка нумар тры на Нямізе.

Там быў наш інтэрнат — двухпавярховы цагляны дом. Ён пах гаркаватаю цэглаю, як разабраная печ. Стары двухпавярховы дом на дваццаць адзін пакой і адну кладоўку. Я нат помню нумар свайго пакоя — пяць. Мы там біліся зубным парашком і падлівалі адзін аднаму ў ложак вады. Я помню пяты пакой. З нашага акна было відаць брукаваны двор, хляўчук, сцяна, ад зямлі аж да страхі закладзеная наколатымі дрывамі, і развешаную на вяроўках бялізну. Вецер надуваў вялі-

кія белыя похвы. З гэтага двара мы ведалі толькі сухенькую старую кабету, што нешта праз дзень несла да слупка з вяроўкамі місу бялізны і ў яе на шыі вянком целяпаліся прышчэпкі, дзяцей, што падкідвалі па двары пустую бляшаную банку, вялікага чырвонага пеўня і Васю — дзябёлага маладога мужчыну з тоўстым носам і заўсёды без шапкі. Кожную суботу ці нядзелю Вася трымаўся адной рукою за слуп, за які былі прывязаны вяроўкі, і біў сабе кулаком у грудзі: «Мяне, данскога казака...» Кожнае суботы і нядзелі Вася быў п'яны.

Дык дзе ж на Нямізе аптэка?

Я помню магазін картовых кепак, форменных зялёных фуражак, змятых капронавых капелюшоў і пад шклом на прылаўках тузіны шаўковых гальштукаў, тых, што яшчэ завязвалі шырокімі вузламі. І гастраном — забітыя рашоткамі і на ўзроўні тратуара вокны. Гастраном у падвале каля нашага інтэрната. Нат зімою ў адных рубашках мы бегалі туды купляць кільку, цукар і вялікія шэрыя, за рубель восемдзесят, батоны.

Аптэка нумар тры.

Няўжо на той самай вузкай Нямізе, дзе кожны дом пахне сухою гаркаватаю цэглай, як разабраная печ? На той самай, дзе я пражыў два гады ў старым доме ў невялікім пакойчыку нумар пяць на першым паверсе. У пакойчыку з адным фанерным сталом, засланым клейкаю цыратаю з рудымі плямамі ад недакураных цыгарэт. Кафельнаю печкаю і чатырма жалезнымі ложкамі з парванымі сеткамі. Хлопцы іх звязвалі тэлефонным дротам. У мяне сеткі не было, у мяне былі чатыры вузкія неабгабляваныя дошкі. На дошках я прасаваў штаны. Я клаў іх нанач пад

сіні матрац. Калі я падымаў матрац,— злямцаваная вата перасыпалася з аднаго рога ў другі.

Толькі адзін Сенька Прус меў панцырную сетку і высокі з нікеліраванымі спінкамі ложак. На занятркі ён прыязджаў раней за ўсіх і ведаў, дзе будзе жыць прафком: там заўсёды стаялі ложкі з нікеліраванымі спінкамі.

Сенька Прус быў паляшук. З дому ён прывозіў фанерны чамадан з харчамі і дзённік, што напісаў за лета. Дзённік мы незнарок знайшлі: ён ляжаў на падаконніку пад стосам запыленых кніг. Дзённік пачынаўся цытатай «Каханне перамагае смерць». А ў фанерны чамаданчык мы так і не залезлі — на ім вісеў хітры замок. І харчы Сенька Прус вёз на зімовыя канікулы дадому. Падабраць ключ да хітрага замка збіраўся Жэня Кунцэвіч, але не паспеў. Той самы Кунцэвіч, што вынайшаў апарат для карэкціравання памяці. Гэты апарат ён зрабіў сам з пішучае машынкі.

Гады са два назад я сустрэў Жэню Кунцэвіча ў Маскве на вуліцы Горкага, каля магазіна «Акадэмкніга», што ля помніка Юрыю Далгарукаму. Была ранняя вясна і ветраны дзень з сонцам. Жанчына мыла вокны, плюхала вадою на шкло: па тратуары цяклі ручайкі і закручваліся ў ямках.

— О, колькі зім, колькі лет! — павітаўся са мною Кунцэвіч і паглядзеў на жанчыну, што мыла вокны.

На ім быў шэры плашч з меднымі гузікамі і пляскатая кепка. І Жэня быў такі самы дробны і сухаваты ў твары — ён не змяніўся. У руцэ ён трымаў сінюю папяровую папку. Я спытаўся, чаго ён тут. Кунцэвіч развязаў матузкі ў сіняй папцы: я ўбачыў фотаздымкі пішучай машынкі

з лічбамі на клавішах, нейкую схему і чарцяжы.

— Вынайшаў апарат, вязу прафесару.

Ён назваў прозвішча, яно было незнаёмае, я не запомніў.

— І ты зрабіў яго з пішучай машынкі? — я не здзівіўся, бо ведаў Жэню Кунцэвіча.

Ён усміхнуўся і завязаў матузкі ў сіняй папцы:

— Мае дзяды і прадзеды былі кавалямі. Няўжо ты думаеш, я горшы за іх...

Жэня астаўся дзіваком такім, якім быў. Тады ён прынёс у пустую кладоўку свой ложак, укруціў у патрон лямпачку і павесіў на сцяне партрэт Паўлава. Жэнька стаў вывучаць фізіялогію, логіку і псіхалогію, запісаўся ў СНТ пры біяфаку і ўвёў для сябе цвёрды рэжым спаць днём.

На курсе ўсе сталі паціскаць плячыма, а потым звыкліся. Толькі адзін камендант інтэрната прыводзіў прафкомаўскае начальства і выганяў Жэню Кунцэвіча з кладоўкі. Але Жэнька не пайшоў. Юрыдычна Кунцэвіч лічыўся жыхаром пятага пакоя, і да нас нікога не падсялялі.

У пакоі засталіся мы ўтрох: я, Сенька Прус і Косця Харошка.

Дык дзе ж на Нямізе аптэка? На той самай Нямізе, дзе некалі ездзіў анучнік: вясёлы чалавек з настаўленым каўняром і падкручанымі, як у кайзера, вусамі. Ён сядзеў на возе з гумовымі, мусіць, ад старых гарматаў, коламі. У драбінках ляжалі старыя жалезныя ложкі, керагазы, кавалкі рэек, адзін раз стаяў мінамёт. Згледзеўшы мінамёт, Косця пабег у інтэрнат і вынес, «кайзеру» старую, што браў на бульбу, вопратку і свой злямцаваны матрац.

— Ну, што табе даць? — «кайзер» пакруціў матрац і кінуў пад сябе.

— Мінамёт.

«Кайзер» адкрыў сваю скрыначку і ўзяў глінянага з дзірачкаю ў хвасце пеўніка.

Косця моўчкі ўзяў свісцёлку, абцёр яе аб крысо пінжака і свіснуў: у гліняным пеўніку затрапяталася гарошына. Ён пакруціў свісцёлку ў пальцах, усміхнуўся, свіснуў яшчэ раз і пайшоў у інтэрнат.

Што было Косцю за той стары матрац — не помню. Здаецца, Косця ніколі пра гэта не гаварыў. Ды ён заўсёды гаварыў мала. Раз я прайшоў з ім ад Дома друку да Нямігі, і Косця не вымавіў ні слова. Мы насілі ў газету вершы. Дзівакі, мы тады яшчэ пісалі вершы і спадзяваліся на ганарар. Але перад стыпендыяй нас заўсёды выручаў Жэня Кунцэвіч: ён нёс у букіністычны магазін збор твораў Паўлава. Са стыпендыі мы выкуплялі кнігі назад. А ганарару мы так і не мелі — нас проста не друкавалі. З пытальнікамі, з «птушкамі» на палях вершы нам варочалі назад. Мы і ў той раз неслі свае вершы дадому. Я знарок маўчаў. Я хацеў паслухаць, што скажа пра гэтыя пытальнікі Косця Харошка. Мы прайшлі бадай пяць кіламетраў, і Косця не сказаў ні слова.

Аптэка нумар тры... На Нямізе... Як гэта было даўно! Як даўно я не ішоў гэтай старою вуліцаю на старую Нямігу. Гэтым вузенькім тратуарам, дзе цяжка размінуцца з стрэчным, дзе трэба адыходзіць да сцяны і станавіцца бокам. Як я даўно не ішоў гэтым вузенькім тратуарам, што горбіцца і трашчыць ад карэнняў. Старым тратуарам, дзе ў шчылінах кучаравяцца густою чачоткаю крохкія пасынкі. Як я даўно не ішоў каля гэтае гасцініцы, дзе тоўсты швейцар, без шапкі, з блішчастаю голенай галавою, падмятае патрэсканыя цэментовыя прыступкі. І няўжо быў некалі гэтакі

ранні, цёплы верасень. Ранні верасень, калі на тратуары канае тонкае паападанае лісце. І няўжо ўсё гэта было тады? І мутны спакой вады ў лужынах, і парнае сонца пасля абложных дажджоў.

Калі ападае лісце,— я заўсёды думаю, што мінуў год.

Аптэка нумар тры, старая Няміга...

Калі ападае лісце, я заўсёды ўспамінаю сінякаваты, набрынялы вадою снег і нечыя цёмныя ў ім сляды. Я ўспамінаю той дзень, калі я на нешта спадзяваўся. Вясною заўсёды на нешта спадзяешся. Няўжо я тады быў такім? Няўжо я ішоў каля гэтага акна з пустым сіфонам, з зялёным альясам з пераламаным лістком, каля магазіна, з якога пахне свежым кіславатым хлебам.

Як я даўно не адчуваў, што гэтая вуліца вузкая і хочацца ісці бокам. Як я даўно не ішоў каля гэтае кнігарні, каля гэтых дзвярэй з абарванаю спружынай. І няўжо там, сярод запыленых цвілых кніг, што пахнуць склепам, як яблыкі вясной, стаіць мая кніжка. Мая ўцэненая кніжка.

А тады на старой Нямізе я на нешта спадзяваўся.

Аптэка нумар тры. Няўжо толькі яна прывяла мяне на старую Нямігу. Што сказаў бы пра гэта Косця Харошка? Той самы Косця, што на ўступных экзаменах напісаў сачыненне вершам. Мы ўсе тады пісалі вершы. Косця іх кінуў на другім курсе — з чацвёртага ён пайшоў на завод. Ён нешта шукаў, маўклівы Косця Харошка. Ён, мусіць, шукаў сябе. Перад заявай, ён напісаў яшчэ справаздачу аб месячнай практыцы ў раённай газеце. Яе зачытвалі ўсяму курсу, зачытвалі, каб пасмяяцца. Я запомніў толькі два сказы: «Калі я падыходзіў да рэдакцыі, у двары зарыкала ка-

рова. Я потым дазнаўся, што яна была рэдактарская».

Калі я бачыў Косцю Харошку? Летась? Не. Ён гэтаксама сутуліўся, і нос у яго быў такі самы востры.

— Як жывеш?

Косця маўчаў. У яго толькі ўсміхалася і дрыжала губа.

— Дзе робіш?

— На дрэнькіньмантаж.

— Дзе?

— На кінастудыі.

Косця зноў маўчаў. Губа яго варушылася, ён, мусіць, сам сабе ўсміхаўся. Ён ні пра кога не пытаў.

— А ведаеш, дзе Сенька Прус?

Косця паціснуў плячыма.

Я сказаў:

— Умее падбіраць цытаты.

Я ўспомніў пра дзённік Сенькі Пруса. Косця ўздыхнуў і нічога не сказаў. Мы ўспомнілі некага яшчэ і разышліся. Мы ўжо сталі чужымі. Чаму з гадамі людзі чужэюць і староняцца адзін аднаго? Чаму з гадамі людзі шукаюць адзіноты? Здаецца, я тады змоўчаў, што Жэня Кунцэвіч вынайшаў апарат для карэкціравання памяці. Той самы апарат, што ён зрабіў з пішучае машынкі. Мне здалося, што Косцю цяпер не абыходзіць ні Жэня Кунцэвіч, ні яго апарат. А можа, я дарма не сказаў, што Жэня пяты год як скончыў аспірантуру і не можа абараніцца. Што сказаў бы пра гэта Косця Харошка?

Аптэка нумар тры. Як я даўно не ішоў гэтай кароткай вуліцаю, што ўпіраецца ў старую Нямігу. Як я даўно не адчуваў, што гэтая вуліца вузкая і хочацца ісці бокам.

Як я даўно не ішоў старымі вуліцамі. Старыя вуліцы заўсёды напамінаюць, што жыццё вечнае. На іх заўсёды думаеш, што тут нехта хадзіў да цябе. Нехта любіў, жыў і паміраў да цябе. У гэтым ёсць радасць. Пра гэта напамінаюць брукаваныя вуліцы і чырвоная выкрашаная цэгла ў тоўстых сценах. Ты думаеш пра таго, хто рабіў гэтыя сцены.

Як я даўно не бачыў, што на старой Нямізе няма старога бруку, даўняга гладкага бруку, што блішчыць цяплом вечнасці. Як я даўно не бачыў старое Нямігі, дзе хлопчык цягне па асфальце бляшаны грузавік без пярэдняга кола. Не бачыў, што над старой Нямігай устае і, калі падымаеш галаву і глядзіш на яго,— круціцца і халоднай вастрынёй шкла і бетону падае на Нямігу новы дом. Жыве і памірае старая Няміга.

Аптэка нумар тры.

Як я забыўся, што аптэка нумар тры напроці гастранома, таго самага гастранома ў падвале, дзе мы куплялі кільку, цукар і шэрыя за рубель восемдзесят батоны. Аптэка нумар тры на старой Нямізе, дзе пахне з надворкаў халодным брукам і сырою на вяроўках бялізнаю, дзе я пражыў два гады ў старым доме, што пахне сухою цэглаю, як разабраная печ.

Як я забыўся, што чалавек успамінае даўняе і шукае яго толькі тады, калі яму трэба лякарства.

Аптэка нумар тры — напроці гастранома.

# Там, на хутары

Недзе з паўдарогі да іх прыбіўся сабака. Да рук ён не ішоў. Дзеці вытраслі яму з кішэняў сухія, перамешаныя разам з пяском, крошкі ад хлеба, ён паднімаў галаву, нюхаў і адбягаўся назад.

Дзяцей было двое. Большы, рабаваты, у вылінялай і зашытай ззаду, каб не звальвалася з галавы, пілотцы, меў год дзесяць, меншы — у каротківх парточках на адной шлейцы — год шэсць.

Яна,— худая, шчуплая грудзьмі, як няспелае дзяўчо,— вяла за вяроўку маладую сытую карову з адным скручаным рогам.

Яны ішлі на ўсход сонца. Белым шляком перад імі ляжала шаша, звужваючыся і прападаючы за глухім паваротам. Белаю ад пылу была трава ў канаве, белаю ад цвету была грэчка — з аднаго боку шашы, з другога — шастала пераспелымі каласамі і, мусі, асыпалася падгарэлае і таксама белаватае жыта; у ім асталіся глыбокія выезджаныя машынамі дарогі — жыта на іх не ўставала.

Белаватым было і выцвілае за дзень неба. Толькі на грудках млеў і здалёк выдаваў сіваватым малады хвойнік. І зводдаль шашы над шэрым будынкам нечага хутара цямнела гушчынёю зялёнага лісця высокае дрэва.

Да хутара асталося яшчэ якое паўвярсты. Кабета спяшалася туды — смажыла, ёй хацелася піць, а там павінен быць калодзеж, і падаіць карову, і папрасіць хлеба, хоць дзецям,— да малака.

— А чаму ў каровы дзве нагі і яшчэ дзве? — раптам спытаў меншы, босы, як і ўсе яны: яго парэпаныя ногі былі тонкія, як цвікі.

— Бог даў.

— А чаму мне не даў?

Яна маўчала, яна думала пра тое, што блізка фронт, што ўчора з гарадка немцы пачалі вывозіць людзей, усіх начыста, што да дня над гарадком ляцелі нашы самалёты — нізка, як ляцяць з выраю пташкі,— знак, што скора будзе цяпло.

— Ну, чаму? — хлопчык забег наперад і задраў галаву, каб глянуць ёй у вочы.

— А дзе ж яны ў цябе будуць расці?

Хлопчык змоўк. Ён, мусі, думаў: папраўдзе, дзе яны будуць расці?

Кабета абярнулася — большага нідзе не было відаць. Над шашою віхор круціў белы пыл, у канаве падлятала зжоўклая газета, нібы скакала вялікая жаба.

— Ах, божа, дзе ж ён? — неспадзявана яна аж крыкнула і спалохалася свайго крыку.

— Там, у тлубе...

— У якой трубе? Ну, стой! Чаго ты?..— Карова тузанула разам з вяроўкаю кабету, махнуўшы галавою назад.

— Вунь там,— хлопчык паказаў рукою туды, дзе на павароце абапал шашы бялелі цэментовыя слупкі — каля аднаго, пахіленага, стаяў, задраўшы нагу, той самы чорны сабака.

Напаследак яна ўцяміла, што там, пад шашою, на завароце, ёсць труба.

— Толічак, сынок, падбяжы, пакліч,— сказала яна, а ў самое аж схаладзела ў грудзях,— каб хаця не напароўся на што: цяперашнім светам недалёка да бяды.

Пляскаючы босымі нагамі па цвёрдай сцежцы

з краю шашы, Толік пабег; вецер задзіраў даўно не стрыжаны яго чубок.

Яна глядзела яму ўслед, вецер слязіў яе зеленаватыя, сухія вочы.

Гэтага, меншага, яна знайшла ўлетку сорак першага, як пачалася вайна. Выйшла з хаты палоць гарод і пачула, што за плотам, за кустом цёмнага язміну, нехта ікае. Падумала спярша, што падалося, але разгарнула куст і ўбачыла па другі бок рэдкага частакола яго: ён сядзеў у высокім горкім палыне — мурзаты, з набрынялым тварыкам — і ўжо не плакаў, змогся, толькі ікаў. Яму было тады гадкі тры. Ён прыблукаў сюды недзе з вакзала, адбіўшыся ад маці.

Яна завяла яго ў хату, абмыла спухлы ад плачу тварык і панесла на вакзал, схапіўшы за руку і свайго — баялася пакінуць аднаго дома.

На Мінск яшчэ адыходзіў астатні цягнік: за ім беглі, як звар'яцелыя, людзі, з тамбура, дзе начаплялася бог ведае колькі, нехта ўпаў і ўжо не падняўся, ляжаў на рэйках, бытта мяшок; на пероне заенчыла, абхапіўшы рукамі пукаты жывот, цяжарная маладзіца, яе падхапілі пад пахі і павялі ў вакзал.

Толікавай маці яна так і не знайшла. Паказала яго нават парадзісе — тая ляжала на шырокай лаве ў пустой пачакальні, ззелянелая ў твары, заплюшчыўшы вочы, губы ў яе запякліся, на карычняватым ілбе дробнаю расою выступіў пот. Старэнькая кабета трымала ўкручанае ў нейкія наспех парваныя анучы дзіця. Маладзіца расплюшчыла выцвілыя, невідушчыя вочы і заенчыла: «Ах, дзіцятка маё!» У яе была гарачка. Толік заплакаў, ад страху, вырабляючыся з рук.

З дзецьмі яна вярнулася дахаты. Назаўтра ра-

ненька, яшчэ толькі паказвала на дзень, у гарадок прыйшлі немцы. Толік застаўся ў яе.

Вяроўку зноў тузанула карова — над ёю віўся, як прывязаны за нітку, авадзень.

— Ну, стой! Чаго ты? — кабета глядзела ўсё туды, на заваротак. Дзеці ўжо беглі назад: большы каціў перад сабою скат — знайшоў, пэўна, у трубе. Скат падскокваў на ямках — шашы ніхто не раўняў і не правіў усю вайну. Высалапіўшы язык, канаваю за дзецьмі бег сабака. Тонкі азадак яго заносіла ўбок.

— Нашто гэта табе? — сказала яна большаму, калі ён падкаціў да яе стары ўжо, з'езджаны аж да белых нітак, скат.— Крый бог — міна!

— Якая міна... Апона ад самахода,— сказаў большы і пусціў з шашы скат: той пераскочыў канаву, зрабіўшы круг, упаў у грэчку: яна там яшчэ доўга варушылася.

— Ой, няма ў цябе яшчэ розуму,— сказала кабета хлопцу і ляпнула рукою па цёплай каровінай спіне — карова нехаця пайшла: было чуваць, як шэркаў у яе на жываце скарэлы пляйстрамі гной.

На шашу густа цягнуўся, як мёд за лыжкаю, пах цёплае грэчкі. Шчабяталі, перагаворваліся між сабою і садзіліся на тэлефонны дрот сытыя ў воллі ластаўкі. У жыце гулі тэлефонныя слупы, як нечыя натруджаныя ногі. І нерухома ляжала белая і бясконцая шаша.

У канаве шарэла выгаралая на сонцы адзежа — здалёк выдавала, як хто ляжаў забіты.

— А во — нехта ляжыць! Можа абыдзем? — сказала яна дзецям, заварочваючы ў грэчку карову. Яна цяпер баялася, што ізноў натрапіла на нябожчыка: каля гарадка раніцою яна бачыла забітага хлопца, яшчэ саўсім маладога, год сем-

наццаці — ён ляжаў у зеленаватым аўсе, раскінуўшы рукі, вышчарыўшы сцятыя белыя зубы — пэўна, канаў у муцы, бо выкачаў каля сябе добры лапік аўса.

Яна зірнула на яго і аж здранцвела ад страху. А потым пачало ўсё думацца, што, можа, і яе муж ляжыць дзе вось гэтак забіты. Яго забралі перад самай вайною недзе пад Беласток.

— Гэтак жа адзежа,— сказаў меншы, што бег паперадзе.

Падышоўшы бліжэй, яна ўбачыла старую, у касмылях зжоўклае ваты (як яе ўсё роўна павыскубалі сабакі) фуфайку.

— Дзякуй богу, што не чалавек,— маладзіца выцерла локцем змакрэлы лоб і скіравала да хутара — туды адлучылася ад шашы і пабегла наўскос праз жыта сцежка з глыбокімі выезджанымі каляінамі; на высокіх калівах мятліцы па-аставалася рудаватая каламазь. Нехта ўжо зажынаў жыта: на рагу вузкага загона быў выкладзены з двух жменяў і прысыпаны зямлёю крыж. З сырога мэндля куры здзёўбвалі нізкія каласы.

У браме стаяла, закрываючыся рукою ад сонца, гаспадыня, старая кабета з нейкаю выцвілаю анучаю на галаве — некалі, мусі, была суконная хустка.

На жардзяным плоце вяў пусты гарбузовы цвет.

— Дзень добры! — павіталася маладзіца і папусціла вяроўку — карова нагнулася да пераспелае, з рудаватымі галоўкамі дзяцеліны.

Старая адняла ад вачэй руку,— твар яе быў зрысаваны маршчынамі, каля ніжняй губы на барадаўцы закручваўся сівы волас,— і нічога не сказала.

— Ці можна ў вас напіцца? — спытала маладзіца, углядаючыся на падворак — там быў калодзеж: на накрыўцы стаяла бляшанае са шрубаю на вочапе вядро, прывязанае да корбы тэлефонным дротам.

Гаспадыня павярнула галаву, настаўляючы вуха, і напаследак азвалася:

— Дзеткі, а чаму ж не...— голас у яе быў шурпаты. Яна адчыніла брамку і пайшла пад хату. З-пад доўгае спадніцы мільгалі яе жоўта-зялёныя пяты.

— То чэрпайце, а я хіба конаўку прынясу,— сказала старая, адмыкаючы дзверы.

Карова чмыхнула, закруціла галавою і, вырваўшы з рук у маладзіцы вяроўку, пабегла да калодзежа. За пысаю ў яе цягнулася сліна, на дне карыта, што стаяла каля калодзежа, зелянеў астатак цёплае вады.

Карова ткнулася пысаю ў карыта, і па горле ў яе пабеглі круглыя камякі.

— Ой, якая ты нецярплівая! — маладзіца адкрыла накрыўку і пусціла ў халодную цемень вядро: мільгаючы выслізганаю жалезнаю ручкаю, загрукацела корба.

Маладзіца выкруціла вядро і паставіла на край трубы: у калодзеж, разліваючыся, плёскалася з халодным звонам вада. Маладзіца нагнулася і, трымаючы абедзвюма рукамі вядро, злавіла сухімі губамі яго халодны край. Вада цвёрдым холадам апякала грудзі. Смага счахла, толькі вострым болем шчымелі зубы.

Пад рукі прашыўся меншы.

— Хаця ж не давайце яму — прастудзіцца,— крычала з адчыненых сенцаў старая, трымаючы ў руцэ медную, пэўна вытачаную са снараднае гільзы, конаўку: несла меншаму з хаты ваду.

Каля брамы стаяў і глядзеў сюды на іх чорны аблавухі сабака; страпянуўшыся, ляскаў зубамі — лавіў мух.

Большы піў з вядра. Карова, падняўшы галаву, заглядвала прагным вокам у калодзеж — тае вады, што была ў карыце, ёй не хапіла.

— А ці ж здалёк будзеце? — старая выплюхнула з конаўкі недапітую меншым ваду.

— З горада я.

— А куды ж ідзяце?

— Да сястры ў Ахоны іду.

— Ой, не блізка шчэ! Па-старому — вёрст пятнаццаць ад нас.

— Ужо блізка. Ужо менш асталося,— маладзіца выліла ў карыта ваду і паставіла на калодзежную накрыўку парожняе вядро.

Карова піла з карыта, трэпаючы ад злосці нагою — ганяла ад сябе мух і слепакоў. Дзеці крушыліся каля гародчыка: на камлі нізкай ужо абабранай вішні чырванаватай нарасцю кіпела цягучая смала.

— А во — жвачка,— крычаў меншы, чапляючыся на сухі патрэсканы частакол.

— Няма, дзеткі, вішань, няма. Надоечы немцы абабралі, панеслі і з галлём,—старая абярнулася да маладзіцы.— Хватаюць усё, як перад канцом. А ўчора, божа, колькі іх тутака шашою ехала!

— Уцякаюць, цётка. Фронт блізка. Скора прыйдуць нашыя.

— Дай божа, каб скончылася ўсё... Гэтулькі людзей пагінула,— вочы ў старое заморгалі, наліваючыся слязьмі, і губы пачалі крывіцца.— Толькі мяне вот смерць не бярэ...

Старая адвярнулася і, выціраючыся рогам хусткі, сказала:

— Але чаго ж тут стаімо? Я шчаўя навары-

ла, можа, паснедалі б? Вы ж, напэўна, галодныя. Дый карову даіць пара, во глянье — вымення налілося... Гэта ж малако перагарыць...

У хаце пахла чэрствым хлебам, даўняю духатою; роем звінелі мухі, біліся ў гарачыя шыбы. На прадпечным акне стаяла шкляная мухалоўка. На покуці за абразом сохла жменя зажатага жыта.

Той акрайчык, што мела з сабою, маладзіца раздзяліла дзецям яшчэ раніцою, як выходзілі з горада. Яны з'елі яго сухамя, хоць яна казала, што падоіць карову і з малаком будзе дужэй.

Хлеб, мусіць, ляжаў на стале, накрыты ручніком — на ручнік садзіліся мухі. У яе дома мухі пагінулі даўно. У горадзе быў голад: людзі яшчэ з вясны разбягаліся па вёсках, беручы з сабою ўсё лепшае з адзежы, каб выменяць на харчы. Яе ж ратавала карова — у тодаўцаў за літр малака можна было купіць хлеба ці канцэнтратаў. Але ўчора яны прыходзілі па карову, балазе тая была ў полі. Яна спалохалася, што карову ўсё роўна забяруць, і сёння раніцою ўцякла з гарадка. Яна змахлявала старой, што ідзе да сястры — саромелася сказаць, што жабруе.

— А муж дзе? — спытала старая, беручы з памялешніка вілачнік і падважваючы нешта ў печы.

— На вайне. Як забралі ў трыццаць дзевятым пад Беласток, дык нічога і не чуваць.

На прыпеку дзынкнула скаварада — запахла кіслым шчаўем.

— А мой яшчэ перад вайною памёр...— гаспадыня дастала з-пад прыпека гліняную міску і падзьмухала ў яе.— А на мяне паслаў бог кару...— Яна наліла ў міску шчаўя і паставіла яе на стол, адкінуўшы абрус: пад ім ляжаў акрай-

чык хлеба з картоплямі — у мякішы былі відаць жаўтаватыя крышаны.

— Садзецеся, чаго ж вы...— гаспадыня яшчэ вярнулася да прыпека і прынесла счарнелыя драўляныя лыжкі і нож-зломак без аднае тронкі.

Дзеці пачалі тузацца між сабою, перабіраючы лыжкі.

— І нікагутка ў вас болей няма? — маладзіца прысела на лаву з краю стала.

— Ёсцека сын меншы,— гаспадыня ўздыхнула, азіраючыся, дзе гэта ёй сесці.— Двое было... Старэйшы не вярнуўся з фінскае, а гэты, грэх і казаць, у паліцыянты пайшоў. Можа, і за яго бог карае. А вы ешча, ешча...— яна прымасцілася на край ложка, адкінула падушку і падняла ванзэлак — паркалёвую з чырвонымі кветачкамі хустку.— На смерць хаваю...

Дзеці сёрбалі шчаўе, разліваючы з лыжак на стол — ад міскі цягнулася наплюханая дарога.

— А чаго ж вы мала ясце? Я падалью...— гаспадыня паклала пад падушку ванзэлак і паднялася з ложка.

— Досіць, досіць! Я і так не ведаю, як дзякаваць вам.

— То хоць дзяцей кармеце. Карову я падаю сваю і вашу.— Яна нагнулася пад прыпек, мусіць, шукаючы там даёнку, але раптам спомніла, што тая сохла недзе на двары.— Шукаю, а яна на плоце,— старая ўзялася за клямку і ўжо сказала пра дзяцей: — Нябось цяжка іх гадаваць... А павырастаюць... Праўду кажуць: малыя дзеці — малы клопат. А мой... Чаго яго пагнала ў гэтую паліцыю? Цяпер усё з нейкім злыднем прыязджае. А той да нашае маладзіцы прыстае. Некаторага дня напіўся і мужыка хацеў застрэліць. Гэта во, каб спала з ім пры мужыку.— Яна

моўчкі пастаяла каля дзвярэй, думаючы пра нешта, і ціхенька выйшла з хаты.

Маладзіца азірнулася ў акно: за жытам на грудку ўставала белаватая хмарка, яна ўсё расцягвалася, і раптам, бліснуўшы вокнамі, паказалася бязносая нямецкая машына. Пыл разбэрсанымі клубкамі каціўся назад — клубкі распаўзаліся, растаючы над жытам.

Маладзіца прыціснулася лобам да шкла.

Перад паваротам на хутар машына сцішыла ход і, як нешта жывое, страшнае, абнюхала сцежку і скіравала на яе.

Старая, засопшыся, з пустою даёнкаю вярнулася ў хату:

— Едуць сюды, няхай крые бог, немцы.

Дзеці кінуліся да акна. Каля брамы машына загула з перабоямі — у хаце задрыжалі сцены.

— Гэта ж не немцы, а бобікі,— сказаў большы, стоячы з каленьмі на лаве.

— Ціха ты! — штурханула яго маладзіца.

З машыны выскачыў сухарлявы, з кароценькімі натапыранымі валасамі паліцыянт — пілотка ў яго была засунута за рэмень — і адчыніў браму. Машына тузанулася і паехала на падворак, чмыхнула чорным дымам і стала ля калодзежа.

— Ах, божа, ці не Іван прыехаў! — жмурачыся, старая ўцікоўвалася ў акно.

З кабіны вылез яшчэ адзін — дзябёлы, чарнамазы.

Рот у маладзіцы раскрыўся, і твар застыў не то ад дзіва, не то ад страху. Няўжо гэта ён, яе муж? Маладзіца ўсё гэтак пільна глядзела на чарнамазага. Як ён змяніўся за тры гады — пастарэў, асунуўся, і яму саўсім не ідзе пілотка: у яго робіцца надта доўгім нос.

— Гляньце, гэта во той, што мужыка хацеў застрэліць,— скоранька зашаптала старая.

Маладзіца тарганулася на лаве і адсунулася ад акна:

— Няўжо ён?..

— Ці ж я, дзеткі, не ведаю.

Маладзіца, як сама не свая, паднялася з лавы, але ўчула, што слабеюць ногі і ўсё халадзее і дрыжыць у грудзях, і села. Няўжо гэта праўда? Няўжо ён служыць у паліцыі і страляе людзей?.. Няўжо праўда? Няўжо яна не здурэла!.. Яна заплюшчыла вочы і ўчула, як цяжкая гарачыня з шумам хлынула ў галаву. І ёй убачылася, як усе яны, у чорным, гналі пазаўчора людзей, гналі ў тыя вялікія ямы за вакзалам, дзе некалі капалі гліну... Яна якраз выйшла з хаты,— толькі зашарэла на дзень,— і можа з гадзіну прастаяла, стаіўшыся за плотам; у ямах пачалі глухавата, без ляску, усё роўна, як пад зямлёю, страляць, а потым нехта нема крычаў — і яна не вытрывала гэтага енку, уцякла ў хату.

Маладзіца зноў сабралася ўстаць з лавы: але нейкая здранцвеласць і слабасць навалiлiся на яе. Божа, як ён трапіў у паліцыю? Чаму ніколі не паказваўся дадому? Няўжо праўда, што ён прыстае да кабеты?.. Няўжо ён такі гадкі?.. Яму наўме другія, а яна, дурная, чакала яго дадому...

Першым у хату ўвайшоў сухарлявы — аглядаючы маладзіцу і дзяцей, паставіў на стол бутэльку, за горлачка выцягнуў з кішэні другую. Услед за ім, прыцiскаючы да жывата кансервы, усунуўся чарнамазы і раптам прыстакнуў каля парога, сумеўшыся,— бляшанка кансерваў грукнулася на падлогу і пакацілася пад лаву.

— А ты чаго тут? — ён насупіўся і ледзьве пашавяліў губамі.

— Таго, чаго і ты,— маладзіца глядзела нёдзе сабе пад ногі і не падняла галавы.

Ён хмыкнуў, крыва ўсміхнуўшыся, нагнуўся, каб падняць бляшанку кансерваў, і сказаў сухарляваму:

— Гэта ж во — мая жонка.

— Можа і дзеці твае? — зарагатаў сухарлявы.

— Клопат вам — дзеці,— старая падышла да стала і згрэбла ў далонь крошкі.

— Тваё дзела — старана. Не кукуй! — сухарлявы пакасіўся на маці і паставіў на стол другую бутэльку.

— Я ўжо адкукавала сваё... Пара і свой розум нажыць,— старая тыцнулася да дзвярэй, але вярнулася, узяла даёнку і выйшла з хаты.

— Цётачка, я сама падаю,— маладзіца паднялася з лавы.

— А ты куды? — чарнамазы вылажыў кансервы на стол і заступіў ёй дарогу.— І расказаць не хочаш, як жыла?..

— А хіба цябе абыходзіць,— маладзіца ўчула, што ў яе знайшлася сіла, мусіць, ад злосці.

— Во і сын, відаць, забыўся, што ў яго бацька ёсць? — ён паверх яе галавы глядзеў на дзяцей.— А гэта чый яшчэ?

— Мой.

— Як?

— Знайшла.

— Можа дзе якога жыдка?

— А табе што?

— Можа, прыйдзецца ўцякаць — нашто чужое дзіця...

Дзеці, стаіўшыся, глядзелі на яго, большы зыркаў з-пад ілба і хаваў вочы — саромеўся: пэўна, пазнаваў бацьку.

— Куды і нашто мне ўцякаць? — спытала яна і падняла галаву: вочы ў яго былі чырванаватыя і асалавелыя, твар нездароўчы, азызлаваты. «Ён тут п'е, прыстае да другіх... І, можа, сёння ехаў да тае...» — падумалася ёй.

— А ты думаеш, мне даруюць? — ад яго пахла едкім, усё роўна як авечым, потам і перагарам.

— Калі вінаваты, то не,— яна адвярнула ад яго галаву.

— Я ў пляну быў... Ды нават за тое, што я ў гэтай форме.

— Відаць, як цябе трымаюць, што нават дадому не прыходзіш...

— Не хацеў паказвацца.

— Вядома: тут можна вытвараць, што хочаш. Балазе, чужыя людзі, не ведаюць...

— А ты хацела б, каб я жывы не астаўся?

— Вып'ем, га — сухарлявы трымаў медную конаўку, разліваючы сабе на пальцы самагон.— Вып'ем, і ўсё праясніцца, як божы дзень.

— Садзіся за стол,— чарнявы ўзяў яе за руку вышэй локця.

— Адчапіся! — яна вырвала сваю руку.

Чарнявы выпіў і, хукаючы ў далонь, сказаў:

— Налі ёй.

— Я не хачу.

Сухарлявы наліў яшчэ конаўку. Яна адвярнулася. Чарнявы выпіў і не скрывіўся. І асалавеў — неяк скора: вочы ў яго наліліся каламутнасцю і заблішчалі. Ён абняў яе за плечы — ад яго зноў нясло гарэлкаю і нейкім едкім потам.

— Адыдзі, не чапіся! — яна выкруцілася з яго рук.— Схадзі да тае вунь, што мужыка хацеў застрэліць.

— Туды далекавата. Сёння ты бліжэй,— ён зноў схапіў яе за руку.

— Не прыставай! — яна хацела вырваць руку, але не здужала.

— Ты глядзі, не падступіцца...— твар у яго наліўся крывёю.— Вунь колькі байструкоў... А ты думаеш, я не ведаў? Ведаў, таму і не прыйшоў.

Яна ўспомніла, як аднаго разу стараста прывёў нанач нейкага валацугу. Намякаў сам: «Як жа ты адна, маладая, без мужыка? Нябось збедавалася...» Яна тады плюнула яму ў твар. А потым ён прывёў валацугу. Той і прысунуўся на ложак, як толькі задрамалі дзеці. Але яна не спала — схапілася з пасцелі, трымаючы нагатове сякеру (паклала яе пад падушку, бо як чула, што, пэўна, спатрэбіцца). І ён адступіўся, вярнуўся на лаву, дзе ляжаў, і раптам захроп, прыкінуўся, што спіць, быдта нічога і не было. А раніцою гаварыў, што спаў, як забіты, і дзякаваў усё...

Можа, і гэты таксама соваўся да другіх...

— Поскудзь ты! — сказала яна ўголас і пхнула яго ў грудзі.

Ён пахіснуўся, але ўстояў на нагах:

— Ну, ну, не давай волю рукам!

— А мамачка! — закрычаў меншы ссоўваючыся з лавы.

Большы сядзеў, адвярнуўшыся, і румзаў.

— Ды што ж тут робіцца!..— старая ўбегла ў хату, не зачыніўшы за сабою дзвярэй і выплюхваючы з даёнкі малако.

— Твае дзела — старана! — крыкнуў сухарлявы, выціраючы рукавом губы — гарэлка блішчэла ў яго на барадзе.— Гэта — яго жонка.

— Пабойцеся бога, што вы робіце, ды пры дзецях шчэ! — яна схапіла чарнамазага за плячо.

Ён варухнуў плячом і скінуў яе руку.

— Не лезь! — ужо раз'юшыўшыся, крыкнуў бялявы і пхнуў, адстараняючы ўбок, маці: тая

спатыкнулася, махнуўшы даёнкаю — на падлогу плюхнула і зашумела малако.

Чарнамазы схапіў маладзіцу пад пахі, адарваў ад падлогі і, чырванеючы, наліваючыся крывёю, пхнуў у сені. Яна яшчэ ўбачыла, як, пакаўзнуўшыся ў лужыне малака, упала старая, як з немым крыкам кінуліся да парога дзеці, як сухарлявы, пераняўшы іх, зачыняў дзверы.

— Не чапай! Поскудзь ты! — крыкнула яна ўжо яму, мужу, у сенях.

— То во — адгулялася. Цвёрдзенькая...— ён засопся і выпусціў яе з рук.

— Не падыходзь! — сказала яна, схапіўшы капач, што стаяў якраз пры вушаку.

— Кінь, гавару,— ён расставіў рукі, каб зноў злавіць яе.

— Не падыходзь! Дальбог, засяку! — яна збялела, мяняючыся з твару, і выскачыла з сяней.

Ён выбег за ёю, задыхаючыся і расстаўляючы рукі, каб злавіць яе. З надворка яна скіравала на сцежку, ужо адчуваючы, што нейкая спакуса пад'юшчвае яе абярнуцца і сакануць яму капачом па твары.

— Не лезь да мяне! А то праўда — засяку! — сказала яна не яму, а сабе, баючыся ўжо, што зробіць гэта.

Ён зарагатаў недзе блізка за спіною, і ад яго запахла гарэлкаю і нейкім едкім, як авечым, потам.

Яна абярнулася і ўбачыла яго застылы твар, яго каламутныя, налітыя крывёю вочы, і ёй зрабілася брыдка, што яна любіла яго, сніла і ўсё чакала дадому.

— Не чапіся! А то, дальбог, саграшу...— яна спынілася і раптам спалохалася, што не ўтрывае,

не саўладае з сабою і секане яму па гэтым азызлым твары — хай будзе, што будзе.

— Тут жа ўсё відаць... Ідзі туды, во... у жыта,— зашаптаў ён, забягаючы наперад.

«Ой, які ён гадкі! Ды яшчэ... у гэтай пілотцы!..» — падумала яна, адступаючыся. Але ён дагнаў яе, схапіў за плечы і, сцяўшы зубы і наліваючыся ў вачах крывёю, кінуў ніцма на зямлю.

— Пусці, злыдух! — застагнала яна, выкручваючыся з-пад яго, блытаючыся ў жыце і ўсё не выпускаючы капача.

— Нікуды не дзенешся!..— ён аж захроп ад злосці, злавіўшы яе за руку, сціснуўшы, як жалезам, і сілком цягнучы да сябе.

— Пусці! — крыкнула яна, устаўшы на калені і паднімаючы капач.

Ён поўз да яе, угнуўшы галаву, засланяючыся рукою. Яна размахнулася, на нейкі міг падумаўшы: «Божа, што я раблю?», але салодкая, злая сіла павяла яе руку,— яна аж заплюшчыла вочы, пачуўшы трэск, гэтакі самы, як трашчыць бручка, калі секануць па ёй чым вострым.

Ён ціха і мякка, што мяшок, ткнуўся тварам у зямлю.

Яна падхапілася і выбегла з жыта. Каля брамы азірнулася: з жыта былі відаць толькі ногі, жыта было там збэрсана.

Яна ўскочыла ў падворак. Каля плота ляжала карова, цяжка ўздыхаючы і жуючы жуйку. Сабака драмаў у цяньку каля бязносае нямецкае машыны. Яна паглядзела на гэтую доўгую чорную машыну, і яе ахапіў страх. Подбегам яна прайшла падворак і ўскочыла ў хату.

Паліцыянт, звесіўшы руку, спаў на ложку,— у ботах, не разутыя яго ногі ляжалі на біле. Пе-

рад покуцем, перад счарнелым абразом, дзе сохла жменя зажатага жыта, жагналася старая: «От вшэго злэго, выбаў нас пане! Од гжэху каждэго, од гневу твэго!..» Дзеці, натапыраныя, сцішаныя, глядзелі на яе. У большага на шчацэ блішчала, не засохшы яшчэ, буйная, што гарошына сляза.

— Ідзём, дзеткі. Ідзём...— маладзіца схапіла меншага за руку.

На ложку захроп і перавярнуўся на другі бок сухарлявы паліцыянт, ногі яго з'ехалі з біла на радзюжку.

Старая азірнулася.

— А куды ж вы? — і, адставіўшы назад рукі, сагнуўшыся, нібы несла на сабе цяжар, пасунулася ўслед за маладзіцаю з хаты.

— Я забіла яго,— сказала маладзіца, адкручваючы з рог у каровы вяроўку. Рукі яе яшчэ ўсё дрыжалі.

— Няхай крые бог...— старая спатыкнулася і пляснула рукамі.— Няўжо?

— Вунь, на сцежцы,— сказала маладзіца, не гледзячы ў той бок і тузаючы вяроўкаю карову — кіравала яе ў браму.

Старая задзірала галаву, жмурачы ад сонца адно вока і крывячы рот, і раптам жахнулася:

— Вой, дальбог, праўда!

Маладзіца вывела карову з надворка і, б'ючы яе рукою па шыі, завярнула ў жыта, каб абысці паліцыянта. Карова чмыхала, круціла галавою, хватаючы каласы. Дзеці беглі следам, бэрсаліся ў жыце, разводзячы яго рукамі — ім у твар секлі зярняты, што пырскалі з сухіх каласоў. Яны так і не бачылі, хто ляжаў на сцежцы.

— Ах, божачка, уцякайце! Сцеражэцеся хаця...— скрыжаваўшы худыя, скарчанелыя рукі, старая ўсё прыціскала іх да грудзей.— Яны ж

цяпер нікога не пашкадуюць,— і яна падступалася туды, дзе ляжаў паліцыянт.— Ах, божачка, божачка! Можа, ён яшчэ жывы?..

Маладзіца вывела карову з жыта і азірнулася на хутар — за жытам, на сцежцы, было відаць, яшчэ ўсё стаяла старая,— і ёй пачало здавацца, што яна як і не заходзіла сюды, не стрэла мужа, п'янага, у гэтай паліцэйскай пілотцы, разбэшчанага, што дайшоў бог ведае да чаго, не было нічога: ні гэтага крыку дзяцей, ні капача, ні гэтага трэску, як трашчыць сырая бручка... Ні гэтага збэрсанага жыта... А той муж, якога яна ўсё бачыла перад вачыма ўсе гэтыя тры гады, той, якога яна любіла і дзень пры дні чакала дадому, недзе жыве далёка ад яе, што ён гэтакі, як і ўсе людзі, і што яна думацьме пра яго і, пэўна, любіцьме.

— А дзе наш бацька? — спытаў меншы, забегшы наперад і задраўшы галаву, каб глянуць ёй у вочы.

— Там, на хутары...— сказаў большы.

— Дзеткі, наш бацька на вайне, на фронце,— сказала яна, і яе сухія, зеленаватыя вочы набеглі слязьмі.

— А я думаў...— і большы пасаромеўся сказаць, што ён думаў.

Яны зноў ішлі на ўсход сонца. Разасланым палатном перад імі ляжала шаша, звужваючыся і прападаючы за глухім паваротам. Неба там было ліловае, як акаліна на астылым жалезе: дзень хіліўся да вечара.

І за імі бег, невядома адкуль узяўшыся, той самы худы сабака.

# Хата

Мішка Галубец прадаваў хату. Купляў яе Самусь Дзедзіч — каваль з суседняе вёскі, што адмарозіў пальцы: некаторае зімы ішоў з запоін дадому і заснуў на ганку. Заснуў сярод ночы, а жонка, устаўшы, агледзела яго пад раніцу. Пальцы адціралі, але адцерлі толькі два вялікія.

Цяпер Дзедзіч трымаў у куксах, прыціскаючы гэтымі двума пальцамі, жоўты складаны метр і прыкладваў яго да сцяны — мераў хату.

Мішка Галубец, без шапкі, у белай нейлонавай рубашцы, у модных, як носяць цяпер, з шырокім поясам і вузкаватых у сцёгнах штанах, і яго швагер — нізенькі, вастраносы, у даўгаватым, па калені, бушлаце,— стаялі сярод падворка, глядзелі, што робіць Дзедзіч, маўчком курылі.

На падворку сохла зацягнутая плесняю леташняя перапрэлая трава, і па ёй рэдзенькаю атаваю ўжо выпстрыкнула маладая. З-пад пляскатага каменя, што быў каля парога замест сходняў, ачуняўшы, лезла крапіва — яе тут ніхто не таптаў: хата пуставала ад пазалеташняе зімы, як памерла Мішкава маці.

У гародчыку ляжаў, скруціўшыся адным канцом, адрэзаны ад слупа электрычны дрот. Там, на няўскопаных градах, звінелі сухімі галоўкамі стрымбулі высокіх кветак, што сеяліся самі па сабе і цвілі да позняе восені: па іх у гэтую пору лазілі дробныя маладыя чмялі. Каля плота пачынаў зелянець чорны куст агрэсту. Толькі прысадзістая яблыня была яшчэ голаю: на вяршку

трапяталіся скручаныя ў трубку леташнія лісцікі і вісеў зморшчаны, гнілы яблык. Пад яблыняю граблася чужая курыца; вецер раздуваў у яе каля хваста пух. На частаколіне сядзеў верабей, трымаючы ў дзюбцы белую пырыну.

Мішка глядзеў на вераб'я — яму спомнілася, што вераб'і кожнае вясны вяліся ў акне за ліштвою, і Мішку стала шкада вераб'інага гнязда, хаты, гародчыка з прысадзістаю яблыняю; падумалася, што ён астанецца, як чужы, у сваёй вёсцы, калі разбяруць хату. Яму нават убачылася, як будуць раскрываць страху, як будуць кідаць сюды, на падворак, счарнелую гонту, і будзе трохі нязвыкла, што відаць увесь комін, як што жывое і голае.

А здаецца, саўсім нядаўна якраз тут, дзе цяпер стаіць Мішка, ляжалі ачэсаныя дзеравіны, пад іх хаваліся белыя з чырвонымі вачыма ангорскія трусы і Мішка выпорваў іх адтуль, а пасля стаяў зруб, Мішка разам з дзецьмі бегаў па бэльках — тады зваліўся Косця Палусін і зламаў сабе руку.

— Так, восем на дзесяць,— сказаў Самусь Дзедзіч, хаваючы ў кішэнь жоўты складаны метр.

— То можа паглядзімо ў сярэдзіне,— Мішкаў швагер адамкнуў дзверы.

— Таргаваць — не купляць, можна і пашчупаць,— сказаў Дзедзіч, заходзячы ў сені.

Мішка прытаптаў акурак і нехаця пасунуўся за мужчынамі.

У хаце пахла сухім гліняным токам і збуцвелаю саломаю,— за грубкаю стаяў стары драўляны ложак. Над ім вісела, адклеіўшыся, на адным ражку, вокладка ад польскага «Экрана», тая самая, што некалі, прыехаўшы з Кранштата, павесіў Мішка.

Дзедзіч падышоў бліжэй, прыжмурыўся, і ў яго адвісла ад цікавасці ніжняя губа:

— Ого, яе лытка, праўда што нікому не гідка! — сказаў ён, усё ўзіраючыся на здымак: з яго на Дзедзіча глядзела, павярнуўшыся трохі бокам і прыкрываючы рукамі грудзі, голая, у чым маці радзіла, Брыжыт Бардо.

— От свет настаў! — Мішкаў швагер сарваў са сцяны вокладку.

— Кажаш, свет настаў, што ні палажы, ні пастаў? — Дзедзіч закруціўся на адным месцы, аглядаючы хату. У ёй было гола. У сцяне сядзелі цвікі, дзе некалі вісела рамка з картачкамі і цьмянае з падцёкамі люстэрка — Мішкава сястра пазабірала ўсё да сябе. Толькі ў покуці астаўся абраз і за ім пучок закуранага зелля з сухімі жоўтымі галоўкамі, мусіць, піжмы, і на акне стаяла бутэлька ад рому, які купляў Мішка знарок для маці — пакаштаваць, але яна выпіла паўчаркі, папярхнулася, сказала, што надта моцны, што забівае дух, і схавала сабе на лякарства, а потым прызналася, што націрала ромам ногі і ён вельмі ж добра памагаў ёй.

— Ну, як і дагаварыліся,— сказаў Дзедзіч, задраўшы галаву і гледзячы недзе на столь,— тры з палавінаю...

— Ланна,— махнуў рукою Мішка.

Швагер, схаваўшыся Дзедзічу за спіну, заплюшчыў вочы і закруціў галавою: не згаджайся!

Мішка знарок, быдта і не бачыў, што яму маргае швагер, адвярнуўся ў другі бок.

— Я табе скажу, хлопец,— загаварыў Дзедзіч, махаючы куксаю: адзін вялікі палец тырчаў на руцэ, усё роўна як сук на абсечаным камлі,— якая тут хата: падчапі на верацяно і растрасеш, як кудзелю.

— Ты ўжо, дзядзька, тань, але тавару не гань,— умяшаўся Мішкаў швагер.

— А болей ніхто і не дасць,— Дзедзіч піхнуў плячом дзверы, выходзячы з хаты,— дзерава маладое — год-два і струхлела, гэта не тое, што смаліна, на якое і зносу нямашака.

Мішка выйшаў у сені, пастаяў, падумаў, што вот астатні раз стаіць у сваёй хаце, паглядзеў на цёмную дзірку ў столі, зняў з прабояў кароценькія драбінцы, прыставіў да сцяны і палез на гарышча.

— А ты лепшае не адзеў бы, каб пэцкацца ў пыл? — спытаўся, крыкнуўшы з падворка, швагер.

— Няхай паглядзіць. Чаго ты? Мoжа, і ў яго двайны шчыт, як у таго Мухі,— тоненька, як бабскім голасам, засмяяўся Самусь Дзедзіч.

З гарышча Мішка чуў, як Дзедзіч расказваў швагру пра нейкага Муху, што ў шчыце хаваў мануфактуру — было гэта вайною,— і ён, Дзедзіч, разбіраючы Мухаву хату немцам на дровы, прынёс сабе кавалак сукна аж на тры каптаны.

Праз малюсенькае, у адну абалонку, акенца на гарышча свяціла сонца, у яго жаўтаватым слупку клубкамі віўся пыл — Мішка хадзіў па гарышчы, столь рыпела ў яго пад нагамі, і яму спомнілася, што яна гэтак рыпела заўсёды, калі хто хадзіў па гарышчы, і ў хату са столі парушыўся пясок.

На гарышчы ўсё было, як і некалі: пад латамі тырчэлі старыя капачы, лапатка з кароткім, рашчэпленым чаранком, чачотка сухіх рабін, тонкія, мусіць, ад нічальніц, арэхавыя пруты, каля коміна стаяла матчына прасніца, скрыначка з рашпілем, абцугамі і цалёвымі ржавымі цвікамі, і зялёны з абшморганымі ражкамі куфэрак, у які

Мішка калі-та складваў свае кнігі. Мішка адчыніў вечка — зверху ляжаў задачнік па геаметрыі, і ён узяў яго ў рукі, пагартаў; на другі бок жоўтае тонкае вокладкі ўбачыў свой роспіс — «Галубец». І Мішку зрабілася смешна, што ён гэтак распісваўся, спомніўся і здаўся смешным цяпер настаўнік матэматыкі, што замазваў чарнілам пазбіваныя ў туфлях перады і да самага цяпла насіў зімовую шапку, у ёй заўсёды стаяла і целяпалася «вуха»; спомнілася і яго мянушка — Грыц, якую яму далі дзеці: перад кожным словам настаўнік устаўляў «як грыцца». Спомнілася Мішку, як Грыц аднаго разу зайшоў да іх у хату — настаўнікаў тады пасылалі падпісваць людзей на пазыку.

Грыц пастаяў каля парога, сцягнуўшы з галавы сваю аблавухую шапку — у яго натапырыўся рэдзенькі чубок — і спытаў, убачыўшы Мішку, ці не тут жыве бацька таго Галубца, што кепска вучыцца.

— Тутака,— сказала маці, раптам зачырванеўшыся і выціраючы аб хвартух закасаныя да локцяў рукі,— яна мыла бялізну: сярод хаты стаяла балея з напараным лугам, з балеі вілася цёплая, удушлівая пара.— Хто ж горай вучыцца, як не наш! Толькі бацькі ў яго нямашака, не прыйшоў з вайны...

Грыц абвёў вачыма хату і ўздыхнуў: жылі яны тады ў хлевушку. У адной, большай, палавіне стаяла карова, а ў другой, меншай, адгароджанай сцяною, з акенцам у чатыры абалонкі, жылі яны.

— Як грыцца, што тут скажаш...— Грыц папярхнуўся параю і высунуўся задам з хаты, нічога так і не сказаўшы пра пазыку. А ў школе злавіў Мішку за плячо, калі той дзеразаваўся на ка-

лідоры,— тады была мода граць у «жучка»,— адвёў ад купы і сказаў:

— На добрае цябе няма, а на благое ты скрозь першы,— голас у Грыца быў тоўсты.— Чаму не вучышся? Няўжо думаеш і звекаваць у тым хляве? Прыходзь да мяне дахаты — памагу.

Але Мішка не пайшоў, пасля восьмага класа пераверуся ў вячэрнюю. Навукі там не было. З урокаў Мішка бегаў у местачковую лазню пад вокны глядзець на маладых настаўніц — там нехта знарок сашкроб на шыбе фарбу. Адным вокам, праз дзірачку велічынёю з грош, Мішка бачыў, як у жаўтаватай ад цьмянае лямпы пары мільгалі белым целам кабеты. Там стаяў гоман, піск, маладжавы смех, плёскалася, шумела некім вылітая вада, дзынкалі парожнія тазы — лазня гудзела, як увосень багаты і людны кірмаш. А Мішка ўсё цікаваў у той куток, дзе паходжвала спрытная, цвёрдая і круглатварая, як маладая рэпка, іхняя хімічка. Мішку было брыдка, сарамяжлівасць мяшалася з радасцю.

Ён ішоў дадому, а ў вачах ўсё стаяла яна, як стаіць сонца, нейкаю залацiста-зеленаватаю яснасцю, калі ты на яго глянуў.

А потым у Мішкі было ўжо другое: былі ў яго і дзяўчаты, і ён, здаецца, любіў іх, а помнілася ўсё яна, настаўніца.

Днём Мішка хадзіў на чыгуначную станцыю прызарабляць: насіў з вагонаў у склад скрынкі з гарэлкаю. Пасля работы загадчык базы наліваў грузчыкам з разбітых, без горлачка, бутэлек па паўшклянкі гарэлкі і выпісваў па дваццаць рублёў. Дадому Мішка вяртаўся «пад мухаю» і прыносіў скамечаныя ў спацелай руцэ грошы. Было не да вучобы. На другую восень Мішка ўзяў даведку за дзевяты клас і паехаў у мараходку.

— Ну, чаго ты там швэндаешся, як чорт па пеклe! — крыкнуў з падворка швагер.

Мішка кінуў задачнік у куфэрак, падумаў, што трэба будзе сказаць сястры, каб пазабірала ўсё, і пачаў спускацца з гарышча.

Дзедзіч са шваграм пералазілі ўжо праз калючы дрот, якім быў адгароджаны ад вуліцы падворак.

Мішка замкнуў дзверы і выйшаў на вуліцу. Прыпарвала. Купкамі каля плота кучаравіўся малады сіваваты палын. За плотам у чужых гародчыках пукаўся, набрыняўшы, бэз. Пахла разварушаным смеццем — людзі падграбалі і мялі падворкі — і халоднаю чэрстваю зямлёю з перакапаных град: была поўня, сеялі расаду. На нечым акне ў скрыначцы густою шчоткаю зелянелі ўжо цемнаватыя памідоры. На частаколінах цвіў жоўты лішай і пах ужо плесняю і вясною.

Дзедзіч гаварыў швагру, што ў іхняй брыгадзе пасеялі авёс, а Мішка Галубец ішоў ззаду, слухаў, і яму прыпаміналася нейкае далёкае лета — як маці жала авёс і як ён насіў на поле скручаныя з жытняе саломы і вымачаныя ў вадзе перавяслы.

За вёскаю на полі ўжо акрыяла і зелянела маладое жыта. У лагчынцы яшчэ стаяла вада — здалёк выдавала, што ў зямлі адкрылася прорва. Над жытам вілася і кігікала кнігаўка, усё роўна як плакала па сваіх дзецях.

Шваграва хата была ў канцы вёскі. Ад хаты да балотца спускаўся садок, абгароджаны ў тры драціны. На балотцы за голым і сіняватым алешнікам цвіла слепата, і недзе там турчаў, як хто ў вуха, туркач — на цяпло. Каля парога сохла высыпаная з ямы картопля, стаяў кошык парэзанае ўжо на насенне.

На падворку было чуваць, як стракатала ў хаце швейная машына. У акне Мішка ўбачыў сястрын твар.

— Скора ж вы нешта? — спытала сястра, адчыніўшы дзверы і пастараніўшыся ад парога — першым у хату ішоў Самусь Дзедзіч.

— Доўга — умеючы...— сказаў швагер, распранаючыся і вешаючы на цвік салдацкі бушлат. На швагру была чырвоная ў белыя радкі пaплінавая рубашка, тая самая, якую яшчэ аддаў яму Мішка, цяпер ужо з новым каўняром і ўточанымі рукавамі.

— Адзеўся б хоць,— сказала ціха сястра.— Нядзеля, каб гэтак хадзіць...

— Абыдзецца,— агрызнуўся швагер, убіраючы ў порткі чырвоную рубашку. Мішка ўбачыў, як у яго ад злосці пачало касіць правае вока, і Мішка падумаў, як сястра любіць яго, гэткага недалэнгага, малога, і як жыве з ім.

Сястра пачала ўпраўляцца каля стала. Мішка глядзеў на яе: сястра разбылася, твар папаўнеў, але быў маладжавы, толькі нейкая жаўтлявасць асталася ў ім: сястры, мусіць, яшчэ нездаровілася пасля родаў.

— А як жа ж Кася? — спытаў Мішка пра другую сястру, што завербавалася, як ён быў яшчэ малы.

— А ты, добранькі, каб хоць напісаў ёй...

Сястра адчыніла пограб, спусцілася туды і дастала на падлогу графін падкрашанае чарніцамі самагонкі.

Мішка прыгадаў, што сястра Кася, прыехаўшы хаваць маці, расказвала, як муж ходзіць да нейкае праваднiцы, п'е з ёю і, вярнуўшыся дадому, соваецца біцца.

адчыняе гэтыя дзверы з выбітым шклом. Сэрца ў мяне зашчымела, што я вось зараз пайду, так і не ўбачыўшы яе, не даўшы ёй знаць, што быў тут, хадзіў каля яе дома, зазіраў у вокны, бачыў дзяўчо, маладую кабету з дзіцем, гэты ціхі двор, нізкі па калена плоцік, чорны, голы агрэст.

Я абмінуў лужыну, што сабралася перад ганкам у лагчынцы асфальту, і падняўся на сходы. У сярэдзіне ў мяне ўсё дрыжала, нейкая трывога сціскала маё сэрца, рукі калаціліся, калі я ўзяўся за халодную скобку ў дзвярах. Дыхнула сухім сатлелым пахам пад'езда. Прыгрэўшыся на радыятары, жмурыў вочы кот. Сцяна ўвешана пляскатымі бляшанымі скрыначкамі для пошты. А вось на скрынцы і лічба «4». Дзеці накрэмзалі на сцяне свае імёны — як у кожным пад'ездзе.

З нейкім страхам, што вось зараз выйдзе яна, я падышоў да дзвярэй. Не, гэта трэцяя кватэра. Чуючы, як слабеюць і дрыжаць ногі, я падняўся на другі паверх.

А вось на абабітых чорным дэрмацінам дзвярах блішчыць прыбітая бляшка — «4». Каля вушака званок. Перад дзвярмі драцяная сетачка, каб выціралі ногі.

І нешта як спакушала мяне — націснуць на гэтую белую кнопку званка. І я нават убачыў, як раптам адчыняцца дзверы і з цёмнага калідора пакажацца яна ў тым самым карычняватым халаціку, у якім яна была ў Ялце, у санаторыі «Горны».

Я падышоў да дзвярэй, прыслухаўся — за імі было ціха. Я толькі чуў, як стукала — бух-бух-бух — маё сэрца. Зверху нехта спускаўся: па цэментавых сходах востра цюкалі абцасы. Я адышоўся ад дзвярэй — прабегла маладое дзяўчо ў

лёгкім паліто з белым каўнерыкам, пакінуўшы светлы дзявочы пах духоў.

Як жа ж ёй даць знаць? Чакаць? А калі яна выйдзе з мужам? Мяне разбіраў халодны страх. Не! Толькі тут не стаяць! Напісаць запіску. Я пашукаў у кішэнях паперы і знайшоў толькі той зеленаваты білецік, што браў на электрычку.

Падышоўшы да акна, паклаў на яго зеленаваты білецік, дастаў з кішэні ручку і пачаў пісаць, рука ў мяне дрыжала: «Кеня, пазвані, калі ласка, па тэлефоне: 223-43-72. Чакаю...» «Што болей? Не, мусіць, досыць». Я ўзяў білецік, чуючы, што ў мяне спадыспаду змакрэла рука. У пад'ездзе было ціха, блішчала бляшаная лічба «4» на чорных, абабітых дэрмацінам дзвярах.

Слухаючы, ці не адчыняюцца гэтыя чорныя дзверы, я спусціўся да паштовых скрынак, укінуў у чацвёртую білецік і выйшаў на двор. Зрабілася лягчэй ад гэтага азыраватага ветру, ад вастраватага веснавога холаду, але мяне яшчэ ўсё калаціла — дрыжалі ногі, як дрыжаць яны ў хворага, калі ён доўга не ўставаў з пасцелі, навальвалася нейкая слабасць.

На лаўцы сядзела маладзіца з дзіцем на руках. Вецер варушыў слабка нацягнутую на шэрых слупах белую танкаватую вяроўку. За плоцікам чарнеў голы яшчэ агрэст. Недзе піпікала машына — мусіць, тая, што збірае смецце. Нехта ў адной рубашцы, без шапкі бег з вядром, прытопваючы, каб не разляталіся, рукою сухія паперкі.

Я задраў галаву, гледзячы на вокны на другім паверсе. Яны былі завешаны цюлем. Суха блішчала, мусіць, вымытае надоечы шкло. Яшчэ раз азірнуўся на першы пад'езд: каля сходаў вецер рабаціў каламутную лужыну. На лаўцы

ўсё гэтаксама сядзела маладзіца ў сівай пуховай хустцы з дзіцем на руках.

Я яшчэ пастаяў, узіраючыся на гэты цагляны дом з чырвонымі абводамі над вокнамі, на гэты ціхі двор, і завярнуў на вуліцу, невядома чаму думаючы, што яна, Кеня, можа тут і не жыве. А дзе дазнацца пра яе адрас? Спытаць? Схадзіць на гэты заводзік, дзе яна працуе інжынерам, і распытаць у людзей?

Але ж сёння субота. Не, калі яна ўжо не пазвоніць, тады...

Я пахадзіў па гэтым гарадку, ад якога пахла вільготнаю набрынялаю зямлёю, раскопанымі градамі, гаркаватым дымам ад сухога, ссыпанага ў кучы і падпаленага смецця, пастаяў яшчэ зводдаль новага кінатэатра, дзе на высакаватым і шырокім ганку [redacted] задзірастым брылём тапталіся людзі; прыглядаючыся яшчэ ўсё да маладзіц, ці не ўбачу яе, я вярнуўся на электрычку, ужо нейкі паспакайнелы і страціўшы спадзяванне, што калі-небудзь стрэну яе, Кеню.

Ехаў у Маскву, а перад вачыма ўсё стаяў гэты гарадок з шарымі цаглянымі дамамі, чыстыя, падмеценыя вуліцы, той дом з чырвонымі абводамі над вокнамі, пад'езд, спісаны мелам, абабітыя чорным дэрмацінам дзверы і перад імі драцяная сетачка.

І ўжо наракаў на сябе, што дарма ўкінуў білецік, бо ці знойдзе яго хто, і чаму не падпісаў якоенебудзь жаночае імя, бо што тады, калі гэты білецік знойдзе муж...

У гасцініцы, у нумары, была адзінота, смутак сціскаў душу. Я заказаў размову з домам і сказаў жонцы, што яшчэ затрымаюся на дзень — на два, хоць мне і абрыдла сядзець тут аднаму ў гатэлі.

— І ўся гісторыя? — здзівіўся Чэмер, калі Петраш адхіліўся ад сцяны і неяк пабольшаў адразу. Ён стаяў высокі, дужы ў плячах, толькі ў яго на гладкім маладжавым твары свіцілася нейкая жаўтлявасць. І ці, можа, ад таго, што стаялі мы далёка ад акна і тут было цемнавата, на ім як значылася нейкая спакутаванасць і хвароба, і ў сініх вачах была млоснасць.

— А што, вас можа і не бярэ цікавасць? — спытаўся ён, сарамяжліва засмяяўшыся і паказваючы свае белыя і як крамяныя зубы.

— Не, ужо даслухаем, — сказаў я, каб хоць як заступіцца, угадзіць яму, бачачы, што ўсім ужо расхацелася слухаць і прапаў усялякі інтарэс да гэтай Петрашовай гісторыі, кожны ўжо напэўна набыльваў пра тое, каб як пайсці дадому, бо недзе ў канцы калідора, каля кладоўкі, дзынкала вядром тэхнічка.

Петраш, растапырыўшы пальцы, абедзвюма рукамі прыгроб, неяк пачынаючы ад лоба, за вушы на патыліцу валасы, памаўчаў, кусаючы край ніжняй губы, нешта спамінаючы сваё, і адвёў ад нас вочы:

— А ўся гэтая гісторыя скончылася вельмі звыкла. Назаўтра, спусціўшыся ў рэстаран і на скорую руку паснедаўшы, я сядзеў у нумары і чакаў яе званка. Недзе ў самы полудзень зазваніў тэлефон. Я з нейкай звар'яцелай радасцю падскочыў і падняў трубку. Гаварыў мужчына. У мяне нешта адарвалася ў грудзях і спацела рука. Муж... Але чаму ён называе мяне па імю? Я ледзьве разабраўся, што звоніць таварыш, наш тутэйшы хлопец, што зрабіўся масквічом: скончыў аспірантуру і застаўся там. Словам, ён кліча мяне ў госці, а пагаварыць нам з ім было

пра што: некалі тры гады сядзелі за адным сталом, як займаліся на фізмаце, пакуль ён не перавёўся ў Маскву, у МГУ.

Адмовіць не было як, і я паехаў недзе аж на край Масквы — спярша ў метро, потым аўтобусам, у вёску, за якой ужо стаялі чырвоныя недабудаваныя дамы, а над імі паднімалі тонкую шыю пад'ёмныя краны, бытта заглядвалі ў сярэдзіну гэтых дамоў, а тут каля хаткаў з размалёванымі шчытамі, з выразанымі аканіцамі таўклі мак камары, стаяла цеплыня, на вербалозе ў гародчыках распускаліся жоўтыя каткі, і над імі віліся пчолы. Недзе гаўкаў тоўстым голасам вялікі сабака. Я мінуў вёсачку, і мяне стрэў мой таварыш. Дома ў яго нікога не было — жонка з дзецьмі паехала недзе на дачу. Мы выпілі па кілішку. Гутаркі было многа. Спомнілася ўсё даўнейшае. Прасядзеў я ў яго гадзіны чатыры. Ён намаўляў мяне астацца нанач, але я не помню, як ужо адгаворваўся, што яму махляваў. Ён, мусіць, не вельмі паверыў і падвёў мяне да аўтобуснага прыпынку. Вярнуўся я ў гасцініцу пад вечар. Распрануўся і прылёг на ложак. І не помню, як задрамаў.

Разбудзіў мяне тэлефон. За акном ужо сутоньвалася: у кутках у нумары гусла цемната. Я кінуўся да століка, выцяўшыся каленам аб крэсла, і зняў трубку.

— Алё-о,— сказаў я, сцішыўшыся і чакаючы яе голасу. Сэрца маё дрыжала.

— Гэта Кеня. Хто мяне пытае? — пачулася недзе здалёк і ціха. Голас быў яе — мяккі.

— Гэта я, Віктар...— і ў мяне ў роце зрабілася суха.

— Божа мой, няўжо гэта ты, Віктар? А я глянула на білецік, пазнала твой почырк, але ўсё

не верыла сама сабе... Я ўжо званю другі раз... Ах, божа, няўжо ўсё гэта праўда?.. Ну, гавары, гавары... Я хачу слухаць твой голас, мне яшчэ ўсё не верыцца, што гэта ты.

— Адкуль ты звоніш? — нешта мяне ўсё сушыла ў горле.

— З дому, з нашых Падліпак.

— Кеня, Ксюша, я хачу цябе ўбачыць. Ці можаш ты прыехаць сюды — я назваў гасцініцу.— Бяры таксі... Каб ты ведала, як я цябе шукаў.

— Віцюня, мілы мой!.. Я прыеду... Забягу толькі дадому... Мне тут блізенька... Скажу Лёню, што прыязджала Маша, што ў яе нейкая бяда... Лёня сёння наранкі адкрыў паштовы яшчык, знайшоў твой білецік і ўсё распытваў, што гэта за тэлефон. Ой, што было... Але раскажу потым. Я бягу...— і недзе там, далёка, як сухі гарохавы стручок, луснуў тэлефонны апарат — яна павесіла трубку, і я чуў гэтыя кароткія гудкі — ту-у, ту-у, а ў маіх вушах яшчэ стаяў яе далёкі мяккі голас і перад вачыма была яна ў той белай, што свіцілася ружаватасцю, карункавай блузцы, у якой яна была ў тую астатнюю ноч...

Я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Ціха гарэлі ліхтары, густа, як далёкае мора, гула Масква, ружовымі агнямі свяціліся хвасты машын. Я прыглядаўся ўсё да тых, што, моргаючы адным жоўтым вочкам, заварочвалі пад гасцініцу, спыняючыся каля самага тратуара. Пад зеленаватымі ліхтарамі матавым святлом адліваў асфальт. Прайшло, можа, за гадзіну, а яе ўсё не было. У душу нават закралася падазронасць, што ёй, можа, няма як прыехаць, што нешта там муж... І я нават не падбег да сіняе «Волгі», што спынілася на другі бок вуліцы. Я толькі ўбачыў, што адтуль нехта махае рукою... Я азірнуўся, ці няма каго

ў мяне за спіною, і потым ужо кінуўся туды, не верачы, што гэта яна і не ўгадваючы ў гэтай, здаецца, нізшай, паўнаватай кабеце ў бэжавым паліто, у ружаватай нейкай высакаватай шляпцы Кеню. Машына ціхенька рушыла з месца, і сярод вуліцы засталася яна адна, і я пазнаў яе твар і, падышоўшы зусім блізка, убачыў, што ён нейкі абветраны, у ім не было той даўнейшай маладжавасці. Але ў гэтым твары было мне нешта блізкае і чужое. «Яна пабрыдчэла»,— падумаў я. Толькі вочы асталіся тыя самыя — карычняватыя, вострыя, і быў у яе той самы голас:

— Віктар, дзень добры!

Я абняў яе, чуючы чужы пах духоў, чуючы рукою калючыя струкі яе бобрыкавага паліто, усю нязвыклую ў ёй чужасць... І на мяне найшла нейкая зацятасць, і нейкі холад працяў мяне, і нешта пустое заварушылася ў маёй душы. Я не ведаў, што са мною робіцца, але чуў, што я ніколі з ёй не буду такім, як быў, бо я высніў, выдумаў яе другою...

— Ты змяніўся, Віктар,— яна, мусіць, учула ў мяне гэтае нешта чужое для яе, гэтую маю нечаканую абыякавасць.— А помніш, які ты быў чорны...

— Другі год, як я нідзе не загараў,— сказаў я, адчыняючы цяжкія з абслізганай меднай ручкай дзверы гасцініцы.

Мы селі ў ліфт. Яна, узіраючыся ў люстэрка кабіны, папраўляла каля шапачкі валасы. Я бачыў яе збоку — яе прыпудраную сухаватую шчаку, яе вастраваты нос, шнарок каля кутка губ... Я ўзяў яе за плечы, павярнуў да сябе і пацалаваў у гэтыя спакойныя, трохі падцятыя губы, адчуваючы перад ёю і нейкую вінаватасць, і злосць на сябе — нашто я гэта раблю, нашто перасіль-

ваю сябе... Яна апусціла галаву і ўкусіла край ніжняй губы.

— Ты змяніўся, Віктар... Чаму ты змяніўся? — спытала яна, гледзячы недзе за маё плячо.— А можа, ад таго, што мы былі другія... тады... далёка ад дому...

— Я ж і цяпер не блізка,— пажартаваў я, чуючы брыдкасць за гэты няўдалы і непатрэбны жарт і перасільваючы нешта цяжкае, незразумелае ў сваёй душы.

Грукнуў і перастаў дрыжаць ліфт — спыніўся. Мы выйшлі.

— Як хораша тут у вас,— гаварыла яна, ідучы бурачковым, з зялёнымі паскамі ходнікам.

У нумары яна зняла паліто і асталася ў ружаватым, што адліваў нейкай срэбнай, як халоднай, ніткай, касцюме і яшчэ паменшала; у яе была нейкая кароткая шыя і шыракаватыя плечы, і яна выдавала падобнаю на артыстку Дароніну. І я падумаў, што і з твару яна рыхтык Дароніна. І мне невядома чаму спомнілася нешта даўнейшае, як тады яшчэ, у Ялце, калі яна адзела гумавую шапачку, твар у яе пабрыдчэў і зрабіўся нейкі шыракаваты...

— Пойдзем павячэраем,— сказаў я, каб не маўчаць, нешта рабіць, каб скінуць з сябе ўсё гэта цяжкае і незразумелае сабе самому.

У рэстаране стаяў п'янаваты гоман, і гэтая людская гутарка, і расчырванелыя давольныя твары, і гэты сіні тытунёвы дым, і духата змяшаліся ў маёй галаве ў нешта адно — цяжкае. За суседнім сталом напроці мяне сядзела маладое дзяўчо, і я быў рад, што бачу гэты цвярозы, маладжавы, трохі нейкі бледны твар, і невядома чаму павесялеў.

Падышоў афіцыянт — дробненькі, невысокі

хлопец, з ручніком, перавешаным цераз худую руку.

Я заказаў. І нейкая зацятасць зноў надышла, навалілася на мяне.

— Віктар, чуеш, Лёня знайшоў твой білецік і пытае, што гэта за нумар тэлефона напісаны. А я і не ведаю. А потым узяла гэты білецік, пазнала твой почырк і ледзьве не абамлела. І ён глядзіць на мяне... А потым кажу: «Гэта Маша, Маша з Масквы...»

Яна пачала расказваць пра мужа і смяяцца, і мне зрабілася брыдка і шкада яго. Мне спомнілася жонка, дачка, і я падумаў: нашто я сяджу тут, з ёю, і нашто ўсё гэта?..

Кеня разружавелася, стала вясёлаю, а я не п'янеў, мяне нічога не разбірала, я сядзеў цвярозы і ўсё ўзіраўся на тую дзяўчыну за суседнім сталом з бледным маладжавым тварыкам. Была яна нейкая строгая, цвярозая. Да яе нешта гаварыў хлопец у белым світэры, з доўгімі, аж закручанымі на каўняры, валасамі. Яна маўчала, і я падумаў, што ёй гэтаксама смутна і невясёла тут, як і мне.

Зайграў аркестр — было чуваць звон талерак і грукат барабана. З-за сталоў пачалі ўставаць мужчыны, беручы за голы локаць жанчын.

— Віктар, я хачу танцаваць.

Не ведаю чаму, але я падняўся. Мы выйшлі туды, дзе перад аркестрам збіліся пары. Мне стала горача. Я зусім не трапляў у такт музыцы, ногі мае не слухаліся...

На эстраду выйшла сытая дзябёлая маладзіца — пачуўся глухі, нізкі, але моцны праз мікрафон голас.

— Кеня, выбачай, але я не магу...

Мы вярнуліся і селі за свой столік. Падышоў

афіцыянт, паклаўшы на стол «заказ». Я развітаўся, і мы пайшлі ў нумар.

— Позна, Кеня... Табе пара дадому... А да мяне яшчэ маецца прыйсці таварыш,— змахляваў я.

Яна адвярнулася і заплакала.

Я маўчаў. Тупы боль сціснуў галаву — я не ведаў, што гаварыць, як суцяшаць.

Яна паціху стала апранацца і ўжо спакойна, калі мы выйшлі на вуліцу, калі я падняў руку, каб спынілася таксі, загаварыла:

— А я прыехала на цэлую ноч да цябе... Я ляцела сюды як звар'яцелая. Я забылася пра ўсё... А ты мне напомніў, што ёсць жыццё. Божа, можа, так і трэба...

Я маўчаў, і мяне ела брыдкасць, сорам, крыўда... Я маўчаў. Я не хацеў гаварыць, што я яе не люблю, што я люблю яе выдуманую... Ды нашто было гаварыць — яна ведала і чула душою сама.

Яна стаяла ўся знябожаная, яе сэрца, пэўна, сціскала страшэнная, вялікая мука. Мне было яе шкада. Але чым я мог памагчы...

Я ведаў, што, калі пачну лгаць, будзе горай і для мяне, і для яе.

Падышла машына, свецячы зялёным вочкам і дыхаючы цяплом. Яна сцішана падалася да яе. Мяне нешта гняло. Я забег наперад і, узяўшы абедзвюма рукамі яе за плечы, пацалаваў у мокрыя вочы. Яна стаяла ўгнуўшы галаву, плечы яе то падніmaліся, то апускаліся, дрыжалі. Шафёр адчыніў дзверцы. Зялёнае вочка патухла, і суха затрашчаў лічыльнік. Машына ціха ад'ехала, дзверцы былі яшчэ ўсё незачыненыя... Востра, аж балелі вочы, гарэлі на ёй агні стопсігналаў. Дзверцы глуха ляпнулі, і машына пачала набіраць скорасць.

Нейкі салодкі боль апаліў мне грудзі. Я ўсё

стаяў і глядзеў, як аддаляліся два ружовыя агні стопсігналаў. І мне думалася, каб я не бачыў яе дзесяць, дваццаць год, сэрца маё трапяталася б гэтаксама і гэтаксама я шукаў бы яе, але праз які час я з ёю не стрэўся б, маё сэрца працяў бы боль, я ўсё роўна, гэтаксама разышоўся б з ёю.

— Гэта ўжо заблытаная філасофія,— сказаў нехта з нас.

Петраш схамянуўся, падняў голаў — і твар яго, здаецца, зноў памаладзеў.

— А вы помніце чэхаўскую «Пані з сабачкам»? — ён неяк востра паглядзеў на нас.— Ды што я пытаю, вядома, помніце. Там напісана праўда, дзе Гураў шукае яе, у тэатры. І яна здалася яму тады нікчэмнай з гэтай самай ларнеткай.

А далей Чэхаў выдумаў. Бо і ў Гурава павінна было гэтаксама скончыцца каханне, як у мяне. Выдумаў...

Мы насцярожыліся.

— Бо два жыцці ў чалавека не бывае. А калі чалавек і хавае што, то хавае для некага, каб расказаць пра яго.

— М-да,— уздыхнуў хтосьці.

Мы выйшлі на вуліцу. Прэсная сырасць, як ад рэчкі, дыхнула на нас. Блішчаў мокры асфальт. Недзе з-за хмар азірнулася нізкае сонца, і асфальт зрабіўся чырвоны. Мы звярнулі ў скверык. На жвірыстую сцежку вецер нарваў зялёнага лісця. А калі ападае лісце, заўсёды думаеш, што блізка восень, што мінуў год, што шмат чалавекам перажыта і шмат перадумана.

# Два злоты

У гэтую весну каля нечае хаты, што стаяла пры самай вуліцы, высунуўшыся адным вуглом на тратуар, я ўбачыў бярозавы пень — высокі, роўны з плотам — у чорнай струпаватай кары. Гэтыя струпы здаліся мне падобныя да шышак, што растуць у каня на пярэдніх нагах.

Пень быў свежы і ўвесь абліўся сокам.

Кожны раз, едучы ці варочаючыся з работы, я наравіў стаць, а то і сесці, калі выпадала слабоднае месца, каля акна ў тралейбусе, каб убачыць гэтую нізкую хату з закурэлаю ватаю ў падвойных вокнах, гэты абліты сокам бярозавы пень каля мокрага спаднізу плота. На надворку стаяла лужына, і нехта паклаў ад тратуара да парога на чырвоныя цагліны дзве вузкія дошкі.

Далей за хатаю пачыналася пустое дворышча з старымі, мусіць здзічалымі, яблынямі — іхнія голыя абветраныя лапы блішчалі шараю сухою карою.

Недалёка ад яблынь стаяла помпа: павесіўшы на загнуты кончык трубы вядро, маладзіцы з голымі рукамі, у лёгкіх суконках, у гумовых ботах, што не сыходзіліся на поўных лытках, бралі ваду, азіраючыся на тралейбус.

Канчаўся марац. Каля плота раставаў сцукраваны і чорны, як абсыпаны сажаю, снег.

Вясна была зімная. Нанач браўся мароз: пад крохкім лёдам высыхалі плыткія лужыны; раніцаю дзеці білі нагамі белы сухі лёд, ён трашчаў

і лускаў, як лускае і трашчыць шыба, і аж калола ў сэрца: звон шкла — звон бяды.

Сярод дня пачыналі крычаць разамрэлыя гракі, пацелі сцежкі, гразь на іх рабілася слізкая, і на бярозавым пні раставала і адлушчвалася ледзяная кара, што намярзала за ноч.

І кожны раз, калі я глядзеў на гэты бярозавы пень з абмерзлым сокам, мне ўспаміналася даўнейшая вясна, свая вёска яшчэ перад вайною, як у нас кажуць, за польскім часам, пусты надворак у перапрэлай і счарнелай за зіму траве, пад якою там-сям была знаць дробная, з трыма лісткамі, як раса ў завоіне, зелянюткая дзяцеліна, прысадзісты куст голага бэзу і сцежка з сіваю плесняю, рыхтык на гурочным расоле, што асталася ад снегу — яго сагнала скрозь; сцукравеўшы, ён ляжаў толькі ў старых увернутых картапляных ямах і на тым месцы, дзе ўвосень дзед мой, перабіраючыся на хутар, павыкопваў маладыя яблыні.

Спамінаюцца мне і два бярозавыя пні, аблітыя маладым сокам. Дзедаў пляц адышоў суседзям, і дзед ссек зімою на дровы дзве старыя бярэзіны. Бралася цяпло — сок на пнях ружавеў і броснеў. У засыпаных картапляных ямах раставаў патачаны сонцам, з вострымі сухарыкамі лёду, снег. Гэтыя сухарыкі абвальваліся, і чуваць было, як шахкалі. Снег шыпеў, усё роўна што яго тачылі чэрві. Паказваліся белаватыя, нібы лысыя, камяні, чорнае шкло ад разбітых бутэлек — нехта прыносіў гэтыя асколкі ў фартуху, у прыполе сюды ў ямы, далей ад свае хаты. Потым ужо прабівалася маладая крапіва і дрыжала, як кісель, на пустым ветры, што свішча голаю вясною ў цёмныя вокны і сушыць у кутку каля шкла зялёную плесню.

На дзедавым пляцы збіраліся ставіць новую хату — на друках ляжала абагнанае ў тартаку

дзерава і на чатырох камянях быў зачаты першы вянок; сохлі і скручваліся ў трубкі дробныя трэскі — большыя гаспадыня збірала ў прыпол, каб падкладваць пад трыножкі, калі трэба было частаваць цесляў.

Пляц быў абга́роджаны калючым дротам у адну столку, але новы гаспадар яшчэ не звыкся, што́ тут яго, і людзі, нагінаючы і пераступаючы дрот, хадзілі цераз гэты пляц. А мой дзед жыў на хутары, перавёзшы і перасыпаўшы старую хату, жыў у Азярышчы — так называлася балота, што было за грудом за вярсту ад нашае вёскі. На сярэдзіне яго, за грэбляю, як казалі — на лавах, цвіла слепата, і балота было жоўтае; бліжай сюды, да поля, дзе стаяла дзедава хата, дзе рос ялавец, яно было белаватае, як выпаласканае дажджамі, іржышча, ад сухога леташняга сушніку. Сушнік дзеці выпальвалі, і сярод ялаўцу аставаліся чорныя лапікі — дождж змываў попел, і лапікі рабіліся чорна-жаўтаватыя, як абскрэбеная спіна на асмаленым япруку.

Дзедава хата стаяла на сухім грудку, пры дарозе, што ішла між полем і балотам і называлася граніцаю. Далей, за балотам, пачыналася ратамская зямля. Самое Ратамшчыны не было відаць, яна схавалася за грудамі, на якіх сядзеў жаўтлявы, выцвілы за зіму хвойнік; сярод яго стракацелі выспы белаватага пяску. Я ведаў, што на гэтым мяккім, як вальцаваным, пяску валяюцца вялікія, ад конскіх ног, косці, шэрыя зверху і нейкія зеленаватыя, цёмныя спаднізу, доўгія пашчэнкі з двума пярэднімі зубамі. Там былі конскія могілкі, там можна было надысці на воўчы след велічынёю з добры мужчынскі кулак. Рабілася сцішна, браў страх, выдавала, што недзе ззаду крадзецца воўк, паўзе, як да авечкі. Яны і прыходзілі ад-

туль, з Пяскоў, ужо ўвосень, як выганялі на ўмерзлую рунь авечкі, красці маладых ягнят, што, збіўшыся ў гурт, скакалі каля каменя. Там, у хвойніку, на жоўтых пясках круціў віхор, заўсёды на адным месцы, паднімаючы слупом пыл. Там было нейкае нехрышчонае месца, вялася нячыстая сіла. Адтуль, з-за ратамскага лесу, з Пяскоў, як называлі яго, заўсёды ішла бура, уставала цёмная хмара, вецер дзёр і гнаў, паднімаючы да неба, пясок. Свет рабіўся жоўты. Перакочваліся сівыя нізкія хмары, яны ішлі проці ветру. Раптам сярод дня пачынала цямнець, рабілася страшна...

Я заўсёды баяўся цёмных хмар, што сунуліся адтуль, з Ратамшчыны: яны засланялі сонца, а калі яго няма — чалавек заўсёды чуе адзіноту, яму ўсё нечага недалягае.

Сонца хадзіла з другога боку грудоў, за Азярышчам, дзе была відаць хата з атынкованым белым шчытом і дзве высокія тычкі: там, у хаце, было радыё са слухаўкамі, пэўна, гэтакае самае, як у майго дзядзькі, і калі я, бывала, у нядзелю прыходзіў да яго, дзядзіна надзявала мне на галаў і вушы блішчастую дужку з чорнымі круглымі баначкамі: у слухаўках нешта трашчала, шкраблося, як хрушч у пустой каробцы ад запалак, а потым чуваць было — спявалі; цётка казала, што гэта перадаюць «імшу з Кракова».

Хата з белым атынкаваным шчытом, у якім блішчала, нібы зашклёнае слюдою, акенца, была асаднікава: туды цераз Азярышча каля гразкіх лаваў, дзе некалі, казалі, тапіліся каровы, ішла грэбля, па ёй на шасцерыку ездзіў пан — там быў калісьці фальварак з броварам, з сажалкамі, з паперняю недзе каля рэчачкі. Цяпер грэблю размыла, фальварак перайшоў да асаднікаў: за хатаю з

белым шчытом былі відаць яшчэ будынкі, расло высокае разложыстае дрэва.

На гэты бок Азярышча стаяла толькі адна дзедава хата.

Перабіраючыся на хутар, дзед яе перасыпаў: паклаў новыя падваліны і ўставіў па мацнейшай дзеравіне пад вокны, астатняе дзерава было старое, сточанае шашалем, у чорных глыбокіх, здавалася — аж навылёт, дзірачках з жоўтаю парахнёю. Яна сыпалася з гэтых дзірачак, чапляючыся за павучыну. Адтуль вылазілі дробныя жоўценькія і перашчыкнутыя ў поясе восы.

Перад вялікаднем дзед бяліў хату: у старым дзіравым, заточаным лапікам, вядры разводзіў мел, рабіў з саломы пэндзаль і дзеля блізіру пэцкаў знадворку сцены. Быў такі загад з гміны: бяліць платы, хаты і каміны.

Плота, балазе, у дзеда не было — ад дарогі, дзе сядзелі, выпусціўшы дробнае лісце, і ніяк не маглі акрыяць перакопаныя з вёскі яблыні, дзед нацягнуў між калкоў у дзве столкі калючы дрот. За яго, ідучы блізенька і махаючы хвастом, чаплялася карова і вырывала з хваста пучок доўгае валасні.

З плотам у дзеда клопату не было. Але каб «паляк» не аштрафаваў, дзед мусіў бяліць комін. Паставіўшы на падворку вядро, мачаў у разведзены мел анучу і, прыжмурыўшы адно вока, цаляў ёю ў комін. Ануча ляцела на той бок хаты.

— Ух, паляк, каб табе вочы засляпіла! — пляваў дзед і выпраўляў мяне шукаць анучу.

«Паляка» дзед не любіў. Прайшла камасацыя: скасаваўшы шнуры, каморнік падзяліў поле на дзялкі. Людзі з вёскі перабіраліся на хутары. Грошай дзед не меў, каб прыплаціць за лепшы надзел, і яму прыйшлося тры гектары нішчымнага

пяску: зямля на гэты бок Азярышча ялавела і не ўраблялася гадамі, на ёй нават не хацеў расці ялавец — у канцы дзедавага поля сядзела тры прысадзістыя кусты. У маладое лета на жаўтлявых, загнутых, што ягнячы хвосцік, вяршках гайдалася і ціўкала шэрая пташка — янчык: у густым кусце было звітае з пырніку і выкладзенае конскаю валаснёю яе гняздо, у ім ляжала сем нябеснага колеру яечак.

Каля ялаўцовых кустоў рос шэра-зеленаваты мох — сухі і калючы, як жарства, у гарачыню, сыры і мяккі, хоць да раны прыкладай, у дажджлівы дзень.

Увесну на ялавіне купінкамі зелянеў малады сушнік — шорсткі і пруткі, як пэндзаль. Карова, чмыхаючы ноздрамі, зжынала яго зеленаватым ад травы языком, як сярпом. Тут, на дзедавай ялавіне, я пасвіў сваю Чарнавуху; вушы ў яе папраўдзе былі чорныя, і дзве чорныя плямы, велічынёю з авечыя аўчыны, былі на скабах. Пастухі казалі на яе — бык: Чарнавуха, калі я гнаў яе на пашу ў Азярышча, пускаючы сліну, ляцела за чужымі каровамі і чаплялася на каторую — яна бегалася за весну ўжо трэці раз.

У дзеда каровы не было, толькі руды і сыты, аж паліскалася на ім поўсць, кот Мар'ян. Ён хадзіў па полі, палюючы на мышэй, і падкрадваўся да пташак — поўз разораю, выгнуўшы спіну і варушачы хвастом. Перад ім, наставіўшы чубок і цвіркаючы, бег, адводзіў ад свайго гнязда, жаваранак. Мар'ян, выцягнуўшы ўперад дзве лапы, скакаў на яго — жаваранак, жаласна цвіркнуўшы, пырхаў убок і нізка і далёка ляцеў над полем, падаючы ў маладое, што не выпусціла яшчэ коласа, жыта. Кот, аблізваючыся і атрасаючы лапы, нібы ступаў у ваду, ішоў роснаю разораю далей:

жывот у яго быў мокры, поўсць зліплася, нібы аблезла.

Аднаго разу ён валок зайца, трымаючы яго зубамі за голаў. Я прыпусціўся за Мар'янам, але ён не ўцякаў — кінуўшы зайца, сеў і замяўкаў. Заяц быў яшчэ цёплы, пад адкрытымі, але нежывымі вачыма з дзвюх дзірачак, што кот працяў зубамі, сачылася кроў.

Я паклікаў ката, але ён не ішоў — яму, мусіць, абрыдла цягаць гэтага зайца, што ён задушыў недзе каля мяжы, калі той спаў, усё гэтак пазіраючы сваімі невідушчымі вачыма.

Каля гэтых ялаўцовых кустоў, дзе на нішчымным сушніку я пасвіў карову, ішла і дзялілася, як ніткі ў нічальніцах, мінаючы лысы, гладкі камень, што сядзеў напалавіну ў зямлі, цвёрдая, выплесканая босымі нагамі сцежка: ратамцы, каб не рабіць круг дарогаю, хадзілі наўскасяк цераз дзедава поле.

Я любіў гэты грудок: з яго былі відаць далёкі лес, сіні, як у дыме ад тытуню, Папушчына, куды з нашае вёскі ездзілі па белы мох, калі трэба было мшыць хаты, было відаць мястэчка — чырвоны касцёл з дзвюма вежамі.

Мяне як магнэзам цягнула глядзець туды, дзе было мястэчка,— там быў кірмаш, адтуль дзед прыносіў мне маскаля — салодкі падмалёваны пернік; туды, у мястэчка, нарваўшы кошык салаты і нашчыпаўшы маладога пер'я цыбулі, хадзіла мая маці; туды ішлі і ратамскія бабы — гаварылі на ўсё поле. Яшчэ іх не відаць за жытам, а я ўжо чую іхні гоман, маладжавы смех, а потым ужо бачу іхнія хусткі, што пакажуцца над сівавата-зялёным жытам. Бабы ідуць, прыбраўшыся ў чорныя даўгаватыя і вузкія ў таліі сачыкі, у доўгія гранатовыя, зялёныя, бурачковыя суконныя спадніцы

з чорнымі шлякамі, у белыя фартухі з карункамі; ідуць босыя, несучы ў руках туфлі, чаравікі з доўгімі халяўкамі, каб перад самым мястэчкам, сеўшы дзе-небудзь у цяньку, пераабуцца. Нясуць зеленаватыя, з сырое лазы, кошыкі, карзіны, плеценыя з шырокіх лучын з ружовым паскам, завязаныя старымі вылінялымі хусткамі,— нясуць, мусіць, у тых кошыках курэй, яйкі ў мякіне, кружок масла, укручаны ў карабаты ліст ад хрэну. І, мусіць, як мая маці, варочаюцца дадому ўжо з торбачкаю солі, з запалкамі, з кавалкамі корту ці паркалю. Кошыкі і карзіны сталі ўжо лягчэйшыя, і яны нясуць іх на сагнутай у локці руцэ. Ідуць па адной, па дзве і ціхія — не кожнай, пэўна, удаўся торг.

Іншы раз сюды, на грудок, да мяне прыходзіў дзед, каб пераняць і вярнуць са сцежкі на дарогу ратамскіх баб. Вялікі, гарбаты ў плячах, ён, заступіўшы ім дарогу і не паднімаючы галавы, пытаўся:

— І кудэю ж вы йдзяце? Ці вам дарогі німашука? — голас у дзеда быў глухаваты і тоўсты.

— Няўжо ж, дзядзька, і біціся будзяце? — гаварыла каторая з іх, старэйшая, і абыходзіла дзеда.— Вот, бачымо, сцежка — і йдзямо. Ці ж мы нарочно?

Ратамцы гаварылі на «о»: мамо, тато, і імёны ў іх былі на «о» — Ганно, Міхалко. Мне было смешна, што яны гэтак гавораць, нібы не ўмеюць добра гаварыць. І мянушка на іх была смешная — махоркі. І людзі там меншыя, як у нас. Я ўспамінаю тое, што казала маці: «Якія там мужчыны, пад гаршком малацілі б»,— і гляджу на ратамскіх баб і дзіву даюся, што яны гэтакія самыя, як і ў нашай вёсцы, а адна з іх, дзяўчо, з карычняватай бародавачкай на верхняй губе — харошая, бяля-

вая з твару і з роўненькім носам — у паркалёвай сукенцы з кароценькімі рукавамі, у запыленых туфлях, трымае на голай руцэ сачык шэраю блішчастаю падкладкаю ўверх.

— Так пусцеце, дзядзько, дальбуг, боляй не пойдзям сюдэю. Ці ж ужо варочацца блізкі свет? — азіраецца тая самая, старэйшая: колькі ж трэба ісці, каб мінуць дзедаву дзялку.

— Каб першы і астатні раз,— кажа дзед і ўжо бубніць сам сабе, але ўсё роўна, каб чулі ратамскія бабы: — Нарабілі тут дарог — не ўгарэш.

Але тыя ці чуюць? Адышоўшыся, зноў моцна гавораць і молада смяюцца.

А тым часам за жытам ляскаюць, недзе трапіўшы на камень, калёсы; відаць спярша чырвоную дугу, потым чорную канёву галаву з доўгаю, нястрыжанаю, як у жарабца, грываю, што сыплецца каню на вочы, хамут з чорным скураным кутасікам, а потым ужо гладкую канёву спіну з кульбачкаю, з набэдрыкамі — едзе фурманка. Стаўшы каленкамі на мяшок, на возе сядзіць мужчына з чорнаю, даўно не голенаю барадою, у кепцы з пераломаным і скрыўленым брылём.

Фурманка кіруе сюды, на сцежку, на дзедава поле.

Дзед бярэ ў мяне з рук пугу, пераварочвае таўсцейшым канцом пужальна і ідзе настрэчу фурманцы.

— Кудэю ж цябе ліха гоніць? Ці дарогі не бачыш? — крычыць дзед, трасучы пужальнам.— Заварочвай назад!

Але фурман, падняўшы недзе з воза, з-пад сваіх ног, доўгую стусіну з чырвоным кутасом, шлёгкае каню па гладкім крыжы, цмокае языком і, ухапіўшыся адною рукою за драбінкі, другою тузае лейцы.

Конь, фыркнуўшы, задзірае галаву, стрыжэ вушамі і, абарочваючы назад галаву, каб вачэй не засланяла грыва, ляціць з усіх чатырох ног — ляскацяць, трасуцца калёсы.

Дзед адступаецца з дарогі і круціцца, азіраючыся кругом сябе, каб знайсці які камень, але не знаходзіць і, хапіўшы жменю пяску, сыпле на фурманку, як сыплюць пясок, каб асадзіць пчаліны рой.

Мужчына з пераломаным брылём азіраецца і выскаляе чорныя дуплявыя зубы.

Спалохаўшыся гэтага ляскату, гухкае і адскокваецца ўбок карова і, не паднімаючы галавы, касавурыцца на фурманку адным вокам — з краю яго відаць бялок.

— Ну, махорка! — дзед трасе кулаком.— Ты ў мяне папомніш!

Потым абарочваецца і глядзіць зверху на мяне:

— Схадзі, Чэзік, прынясі лапату. Трэба перакапаць дарогу. Лапата недзе ў сенях, адчыніш дзверы і ўбачыш з прыходу ў кутку. Скокні, карову я папільную.

— Сёння ж нядзеля, ці можна капаць? — кажу я, рады, што падлавіў дзеда.

— Ніц! Бог жа бачыць, што яны маю зямню топчуць. Чаго ж я так сабе капоў бы...

Я прыношу лапату. Дзед адводзіць ёю ўпоперак дарогі шнурок, потым другі, рысуе спярша даўгаватую з чатырма куткамі яму, ставіць лапату, націскае босаю нагою на загнутае крыло, каб глыбей увайшла лапата, і пачынае капаць. Потым ужо, выкапаўшы упоперак сцежкі неглыбокі, усяго па калена, равок, убівае ў зямлю лапату і, не выходзячы з яго, садзіцца на бераг, засыпаны вільготным жоўтым пяском, з якога добра лепяц-

ца галкі, і дастае свой капшук, крэсіва — кавалак ужо збітага аб крэмень бліпічастага з аднаго боку напільніка і баначку ад ваксы, дзе ён хавае трут — падпалены на лаве і прытушаны халодным жалязкам, каб не сатлеў саўсім, паркалёвы лапік.

Дзед выбірае з капшука ў тоненькую паперку, на якой добра грацъ на расчосцы, большыя калівы тытуню, круціць жоўтымі ад курыва пальцамі папяросу, а пацяруху і пыл выварочвае з капшука сабе на далонь.

— Ну, а цяпер чхнём, каб здаровыя былі,— кажа ён і падносіць гэты тытунёвы пыл да носа. Доўга нюхае, задраўшы галаў і заплюшчыўшы вочы. Адкапыльвае чырвоную ніжнюю губу, моршчыць нос, чакае, покуль, мусіць, там добра не засвярбіць. А потым чхае, махнуўшы галавою,— моцна, аж з нейкім крыкам:

— Ап-ч-ху-у-у!

На вочы яму набягаюць слёзы, а твар робіцца чырвоны ад натугі. Ён выцірае цэлаю жменяю рот, потым трэ кулаком мокрыя вочы і пачынае закурваць: бярэ [redacted] баначкі шчопці труту, кладзе на крэмень і б'е крэсівам — скачуць пякучыя і вострыя, як дзюбок у іголкі, іскры, чорны трут пачынае гарэць — на чорным лапічку большае, шырэе белая плямка. Дзед тыцкае туды папяросу і пачынае яе смактаць — на абедзвюх шчоках у яго ўпадаюць ямы.

Прыкурыўшы, ён кладзе ў кішэнь баначку з трутам, крэсіва, крэмень і зморшчаны мяккі скураны капшучок, які ён вырабіў сам, калі рэзаў у некага барана.

Пакладаць бараноў, каб не збегаліся за авечкамі і былі сытыя на зарэз увосень, дзеда клічуць усе ў вёсцы. Іншы раз ён нясе ўсё гэта дадому і,

убачыўшы дзяцей, пастрашыць — падніме руку і патрасе ўгары:

— Дзе ж гэта мая расчоска? Можа і вам каму выразаць?

Дзеці спярша ціхенька адступаліся, а потым што было моцы ляцелі хто куды, толькі шасталі доўгія порткі і мільгалі жаўтаватыя ад травы босыя ногі.

— Не бойцеся, ён смяецца! — крычаў я, але гэты крык ужо не памагаў...

— Ну, табе, мусіць, дадому пара гнаць. Глянь, які ўжо кароткі цень,— кажа дзед, устаючы і выходзячы з ямкі.

Я кладу шапку на гладкай выбітай сцежцы, адыходжуся, каб макаўка галавы якраз даставала да шапкі, і роўненька, як па вузкай кладцы, ступаю, ставячы другую нагу перад вялікім пальцам,— мераю, колькі ступаў будзе цень.

— Уга,— кажа дзед, калі я наступаю на сваю шапку.— Чатэры з палавінаю. Бо я гляджу, што мы з табою забавіліся... А мне і на вакзал пара.

Вакзалам дзед называе чыгуначную станцыю, усё мястэчка. Там у яго, як ён казаў, ёсцека кабета. «Вазьму сабе на хутар кабету, і будзе ў цябе, Чэзік, баба».

Пра гэтую кабету ведаюць усе пастухі, а большыя, што закурваюць и капшука, паддобрыўшыся, пачынаюць распытваць у дзеда:

— А калі ж, дзядзька Іван, жаніцца будзяце?

Хітрэйшы за ўсіх, жулікаваты, зацягваючыся папяросай і плюшчачы вока, нібы ад дыму, хітра падхвальвае тую кабету.

— Ладная баба, ніц сабе... Я ж бачыў, як быў у мястэчку. Маладая яшчэ.

Астатнія аж кусаюць губу, каб не засмяяцца.

Я ведаю, што ніхто з іх не бачыў тае кабеты,

што недзе ў мястэчку ў свінабоя за служанку. Але дзед рады пагаварыць пра яе, і ён гаворыць з пастухамі, як са сталымі:

— Кажаш, маладая?.. А нашто ж мне стоптаны лапаць... Зубы гострыя, як у зайца. Дужая яшчэ кабета.

— Зубы то ёсць,— ужо не ўтрываўшы, хітра ўсміхаецца той самы жулікаваты пастух.— Толькі яна можа на ваш хутар ды на грошы гоніцца?

— І грошай у мяне досіць для абоіх,— кажа дзед, і я дзіўлюся, што ў яго нешта яшчэ ёсць звыш тых двух жалезных злотых, якія ён носіць, завязаўшы ў хустачку.

— А хіба ж я дурны, каб не распазнаць. Некалі, брат, купляючы карову, за цыцку не чапоў — і так бачыў, колькі малака дае. А каб ужо бабы не распазноў.

Сватаецца дзед да свінабоевай служанкі даўно: кожнае нядзелі, узяўшы пад паху чорны парасон з жоўтаю, загнутаю на канцы ў баранак ручкаю і блішчастым ланцужком, ён ідзе на «вакзал» — у мястэчка, ідзе прыбраны ў чорны, ужо добра падношаны, з дзвюма латкамі на портках ззаду, з закручанымі кляпамі гарнітур, у белую з жаўтаватымі палоскамі рубашку, з касцяным прыстаўным каўнерыкам, які пад худым і нявыбрытым кадыком сцягвае блішчасты ланцужок з перламутравымі гузічкамі, што адліваюць сінім, як ракавіна, калі яе дастанеш з вады. Толькі кепка ў дзеда не па фасону — суконная, зліняшая, выцертая да рубцоў, ды яшчэ кругом ззаду з акладкай — зімовая; у мароз гэтую акладку можна адвярнуць, каб было цяплей у карак і вушы.

Адтуль, з «вакзала», дзед варочаецца пасля полудня. Гаворыць сам з сабою і махае рукой.

А часам, бывае, я чую яшчэ здалёк, як ён спявае, вядзе, як бабы на хрэсьбінах, адну і тую ж песню:

Капоў, капоў крынічаньку —
Вады не дастоў.
Любіў, любіў харошую,
Ды благую ўзёў.

Суконную кепку і пінжак дзед трымае ў руцэ. Ён ідзе, астаўшыся ў камізэльцы. Чаравікі і калошы порткаў аж да калень у яго сівыя ад пылу.

Дзед падыходзіць бліжай і кліча мяне рукою:

— Ідзі сюды, Чэзік, ідзі.

А потым бярэ за каўнер свой пінжак, паднімае вышай, круціць, шукаючы кішэнь, і вымае ружовага «чалавечка».

— Бяры, не саромейся!

Я бяру гэты падфарбаваны пернік.

— Во, брат, прывяду я сабе кабету, будзе табе баба. Як ты, брат?..

За кожным словам дзед гаворыць «брат» і заплюшчвае вочы — гэтак заўсёды, калі вып'е.

Я маўчу, успомніўшы, што дома бацька смяецца з мацеры, што дзед нешта дурное ўдурбаў сабе ў галаву, што адною нагою стаіць над ямаю, а яшчэ жаніцца збіраецца, што цалюткай радні брыдка перад чужымі людзьмі. Маці злуе тады на бацьку і крычыць, што і сам ён не лепшы за дзеда: «Ён хоць стары, але ўмее і хату зрабіць, і печ складзе, а ты ні да чога не здатны.— Маці пачынае крывіцца, шморгае носам і выціраецца хвартухом.— Во дзерава гніе, каб узяў ды рабіў хату. Няўжо і звекаваць думаеш у гэтай падпаветцы?» — і ў мацеры па сухой шчацэ коціца сляза, пакідаючы мокры шнар.

Мы жывём у падпаветцы, у якой бацька вывразаў невялікае, на чатыры балонкі, акенца, паклаў

столь, зрабіў печ, выбіў гліняны ток,— але якая гэта хата, і мы хочам зрабіць, як маці кажа, людскую. У гародчыку ўжо ляжыць, складзена на тоўстыя друкі, каб не гніло ад зямлі, дзерава, пад якое лазяць нясціся нашыя куры. Маці, знайшоўшы дзе які кій, выпорвае, ганяе іх адтуль і, спомніўшы зноў, што не будуецца хата, кляне бацьку.

— А во, глядзі, брат, што кабета дала,— дзед дастае з кішэні скручаны пасак паперы з выразанымі зубкамі і намалёванымі кветкамі.— Бардзюр,— кажа дзед і раскручвае трохі гэты скрутак, што падобны да шляка з карункамі, які прышываюць кабеты сабе да фартухоў і споднiх спадніц.— На бяры,— дзед зноў скручвае гэта бардзюр.— Мне нашто? Вам у новую хату... Купіце шпалераў і кругом сцяны пад столлю гэты шляк прыбіце.

Я, здаецца, бачыў у некага такі шляк, толькі ён быў прыбіты не да сцяны, а да бэлек. Гэта ў тых хатах, у каго ёсць дзяўчаты, там яшчэ і над вокнамі вешаюць чырвоную ці зялёную паперу з выразанымі зубкамі і кветачкамі. А мы толькі на свята падтыкаем пад бэлькі сырыя яловыя лапкі ды сыплем каля парога пасечаны аер.

І я ўжо бачу новую хату з падлогаю, па якой, мусіць, добра хадзіць босым, не то што па нашым току: з яго за ногі бярэцца пясок, а там, дзе стаяць чыгуны, цэбры, дзе разліваецца вада, яшчэ і гразь, слізкая, чорная — уступіш у яе, і гадка.

У хаце з падлогай хораша, ды калі яшчэ паставіць вазонаў, павесіць на вокны чырвоную паперу, павыразаўшы ў ёй ножніцамі кветачкі і зубкі, ды кругом сцяны пад столлю наклеіць гэты бардзюр...

— Нясі, нясі дадому, брат,— дзед кладзе на галаву сваю суконную кепку з акладкаю і ідзе

дадому, няцвёрда ступаючы трохі падагнутымі ў каленях нагамі. Адышоўшыся, пачынае спяваць:

Капоў, капоў крынічаньку —
Вады не дастоў.

Ён смешны ў гэтай суконнай кепцы з аркладкаю, у камізэльцы — чорнай спераду і шэрай, як залатанай вялікім лапікам, на спіне. Ззаду камізэльку сцягвае за два чорныя хвосцікі ржавая, з аблупленаю фарбаю бляшка. Камізэлька сабралася ў фалды, і шырокія ў паясніцы порткі, якія дзед туга падперазаў вузкаю, дзе паабразанаю брытвай, папругай, таксама сабраліся ў фалды.

Бабы, што варочаюцца з кірмашу, убачыўшы, як дзед пачынае тупаць нагамі, паднімаючы на дарозе пухкі горкі пыл, і трасці белымі локцямі, рагочуць і паказваюць адна адной:

— Глядзі, глядзі!.. А кажуць, што не да танцу абадранцу.

Цяпер ратамцы ўжо не ходзяць цераз дзедава поле, ідуць дарогаю: выкапаная ўпоперак сцежкі яма ды яшчэ тычкі з пучкамі саломы, панавязванай на іх, што дзед паставіў у канцы поля, усё ж памаглі.

Ратамцам цяпер бяда: за дзедаваю хатаю, дзе дарога перасякае клін балотца, заўсёды пасля дажджу стаіць глыбокая, аж па самыя восі лужына. На ёй, як на завоінцы, плаваюць чорненькія казюркі. А калі лужыну разаб'юць калясьмі, перамяшаюць торф з вадою, яна робіцца густая, як жытняя зацірка. У суш гэтая чорная зацірка яшчэ больш гусне і зацягваецца плеўкаю. Плеўка падсыхае, скручваецца, што тонкае сала на гарачай патэльні, і пераціраецца ў прах. У лагчынцы астаецца пухкі, як вальцованая мука, пыл. Покуль зноў не пойдзе дождж і пыл не перамяшаец-

ца ў рэдкую чорную зацірку, яна ліпне да колаў і абвальваецца чорнымі камякамі далёка на дарозе.

Каб абысці гэтую гразь, ратамскія бабы лезуць пад дрот, якім дзед абгарадзіў свой гарод, і ідуць разораю між высокіх град, дзе ў выціснутых кулаком ямках сядзіць капусная расада, трымаючы на сівавата-зялёных, нібы тлустых, лістах скалкі вады.

Між трох столак дроту дзед насаджвае лазовых дубцоў — густа, нібы выплятае пляцень. Гэтая лаза нават пачынае прымацца — пускае зялёныя пасынкі.

Тады ратамскія бабы ходзяць на другі бок лужыны, па дзедавай сенажаці. Хоць якая там у дзеда сенажаць — адно куп'ё, ці, як ён кажа, купешкі. Меншыя купешкі дзед таўчэ, убівае ў грунт трамбоўкаю — таўставатым паленам з драўлянаю ручкаю на канцы. Большыя зразае лапатаю і носіць да лужыны, выкладае тут мяжу — вузкую грэблю, каб было як прайсці ратамскім бабам.

На сенажаць з кароваю мяне дзед не пускае, і я пасу сваю Чарнавуху, прывязаўшы ёй за рогі вяроўку, на дарозе, усыпанай белымі галоўкамі дзяцеліны. Нізка над дарогаю снуе ластаўка, а потым, затрапятаўшыся над лужынаю, садзіцца каля вады, бярэ ў дзюбу гразі і ляціць на дзедаў хутар — там у гумне, высока пад самаю кладкаю, дзе кроква сыходзіцца з латаю, яна лепіць сваё гняздо. Можна нават пазнаць, колькі яна зрабіла за дзень, бо край гнязда чорны — яшчэ не паспела высахнуць гразь.

Тут пры дарозе, каля нізкага ялаўцовага куста, дзе расце зялёны мох з малюсенькімі каўпачкамі на карычняватых тычачках, грэюцца яшчарыцы. Яны шыюцца ў куст, недзе ў нору, шапочучы сухою травою, калі падыдзеш блізка.

Аднаго разу, забыўшыся, што тым, чым біў яшчарыцу, нельга біць карову, бо не будзе даваць малака, я парнуў пужальнам у сухую траву, куды мільгануў шары хвост. Яшчарыца выскачыла на другі бок ялаўцовага куста і вёртка пабегла па сухім сушніку. Дагнаўшы, я зноў тыцнуў у яе пужальнам. Хвост у яшчарыцы адваліўся, варушачыся і выкручваючыся, як жывы, а яна, кароткая, таўставатая, пашылася між купак сушніку аж на дарогу і шмыганула ў аброслую травою каляіну. Я нагнуўся шукаць яшчарыцу і ўбачыў хустачку: у яе было завязана нешта круглае, як жалезныя грошы.

Падняўшы хустачку, я ўчуў, што ў руцэ нешта важыць, і ўжо з нейкай радасцю, што працінала ўсяго мяне, развязаў яе — у хустачцы ляжалі два жалезныя злоты. На рэшцы стаяла лічба адзін, з другога боку быў арол з каронай на галаве і разяўленай дзюбай, падобны да пеўня, што ўзляцеў на жэрдку і растапырыў крылле, каб заспяваць.

Я закруціў карове на рогі вяроўку і пабег да дзеда. Ён сядзеў на трамбоўцы, выцягнуўшы адну нагу,— даставаў з кішэні свой капшук.

— Нашто кінуў карову, вунь зараз у капусту ўваб'ецца,— дзед развязаў капшук і двума большымі пальцамі выцягнуў адтуль паперу.

— Во, паглядзі, дзед,— я расшчапіў руку, паказваючы на далоні тыя два злоты.

Дзед выцягнуў шыю, аж схаваўся ў яго зарослы сівою шчацінай кадык.

— Грошы,— сказаў я, не паверыўшы, што дзед бачыць сам.

— Го, і проўда ж,— ён узяў адзін злоты з мае далоні.— А дзе ж ты ўзёў?

— Знайшоў вунь на дарозе... У хустачку ўкручаныя былі...— і мне тут раптоўна ўспомнілася,

што ў дзеда гэтаксама былі завязаныя ў хустачку грошы.

Дзед насупіўся і пачаў абмацваць свае кішэні.

— Дзед, а гэта не твае? — спытаў я, чуючы, што брыдка, калі не спытаю, і баючыся, што дзед папраўдзе скажа, што гэта яго грошы.

— Не... Нашто ж мне... Вам будавацца трэба,— дзед выняў з кішэні баначку ад ваксы, у якой быў трут.— Нясі дадому, глядзі толькі не згубі.

Я, падскокваючы, пабег заварочваць ад капусты карову: яна, усунуўшы між дроту галаву, там, дзе раз'ехаліся лазовыя дубцы, скубла, дастаючы з гарода, траву. Убачыўшы мяне, тыцнулася назад, зачапілася рогам за дрот і закруціла галавою.

Я падняў драціну, карова задам адышлася ад гарода і, махаючы назад галавою, каб сагнаць са спіны чырвоных ад крыві мух і сівых, з бліскучымі зеленаватымі вачыма слепакоў, завярнула на скрыжаванне. Потым падняла галаву і, трасучы вушамі, прыпусцілася бягом, нібыта дома ў яе асталося цяля. Я не пераймаў — ведаў, што яна бяжыць да радзюжкі з зеллем.

Вяроўка раскруцілася ў яе на рагах і цягнулася па зямлі, карова наступала на яе і, згінаючы галаву, спатыкалася.

— Чаго ж так рана? — спытала маці, стоячы каля гумна і трымаючы пад фартухом рукі: яна, мусіць, здалёку яшчэ на дарозе ўбачыла карову і выйшла страчаць мяне.— Ды каб хоць вяроўку закруціў.

Вяроўка ўлезла карове ў капыт, і яна ішла як стрыножаная.

— Можа ізноў Лявося паздзекавалася? — спытала, смеючыся, маці.

Лявося — гэта была перастарэлая дзеўка з

нашае вёскі. Яна жыла з хвораю на сухоты сястрою і ўсю мужчынскую работу дома рабіла сама: сама касіла, арала, і гэтак, як мужчына, стоячы на возе і круцячы над галавою лейцамі, падганяла каня, калі ехала на поле, і гэтак хадзіла, як мужчыны, шырока расстаўляючы ногі і размахваючы рукамі.

Лявосіна поле было тут, у Азярышчы, за дзедавым хутарам.

Аднаго разу яна, варочаючыся з ворыва, ішла астаўшыся трохі ззаду каня; ён, мусіць, ведаў дарогу ў вёску сам, цягнуў павалены плуг, што пакідаў шырокі след ад сашніка і ручкі.

— Госці да вас прыехалі,— сказала Лявося, калі я параўняўся з ёю.— Маці наказала, каб і ты дадому гнаў.

— Якія госці?

— Вунь з Навасёлак.

Праўда, да нас з Навасёлак прыходзіла цётка Ядвіся, стрыечная мацерына сястра, прыносячы іншы раз на лякарства бутэльку мёду. Бутэлька потым стаяла ў шкапчыку ў сенях, у ёй сядзеў шыпулёк, яго можна было выцягнуць і аблізаць.

Я любіў цётку Ядвісю — яна брала мяне на калені, гладзіла па галаве і ўсё гаварыла да мацеры: «О, каб мне бог даў такога хлопчыка». Цётка Ядвіся была замужам за ўдаўцом, яна гадавала чужых дзяцей, сваіх у яе не было.

— Хто ж там у вас у Навасёлках ёсцяка? — спытала Лявося.

— Цётка Ядвіся.

— Во, яна, мусіць, і прыехала,— Лявося шлёгнула пугай па калматым спарышніку, што заглушыў дарогу, і пайшла даганяць каня — ён пераходзіў ужо шашу.

Я, рады, што не трэба будзе пасвіць карову,

пераняў яе і патурыў дадому, неяк і забыўшыся пра тое, што Лявося едзе з ворыва і што яна не бачыла ні мае маці, ні цёткі Ядвісі, што з дому ж іду я.

Маці спярша сварылася, а потым, заплакаўшы, пайшла да Лявосі ў хату, заплакаў і я, жанучы назад у Азярышча карову. Плакаў ад жалю, што не прыйшла цётка Ядвіся, і ад брыдкасці і крыўды, што з мяне пасмяяліся.

— Дык чаго ж маўчыш? Можа ізноў паслухаў крывой Лявосі? — пытаецца маці і, падышоўшы да каровы, чухае ёй паміж рог, каб не ўцякала, каб было як дастаць вяроўку, што ўелася ў капыт і не дае ступіць.

— Во, грошы знайшоў,— расшчэмліваючы кулак, кажу я.

Маці закручвае вяроўку карове за рогі, лёгка б'е яе па шыі, заварочваючы на падворак, каб пахадзіла каля плота, і, прыжмурыўшы адно вока, глядзіць на мяне:

— Якія грошы?

— Жалезныя... Во, два злоты.

— Ах, ліха, і праўда ж,— твар у маці мяняецца, яснее. Яна бярэ грошы, круціць іх у пальцах, яшчэ ўсё не верачы, што гэта праўдзівыя грошы, а потым пільна цікуе на мяне.— А не ўкраў нідзе?

— На дарозе знайшоў. Каля дзедавага гарода.

Дома толькі і гутарка пра гэтыя два злоты.

— Узаўтра здору куплю,— кажа бацька. У нас няма затаўкі: і зацірка, і булён — усё на малацэ, і нават хлеб мы крышым у малако — робім хармушку.— Памахай молатам аб гэтым малацэ. Яно мне аж смярдзіць.

Лусту хлеба і бутэльку малака, закаркаваную скручаным з чыстага лапіка заткалам, бацька бярэ з сабою на шашу — там ён б'е каменне: садзіц-

ца каля крушні, што насыпана з краю шашы, кладзе камень на камень — большы падніз, а зверху — меншы і, трымаючы іх, як прыгаршчамі, абкручанымі ў анучы ступамі, б'е молатам.

Набітае каменне бацька ссыпае ў роўненькую, як падрэзаную, горбу. Потым ужо дарожны майстар будзе браць шуфлем гэтае каменне і засыпаць ямкі на шашы і трамбаваць іх тоўстым паленам, як трамбуе мой дзед балота.

Назаўтра бацька прыносіць з мястэчка абвіты шпагатам скрутак старога, жоўтага, уляжалага здору.

Цяпер маці варыць крупнік з гарохам, затоўчаны здорам, здорам падскварвае зацірку, здорам мажа і хлеб, каб аж белыя былі ноздры ў ім, даючы па лусце мне і бацьку.

— Цяпер я сябе ямчэй чую. Го, што значыць здор. Ды яшчэ стары... Выратаваў ты нас, сынку,— хваліць мяне бацька, збіраючыся на работу. У вялікую кішэнь, што прышыта спадыспаду да шарачковага пінжака, з падкладкаю ад радзюжкі ў чырвоныя клеткі, ён кладзе бутэльку малака і складзеную папалам і памазаную здорам лусту хлеба.

— Ёсцека на свеце бог — во колькі помачы ад гэтых двух злотаў. А я надоечы прысніла...— і маці пачынае расказваць сон.

Пра гэтыя два злоты бацька з мацераю гаворыць ледзьве не кожны дзень. І мне тады невядома чаму робіцца брыдка, карціць сказаць, што гэтыя два злоты згубіў, напэўна, дзед, бо ён таксама насіў, завязаўшы ў хустачку, свае грошы; толькі цікава — чаму ён не прызнаўся?

Ужо бярэцца на восень. І звечара выпадае раса — раніцою яна халодная і пячэцца, як прысак. Да полудня стаіць туман, потым падымаецца жоў-

тымі хмарамі. Хмары, кажа дзед, ідуць цяпер procі сонца. Ужо і сонца засыпаецца. Ужо не відно ластавак каля дзедавага хутара. Толькі дзе з-пад ног пырхне жаваранак і нізка паляціць над іржышчам, жаласна цвіркаючы. І шпакі плывуць, то расцягваючыся і прападаючы з вачэй, то зноў збіраючыся ў купку,— здаецца, нехта кінуў вялікае кола, як, бывае, кінеш тонкую круглую бляшку, і яна то відаць, калі павернецца плашмя да цябе, то гіне з вачэй, калі павернецца кантам.

Ужо даўно зжалі жыта, толькі ў дзеда ў канцы поля астаўся недажаты лапік велічынёю на стол, але дзед кажа, што гэта мышам.

Цяпер я пасу Чарнавуху на дзедавым іржышчы і пускаю нават на балота — там ужо даўно скошана сенажаць. Атавы дзед не гадуе і не ставіць тычак, як ставяць іншыя, прывязаўшы на іх пучок саломы — знак, што пасвіць тут няможна.

— Пасі скрозь,— вярнуўшыся аднаго разу з мястэчка і падышоўшы да мяне, гаворыць дзед.— Бо ці гэта спажывём, што маем... Вунь, кажуць, немец на паляка пайшоў, вайна пачалася.

А некаторага дня я ўбачыў, як, не разбіраючы дарогі, наўпрасты па дзедавым полі, па грэчцы, што ў лагчынцы была яшчэ белая, на гладкіх каштановых конях з белымі паскамі на задніх нагах над капытамі ехалі два польскія кавалерысты. Коні былі мокрыя ад поту — цёмна блішчалі іхнія крыжы. Шапкі на ўланах з бляшанымі арламі, з маліновымі аколышамі былі зацягнуты пад барадою папружкамі. Пры боку віселі доўгія шаблі з раменнымі кутасамі на ручках, а за плячыма трасліся кароткія карабіны.

Кавалерысты, падганяючы шпорамі коней, падскокваючы на сёдлах, праехалі дзедава поле і

па балоце, па сівой, што адрасла ўжо на атаву, асацэ скіравалі на грэблю. Не паспелі яны мінуць лавы, тую гразь сярод Азярышча, як з-за грудка на дарозе, што вяла ў мястэчка, паказалася чацвёра мужчын. Яны, мусіць, даганялі кавалерыстаў. Засопшыся, трымаючы наперавес вінтоўкі, мужчыны прабеглі міма мяне і пачалі пералазіць цераз загарадзь, каб абысці лужыну.

Астатні зачапіўся калошаю за дрот, мацюкнуўся і, адчэпліваючы ржавую, з трыма калючкамі шышку, крыкнуў мне:

— Ты кавалерыстаў не бачыў?

Да кляпы ў яго была прышпілена чырвоная стужка.

— Вуньдзека яны, вунь,— паказаў я рукою туды, дзе ў гразі чырванелі нізкія, аж па самы жывот у траве, двое коней.

Мужчына адчапіў ад портак дрот і, цікуючы туды, пад асаднікаву хату з белым атынкованым шчытом, падняў вінтоўку, прыставіў прыкладам да пляча.

— Ты што? — азірнуўся высокі, маладжавы, з дробным тварам і доўгаю худою шыяй.— Не рабі панікі... Мы іх жыўцом...

— Глядзі, каб не ўпусцілі,— гэты астатні, спатыкаючыся на купінах, дагнаў мужчын, і яны ўсе чацвёра, трымаючы наперавес вінтоўкі, пабеглі балотам, абыходзячы самую гразь.

Мужчыны аддаляліся, меншалі і, здаецца, ішлі аж па пояс у сівай асацэ — па ёй хадзіў вецер, і яна пералівалася і цямнела, як пераліваецца і цямнее жыта, калі выпусціць сівы, яшчэ з мяккімі асцюкамі колас.

Мужчыны схаваліся з вачэй, і скора там пачалі страляць — нізка, як пры самай зямлі.

З хаты выйшаў дзед, пастаяў на падворку, узі-

раючыся туды, дзе стралялі, і сказаў, што пойдзе ў вёску, паслухае, што робіцца на свеце.

І скора на балоце паказаліся тыя самыя мужчыны з чырвонымі стужкамі на грудзях. Двое з іх вялі, трымаючы пад пахі, таго, што надоечы зачапіўся калошаю за дрот: твар у яго быў белы і губы зрабіліся ліловыя. Ён пераступаў як не сваімі нагамі. Галава ў яго раптам звісла, шапка ляпнулася на траву падкладкаю ўверх, і ён пачаў аб'язджаць на калені. Двое ўзялі яго за рукі і, паклаўшы іх сабе на шыю, панеслі яго. Пінжак на ім падняўся ўгору, зморшчыўся на спіне ў горб, і на белай рубашцы на баку ў яго я ўбачыў чырвоную, велічынёю з шапку, пляму ад крыві.

Чацвёрты [redacted] іх, што нёс на кожным плячы па дзве вінтоўкі, падняў шапку і падбег да мяне:

— У вас каня няма? — ён паказаў галавою на дзедаву хату.

— Не, няма.

— А можа калёсы ёсць? Бачыш, чалавек памірае... Што рабіць, га? — ён кусаў ніжнюю губу, думаў.— А можа, падбяжыш у вёску, га, можа, скажаш, каб фурманку хто даў... Скажаш, каб мужчыны ішлі сюды. Скажаш, што ў асадніка на хутары палякаў шмат...

Я заняў карову і пагнаў дадому. Спускаючыся з груда, убачыў, што дарогаю з вёскі бяжыць маці. Я пазнаў яе яшчэ здалёк па выцвілай маліновай хустцы.

Перад вёскаю, каля першай хаты, стаялі, сабраўшыся, людзі: нехта, мусіць, вярнуўся з мястэчка, і ўсе, павыходзіўшы з дому, распытвалі, што робіцца там.

Убачыўшы мяне, маці спынілася каля шацы, чакала.

— А я ўся пералекацела,— загаварыла яна,

калі я перагнаў цераз шашу карову.— Як сказалі, што ў Азярышчы страляюць, так у мяне ажні сэрца адарвалася. Ну, крый бог, думаю...— Яна пайшла поруч са мною, мякка ступаючы босымі нагамі па шарым сухім пяску.— А ты вот, бачыш, сам дагадаўся... Помні, сынок, калі дзе блізка страляюць, то ўцякай, каровы не глядзі... Каровы нарат не возьме, абы сам жывы быў.

— Там нейкага чалавека застрэлілі.

— Ах, ліха!

— Уланы, мусіць. Яны ехалі да асадніка, а за імі беглі нейкія людзі з мястэчка з чырвонымі стужкамі на грудзях. Там біліся. Стральба была. І гэтыя людзі вярнуліся назад і вялі пад рукі раненага. Казалі, што памірае ён. Прасілі, каб я наказаў у вёску, што трэба фурманка. І каб мужчыны ішлі туды, казалі.

— Куды ж ты, сынок, пойдзеш з голымі рукамі? Гэта ж табе не воўк, што настрашыў — і ён уцячэ.

Мужчыны з хлопцамі пабеглі ў Азярышча, калі мы з мацераю сказалі, што там ранілі чалавека і што туды клічуць на помач. А Лявося скоранька запрагла каня, стала на воз і, круцячы над галавою лейцы, пагнала каня, як гэта робяць мужчыны, калі недзе на балоце ляжыць сухое, як порах, у копах сена, а тут ужо грыміць і з поўдня ўстае, займаючы паўнеба, папяловая хмара, дыхае холадам вецер, гонячы пясок і круцячы ўгары салому — вось-вось пойдзе дождж.

Казалі, што быў там Лявосін сыновец — стрыечнага брата сын, што сядзеў у польскай турме за палітыку і цяпер вярнуўся дадому. Бегаў туды і мой бацька. Маці ўсё бедавала:

— Ці раскажаш яму — ён як малы. Падаткне дзе галаву...

Бацька вярнуўся пад вечар. На грудзях у яго была прышпілена чырвоная стужка. Маці плакала і сварылася.

— Куды ты сунешся? Яны руж'я пабралі, то начальнікамі будуць — яны граматныя. А ты, цёмны, як біў на шашы каменне, то і біцьмеш.

— Вот сціхні,— зазлаваў бацька, але адпусціўся і расказаў, што было ў Азярышчы.

Асаднікаў дом яны абкружылі, але даступіцца блізка не маглі: з гарышча пачалі страляць, там сабраліся паліцыянты з пастарунка і ўланы, што ўцякалі з граніцы. Яны ранілі яшчэ нейкага Новака з мястэчка... Але гэты будзе жыць... А Лявосін сыновец сплыў крывёю, сканаў дарогаю.

На другі дзень яшчэ ранелька, яшчэ толькі ў хаце зашарэўся дзень, маці разбудзіла мяне:

— Уставай, вунь Саветы прыйшлі.

Я адкрыў вочы. На дварэ нешта моцна гуло, нібы там ламалася і з грукатам падала ў нейкую прорву зямля. У акне ўсё дрыжала і дзынкала слабка прыбітая цвічкамі шыба.

Што гэта?

— Чолгі ідуць. Што там робіцца на шашы, каб ты бачыў!

Апрануўшыся, я скоранька выбег на двор — з шашы чуваць быў моцны, аж угіналася зямля, перамяшаны з лязгатам, грукат. Выскокваючы з хат і на хаду апранаючыся, цераз чужыя падворкі беглі да шашы людзі. Я кінуўся туды. Там ужо стаяла ледзьве не ўся вёска. Мужчыны махалі шапкамі, а бабы, склаўшы на жываце рукі, моўчкі глядзелі, як ішлі, выставіўшы наперад гарматы, зялёныя, як прыхопленая марозам трава, танкі. На іх сядзелі закурэлыя ад пылу салдаты ў касках з зашпіленымі пад барадою папружкамі. Грукат ад танкаў закладваў вушы.

Я глядзеў, як клалася, здаецца, аж угінаючыся, пад танкі шаша, глядзеў і не мог разабраць, чаму яны гэтак едуць: гусеніцы ляжаць пад танкам, не круцяцца, а ён ідзе.

Потым ехаў абоз: вазы з будамі, з нацягнутымі на іх антэнамі; па чацвёра коней цягнулі цяжкія гарматы; ішлі самаходы-грузавікі з байцамі. Упрэжаны конь цягнуў вялікі чорны бак — кухню; ад яе пахла ялою, бярозавымі дрывамі.

Пасля таго дня я ўжо болей не пасвіў сваю Чарнавуху на дзедавым полі — гнаў у грамаду, на асадніцкае балота.

Дзверы ў асаднікавай хаце нехта забіў накрыж дзвюма дошкамі — казалі, што асаднік уцёк.

Большыя пастухі раскалыхалі і вывернулі антэну — тыя два высокія шасты з дротам, на якім блішчаў белы ізалятар.

Вялікае, на двое дзвярэй, асаднікава гумно было адчынена: мы залазілі на бэлькі і скакалі на складзенае ў торп і не змалочанае яшчэ жыта, набіраючы на адзежу, за каўнер вострых асцюкоў, яны потым казыталіся пад сарочкаю на спіне.

Каля хлява ляжалі сарваныя з петляў дзверы — ён быў пусты: асаднікаву скаціну камбед параздаваў людзям. Чырвоная сытая карова з вялікімі і вострымі, як вілы, рагамі, што калола ў нашай вёсцы ўсё быдла, прыйшлася майму дзеду.

Я пасвіў яе разам з Чарнавухаю тут, на асадніцкім балоце. Яна ўцякала дадому, у гэты пусты хлеў з выламанымі дзвярыма — асаднік, пэўна, падкормліваў яе канюшынай, каб падбаўляла малака.

— Бачыш, ніяк усё не адвыкне ад свайго хлява. Ты пугай ёй пекані, пугай! — крычалі мужчыны, што сабраліся сюды дзяліць асаднікаву зямлю.

Быў тут і мой бацька — ён насіў збітую з трох тычак мерку. Мужчыны, сышоўшыся ў грамаду, узіраліся ў нейкую паперу, нешта абмаўлялі, і тады мой бацька ішоў цераз папар, перастаўляючы гэтую мерку, як цыркуль, адлічваў метры і спыняўся — да яго з сякерай у руцэ, з белымі калочкамі пад пахай бег мужчына.

На асадніцкім, здратаваным нашымі каровамі ржышчы стаяла ўжо многа наўбіваных калочкаў.

Падзяліўшы гэта здратаванае каровамі ржышча і чорны папар, з якога дзе-нідзе выглядваў не прываленены лустамі зямлі лубін, мужчыны выйшлі на грудок, дзе ляжалі шэрыя камяні, пасядзелі на іх і пайшлі, часам прыпыняючыся, чакаючы адзін аднаго; за грудом яшчэ доўга былі відаць іхнія шапкі.

А мой бацька вярнуўся, клікнуў мяне, каб паказаць, дзе будзе наш гектар.

— О, зямля тут тлустая,— ён паправіў на галаве, падбіў уверх кепку.— Як пад Любчаю... Радзіць будзе... Што казаць...— і ступіў нагою ў мяккі папар.— Там, на грудку, каля каменя, такая нішчымная, як у нас, пясчуга.— Ён прымружыў вока, цікуючы туды на груд, дзе шарэла каменне і выдавала здалёк, што ляжаць авечкі...

Пазычыўшы ў вёсцы каня, некаторага дня бацька прыехаў у Азярышча сеяць жыта. Прайшоў раз па завораным лубіне бараною, выпраг з яе каня, павесіўшы яму на галаву торбу з аўсом, і закруціў за драбінку лейцы. А сам завязаў палатняны фартух, насыпаў у яго з мяшка жыта і стаў у канцы загона. Зняўшы шапку, перахрысціўся.

— Радзі божа! — сказаў ён і, узяўшы з фартуха жменю жыта, шырока ступіў праваю нагою, аднёс руку і з размаху сыпнуў жыта — мільгануў-

шы, зярняткі дробненька зашапацелі спорным дажджом, заскакалі ў раўках па зямлі, спаласаванай бараною.

— Ідзі каля мяне, вучыся! — гукнуў бацька, не азіраючыся і ўсё гэтак, пад правую нагу, далёка понізу рассыпаючы жыта.

Вецер варушыў яго мяккія рэдзенькія валасы. Лоб у бацькі і дзве вострыя залысіны, што глыбока ўядаліся ў валасы, былі белыя — бацька ўсё лета не скідаў з галавы шапку.

Жыта баранаваў я сам, бацька ішоў з другога боку, нагінаючыся, падымаў барану, калі набіралася шмат пырніку, зграбаў яго рукамі і нёс на замежак.

Ужо ў глухую восень, калі камянела зямля, а трава на азярыскім балоце рабілася рудая, трохі нейкая бурачковая (кончыкі пер'я ў яе адсыхалі і чырванелі), я прыганяў сюды на сівую ад марозу рунь сваю карову.

Запыняць яе не трэба было: сшэрхшы ад холаду, яна хадзіла тут па руні, а я бег у дзедаву хату грэцца.

— Уга, хто прыйшоў! — дзед уставаў з калодкі — ён шчапаў ад яловага палена лучыну; тры тоўстыя, звязаныя вяровачкаю пукі ўжо ляжалі на падлозе.— Можа, папалуднаваў бы? Нябось, вымерзся? — і даставаў з печы, ставіў на стол забеленую сачыўку.— А я вот захварэў, недамагаю нешта.— Ён браў з паліцы, дзе віселі дзеравяныя счарнелыя лыжкі і вялікі з загнутым чаранком апалонік, бутэльку зеленаватай газы, наліваў у чарку і піў.— Бачыш — вы паліце, а я п'ю. Ого, найпершае лякарства ад горла?

Але газа дзеду не памагла — якраз перад калядамі ён захварэў на запаленне, і маці, папрасіўшы ў вёсцы фурманку, прывезла яго да нас.

Паіць і карміць яго карову мы хадзілі ў Азярышча з мацераю — два разы на дзень.

Зіма ў той год стаяла халодная і злая, як звер. Дзед праляжаў у нашай хаце да самага цяпла. Але вясною, калі сышоў снег і ў лагчынках ад яго асталася толькі сівая, як павуціна, плесня, калі зазелянела дробная, як расіца на завоіне, дзяцеліна і мы пачалі будаваць хату — спярша прывёзшы з поля, адтуль, з асаднікавае зямлі, чатыры камені, дзед ужо прыходзіў з хутара памагаць бацьку: сядзеў на дзеравіне, як на кані, звесіўшы ногі, і востраю, наведзенаю на бруску сякераю падчэсваў яе.

— А бардзюр ты не згубіў? — пытаўся ён у мяне.— У новую хату якраз спатрэбіцца.

— Не, не згубіў, ляжыць недзе ў куфры,— сказала за мяне маці. Яна прыходзіла сюды, пад зруб, збіраць у прыпол большыя трэскі.

Пад самую восень мы перабраліся ў новую хату, а ў падпаветцы, раскідаўшы печ, паставілі карову.

Новая хата пахла распаранаю глінай, як пахне сухі, гарачы пясок, калі пачынае накрапваць ціхі дождж: у куце, напроці акна, стаяла сырая печ з белымі, як выцвілымі, падсохлымі плямамі каля пячорак. Сыраватая была і ўтрамбаваная на зямлі гліна; на ёй значыліся круглыя ўмяціны ад калодкі.

Усю зіму і восень макрэлі вокны — на шуфлядзе збіралася вада. Маці клала туды анучу і падстаўляла чыгун — сярод ночы ў яго, сабраўшыся, цурком лілася вада: дзын-дзын-дзын.

— Нічога, як-небудзь перазімуем, а налета зробім пліту, будзе цяплей,— казаў бацька.

Але пліту ў новай хаце мы зрабіць не паспелі. Скласці яе падмеўся дзед. Сярод хаты стаяла па-

зычаная ў Лявосі скрыня — адна, мусіць, на цэлую вёску, і яе бралі ўсе, каму трэба было рабіць печ ці пліту. Дзед лапатаю насіў у хату гліну, што яшчэ з леташняга года ляжала ў нас каля вугла, сыпаў у скрыню і, падліваючы вады, размешваў. Я бегаў у нашую яму, што ўвярнулася на згоне зімы, калі выбіралі картоплі,— аб'ехала збоку цэлая глыба, ледзьве не завярнуўшы бацьку,— па жоўты пясок. Дзед добра размешваў яго з глінаю, завязаўшы хвартух, станавіўся на коленкі, чэрпаў кельмаю рошчыну, выбіраў дзе які каменьчык і ляпаў яе на ток, клаў на сярэдзіну разбітыя, а з краю цалейшыя цэглы, стукаў па іх, раўняючы ручкаю кельмы,— выкладваў спод.

За першы дзень ён зрабіў печку толькі да люфаў. Назаўтра была нядзеля, і дзед, пэўна, пайшоў у мястэчка да тае самае служанкі, а пасля полудня над нашай вёскай ляцелі самалёты, чужыя, з чорнымі крыжамі, і, спусціўшыся над маяком, што стаяў на гары за вёскаю, глуха стралялі з кулямётаў: бух, бух, бух — нібы сыпаліся ў пустую глыбокую яму з мяшка картоплі. Потым недзе грымела, як грыміць далёкі пярун, калі адыдзецца хмара і аглянецца сонца.

Прыйшоўшы з мястэчка, дзе ён вартаваў газу, бацька сказаў, што пачалася вайна. А ў нашай вёсцы было ціха. На падворку ціўкалі, збягаючыся да курыцы, жоўтыя нядужыя кураняты, і недзе за вёскаю ў алешніку крычалі рудыя з жоўтымі дзюбамі шпакі, і старыя, чорныя, мусіць, яшчэ насілі ім і кідалі ў разяўлены рот чарвей.

У панядзелак дзед прыйшоў рабіць пліту. Але маці сказала:

— Пачакаем, тата, печка нідзе не дзенецца. Вайна... каб дзе што прыпратаць,— і пачала на-

сіць у пустую картапляную яму ўсё са свайго куфра.

Я ўжо не пагнаў карову на асадніцкае балота — пасвіў каля дзедавай хаты. Цяпер ужо кожны дзень дарогаю з мястэчка ішлі людзі — чужыя, задыханыя, ішлі не разбіраючы дарогі, усё туды, недзе пад Ратамшчыну; ехалі машыны з кабетамі, з дзецьмі — на дарозе ўставаў і цягнуўся на нізкі, яшчэ жаўтлявы ячмень мяккі сухі пыл, ад яго пяршыла ў роце. Пачаліісці салдаты — спярша грамадкамі, потым па адным, па два — як хто, заходзілі пад дзедаву хату, сядзелі ў цяньку, пераабуваліся, кідаючы старыя анучы, шынялі, і ішлі далей. Аднаго разу тут, каля дзедава гарода, стрэліла маторам і заглухла машына з чатырохствольным, што стаяў у кузаве, кулямётам. Трое байцоў пастаялі каля яе і, павесіўшы на плечы вінтоўкі, пайшлі ў нізкі, жаўтлявы ад маладых і высокіх, як свечкі, вяршкоў хвойнік.

Пад вечар, калі зрабілася зеленаватым неба, дзе заходзіла сонца, а на поўдні стаў відаць месяц, што браўся на поўню, сюды, на дзедаў хутар, прыйшлі падазроныя людзі. Мы з дзедам убачылі іх яшчэ на балоце, калі яны звярнулі з грэблі. Іх было чацвёра. Недзе з-пад іхніх ног паднялася і закрычала, нізка лётаючы над балотам, кнігаўка. Мы з дзедам стаялі і глядзелі, як праз жоўтую слепату, што заглушыла дзедаву сенажаць, яны ішлі сюды, да нас. Мы спярша думалі, што гэта нашы байцы,— адзетыя яны былі ва ўсё вайсковае і з вінтоўкамі.

— Мусіць, хочуць вады,— сказаў дзед, азіраючыся на мяне.— Скокні прынясі.

Па ваду трэба было схадзіць у крыніцу да бочкі, якую дзед укапаў на лагчынцы каля гарода.

Я пабег у хату і вынес пустое вядро. На пад-

ворак прыйшлі ўжо байцы. Я стаяў, чакаючы, што яны будуць гаварыць.

— Нех бэндзе похвалёны,— зняўшы пілотку, сказаў адзін з іх, высокі, з белаватымі вачыма.

— Здрастуйце,— сказаў дзед, пільна цікуючы на байцоў. На боты, на галіфэ ў іх наліплі жоўтыя лісткі ад мокрае слепаты.

На балоце выпала раса, і далёка за грэбляю, каля асаднікавае хаты, вісеў белаваты, як дым ад сырога алешніку, туман.

— Пан не ве, як пшэйсць до Ліды? — гаварыў усё той, з белаватымі вачыма, астатнія маўчалі. Шыя ў яго была чырвоная, чырвань налівалася і за вушамі.

— Ліда ў тым боку,— дзед падняў руку з папяросаю і паказаў туды, дзе праз рэдзенькую ў палосы хмару глядзела чырвонае, велічынёю з века ад дзежкі, сонца.

Я глянуў на яго, і ў вачах асталіся спярша залаціста-зялёныя, а потым сінія і цёмныя кропкі.

— Спасіба,— сказаў той самы баец з чырванню за вушамі. Астатнія трое маўчалі. Адзін расшпіліў зялёную палатняную сумку і даў мне грудку цукру.

Яны папраўлілі, падтрасаючы на плячах, вінтоўкі і памалу пайшлі дарогаю. Каля цёмна-сінявата, што ўжо выпусціла колас, жыта звярнулі на сцежку.

— Гэта ж, пэўна, пераадзетыя нямцэ,— папярхнуўся дымам дзед.— Бо чаго ж на ноч гледзячы ідуць пад Ліду? Да сваіх, недзе...— Дзед пацплюваў на папяросу і атрос яе з пальцаў.— Недзе ўжо блізка хронт, раз яны ходзяць не баючыся.— Ён яшчэ паўзіраўся туды, дзе каля жыта стаялі, апраўляючыся, пераадзетыя немцы, і пайшоў у хату.

Я адлучыў ад дзедавай сваю карову і пагнаў яе на дарогу. Сонца ўжо закацілася, толькі неба на захадзе асталося ружовае — знак, што заўтра зноў будзе гэтакі сухі і ветраны, як сёння, дзень. Ціш ляжала над светам. І недзе трапятаўся ўгары жаваранак. Адзін на ўсё поле. Пахла зялёным сырым жытам. Вільгатнеў пясок на дарозе. Чмыхала карова. З губы ў яе цягнулася доўгая і тонкая, як павуціна, бліпчастая сліна.

Высока на поўдні паяснеў месяц. Шашою ляскала, траслася фурманка. І недзе страляла і глухла машына. Выгнаўшы на груд, я ўбачыў, як шашою за нашу вёску на ўсход сонца ішлі і ішлі байцы...

Назаўтра ў полудзень, якраз тады, калі я прыгнаў з поля карову, да нас у хату забег маладжавы цыган. На баку ў яго вісела зялёная картовая сумка, рыхтык такая, якую я знайшоў каля шашы ў канаве,— у ёй быў процівагаз. Цыган расшпіліў картовую сумку і дастаў складзены ў некалькі столак кавалак зялёнага сукна.

— Можа паесці далі б? — сказаў ён і паклаў на стол кавалак сукна.

— Нашто ж гэта мне, чалавеча? — беручыся за вілы і адчыняючы ў печы засланку, сказала маці.— Я і так вам крупніку налью.— Яна падважыла і выцягнула на прыпек чыгунок з белаватым накіпам на боку.— Божа, што на свеце робіцца? А мы во толькі хату паставілі. І абжыцца не паспелі... Бачыце, і пліту яшчэ не дакончылі.

Цыган паглядзеў на складзеную вышэй калена пліту, на скрыню з падсохлаю і пабялелаю ў ёй глінаю.

— Не, вы гэтае сукно забярэце. Цяпер нічога не спажывеш, каб хоць самыя жывы асталіся,—

маці наліла і, забяліўшы, паставіла на стол глiняную міску з крупнікам.

Цыган расшпіліў каўнер у рубашцы і падсунуўся да стала. Маці адкінула абрус, якім накрывала хлеб, і адкроіла вялікую, на ўвесь бохан, лусту.

— А ці ж далёка той фронт? — спытала яна, сеўшы на заслон і гледзячы, як цыган есць.

— Ды кажуць, што немец ужо каля Слоніма.

— А мой во пацягнуўся ў мястэчка. І чаго, каб хто спытаў. Газу там вартуе. Ці, як кажуць цяпер, карасіну. Каму яна трэба цяпер, тая варта?..

Цыган, маўчучы, высербаў крупнік. Выцер губы, паклаў недаедзены акраец хлеба сабе ў картовую сумку і ўстаў з-за стала.

— Не, і сукно забярэце. Гэта ж грэх, каб я за міску крупніку ды адрэз сукна брала.

— Нічога, нічога. Спатрэбіцца калі-небудзь,— цыган абедзвюма рукамі адзеў на галаву шапку і адчыніў дзверы.

Маці паднялася з заслона, узяла са стала складзены ў некалькі столак кавалак зялёнага, як выцвілага, сукна, разгарнула яго і памацала пальцамі.

— Так, добрае сукно,— сказала і засмяялася давольная.

Але ў сенях нехта зноў шлупаўся, ніяк не могучы адчыніць клямку,— не ведаў, што спярша трэба стукнуць у дзверы каленам, як раблю я.

Кінуўшы на куфар адрэз, дзверы памагла адчыніць маці.

За парогам стаяў той самы маладжавы цыган.

— Немцы! — сказаў ён як не сваім голасам. Твар у яго быў белы.— Страляюць па вёсцы,— і зноў выскачыў на двор.

Я кінуўся за ім. Чуваць было, як недзе нізка над вёскаю стракатаў самалёт.

— Куды ты? — адчыніўшы дзверы, закрычала маці, аж у яе, мусіць, перацяло ў горле.— Вярніся! Куды ты?

Я ўскочыў назад у хату.

— Лажыся,— маці схапіла мяне за каўнер, з усяе моцы прыціснула да зямлі, тут жа з прыходу, недалёка ад памялешніка, дзе стаяў вялікі чыгун — ад яго пахла кіслымі памыямі. Тады на коленках папаўзла да ложка, сцягнула, прынясла сюды, у памялешнік, падушку.

— На, хавай за яе галаву!

І раптоўна нешта моцна і суха, як пярун у камень, ляснула ў сенях. Грукнулі і расчыніліся, як пры вялікім ветры, дзверы. У коміне задзынкала аб край юшкі, пасыпалася на прыпек раскрышаная цэгла ці сажа. Нада мною загайдалася і заскрыпела прычэпленае на доўгім дроце да бэлькі вядро. За акном віўся жоўты, нібы з нашага коміна, калі палілі сырым ялаўцом, дым. З сяней цягнула смуродам.

— Сынок, хата гарыць,— маці схапілася з зямлі і зачыніла дзверы.

У хаце зрабілася сцішна. На страсе, чуваць было, шумела полымя — мякка і густа, як шуміць лес.

Маці падбегла да акна і доўга адшчапляла і ніяк не магла адшчапіць кручок.

— Скакай сюды, у гародчык,— маці адшчапіла кручок і папхнула туды, на вуліцу, абедзве палавіны акна.

Я скокнуў на нізкія і звялыя ад гарачыні памідоры. Ад іх горка пахла, як ад нарэзанага сырога картапляніку. Востра дзынкалі тут, каля сцяны, мухі.

Самалёта над вёскаю не было чуваць. Толькі над нашаю хатаю шумела, як з вялікага цёнгу, полымя і трашчалі латы, як трашчаць у печы і страляюць на хату сухія яловыя дровы. На чужой страсе, уючыся, поўз цень — гэта, мусіць, ад дыму з нашае хаты. Чуваць было, як нізка зафуркатаў снарад і бухнуў недзе там, за чужою хатаю,— каля плота закудахкалі і, з перапуду падлятаючы, пабеглі ў бэз куры. Стралялі з грудка, з шашы — раз за разам і моцна — недзе з гарматаў.

— Ах, божачка, чаго ты тут стаіш? — маці кінула праз акно сюды, на звялыя ад гарачыні памідоры, падушку і свой новы, што нядаўна шыла, з плюшавым каўняром сачык. І, зачапіўшыся недзе на акне за кручок спадніцаю, з'ехала з акна ў гародчык сама.— Бяжы ў картапляную яму! — крыкнула яна, паднімаючы падушку і свой новы сачык.

Я выскачыў за хату. Недзе каля мяне, як нешта злое і вострае — вось-вось уджаліць,— ціўкалі кулі.

— Хлопчык, лажыся! — пачуў я нечы голас і, азірнуўшыся, убачыў таго самага маладжавага цыгана, што еў у нас крупнік. Ён, прыгнуўшыся, бег да мяне.

— Лажыся, кажу табе, лажыся! — ён схапіў мяне за руку і моцна, як робяць у жарт рукавіцу, сціснуўшы за костачку, павалок у нашу, што так і асталася незасыпаная, картапляную яму: тут мы капалі пад берагам свежы пясок, калі трэба было пасыпаць у нядзелю хату і надворак.

У яме пахла нагрэтым пяском, валяліся чорныя асколкі шкла ад разбітых бутэлек, каменне, смецце, якое насыпаў бацька, падграбаючы і мецячы падворак. Я вызірнуў з ямы, углядаючыся,

дзе маці. Цягнучы за адзін рог падушку, яна бегла ўжо сюды.

— Ах, божа, гэта ж з хлява каровы не выпусціла,— маці задыхалася і цяжка сапла.— Згарыць карова.

— Не хадзіце,— сказаў цыган, не паднімаючы голас. Ён ляжаў скурчыўшыся. З берага яму на шапку нацерушыўся пясок.

— Куды ж я цяперака пайду,— стаўшы на коленкі, маці пачала грабці з-пад сябе пясок.

— Во лажыся сюды,— і яна накрыла мне галаву падушкаю. Пад ёю не было чуваць, як страляюць.

Я высунуў галаву. Высока ў неба паднімаўся жоўты напроці сонца дым. У ім мільгала, вілася ўгору і лётала, як чорны які снег, перагарэлая салома. Вецер зносіў яе недзе ўбок. Свет зрабіўся жоўты, як перад зацьменнем.

І раптам зараўла наша карова — моцна, як раўла яна аднаго разу каля крыжа за вёскаю; там, казалі, яшчэ ў тую вайну з немцамі хавалі бежанцаў, што памерлі ад гішпанкі. І недзе трашчала, пэўна абвальваючыся, хата — угору ляцелі і віліся цэлым снапом іскры.

Маці паднялася і зірнула з ямы.

— Ах, божачка, гарыць наш хлеў! — губы ў яе задрыжалі і пачалі крывіцца.

Цыган маўчаў. Рукі ў яго калаціліся.

— Ах, божачка, а дзе наш бацька? — маці завяла голасам, але недзе з грудка, з шашы, зноў, бо былі перасталі, пачалі страляць — уразнабой і глуха, мусіць з вінтовак, і яна сціхла, прыгнулася і стала выціраццa рогам хусткі.

Недалёка ад ямы, чуваць было, загаварылі, а потым нехта заенчыў немым голасам, што па нябожчыку. Але ўжо не стралялі. Цыган выглянуў

з ямы і схаваўся зноў. Твар у яго пачаў бялець. Ён сцяўся ўвесь і, скрывіўшы набок галаву, пачаў услухоўвацца: недалёка ад ямы як тупалі нечыя ногі. Я павярнуўся і ўбачыў немца — спярша яго галаву ў зялёнай пілотцы і з круглай кукардаю, потым грудзі — зялёны фрэнч з арлом вышэй кішэнькі, потым закасаныя да локцяў белыя, што, пэўна, ніколі не бачылі сонца, рукі. Немец ішоў сюды, да нас, трымаючы перад сабою кароткі чорны аўтамат.

Цыган заварушыўся. Немец, стоячы з краю ямы, махнуў аўтаматам — даваў знак байцу, што трэба вылазіць. Цыган падняўся, атрасаючы з сябе пясок, азірнуўся на нас і пачаў распяразваць, як нежывымі рукамі, палатняны рэмень. Немец зноў махнуў аўтаматам, і ноздры ў яго раздзьмуліся ад злосці. Цыган вылез з ямы і пайшоў папе-радзе немца, трымаючы ў руцэ гэты палатняны рэмень.

Немец падбег да яго і, схапіўшы за шлейку, сцягнуў цераз галаву ў яго вайсковую сумку, паглядзеў у яе і, пэўна, убачыўшы той самы акраец хлеба, засмяяўся. Потым раскруціў яе за шлейку і шпурнуў ад сябе.

Мы падняліся з ямы. Нашае хаты ўжо не было: на чорным, што яшчэ курэла асмалкамі, пажарышчы стаяла белая печ з кароткім, па юшку, комінам. На прыпеку, за бокам, астаўся цэлы той самы чыгунок з крупнікам. Быў відаць абгараны і пагібаны жалезны ложак, што бацька купіў з паўгода назад.

Гэтакія белыя печы стаялі скрозь, з чорных пажарышчаў цягнуўся сіні дым; здаецца, стаяў туман, як стаіць ён у пагодную раніцу — нізкі, рэдзенькі, перамешаны з дымам, што ўецца з комінаў і коціцца па стрэхах.

Было далёка відаць — не заміналі будынкі,— і рабілася нязвыкла. У нас каля бэзу яшчэ гарэў і абвальваўся плот. На чужым падворку стаяла абгарэлая бярэзіна, толькі на вяршку асталося звялае, паскручванае ў трубку лісце. Нехта стаяў каля свайго пажарышча і разварушваў яго доўгаю палкаю — мусіць, нешта шукаў.

Збіраліся і выходзілі на вуліцу людзі — ціха, як збіраюцца глядзець нябожчыка. Смярдзела паленым гноем, анучамі, мясам, як прыгарыць яно ў гаршку.

Там, дзе была наша падпаветка, дзе стаяла Чарнавуха, якую маці з гарачкі забылася выпусціць з хлява, я ўбачыў чорную асмаленую галаву з адным скручаным рогам, з заплюшчанымі вачыма, [redacted] высалапленым і сцятым дзяснамі языком. Чарнавуха, відаць, выбіла ў падпаветцы рагамі аконца і высунула на двор галаву. Тады яна і раўла, як гарэла падпаветка. Далей на пажарышчы была толькі вялікая, абсыпаная чорным попелам горба — ляжала каровіна тулава.

— Божа ж мой, божа, як жа ж будзем жыць? — трымаючы пад пахаю падушку і свой новы, [redacted] плюшавым каўнерыкам сачык, маці падышла да закрытае картаплянае ямы, куды надоечы насіла са свайго куфра палатно і адзежу, укленчыла і адкінула з дзіркі ржавую бляху. Зверху на скіданай адзежы я ўбачыў бардзюр.

— А во, той самы пасак! — крыкнуў я і зарадаваўся бог ведае чаму.

Маці, нічога не сказаўшы, укінула туды ў яму свой новы каптан, увапхнула падушку і падышла да пажарышча. Стаяла, склаўшы, нібы молячыся, перад грудзьмі рукі, і ў яе крывіліся губы і дрыжала барада.

Каля бэзу усё яшчэ гарэў і лускаў, як лускае,

астываючы, асмалак, наш плот. У апаленых, што зляглі і счарнелі, памідорах стаялі абгарэлыя калочкі, ляжала растопленае шкло і адлівала нейкімі ружавата-зялёнымі палосамі, як адлівае на вадзе, расцякаючыся, мазута.

— Лявосю, кажуць, застрэліла,— крыкнулі з-за бэзу бабы, бегучы вуліцай.

— А больш нікога? — спытала маці.

— А хто ж яго ведае! — не азіраючыся, азваліся бабы і скоранька пайшлі, мільгаючы босымі нагамі.

— Пойдзем да дзеда, можа і бацька там,— маці павярнулася і пайшла нашым надворкам з чорнымі лапікамі выгаранае сухое травы — там, дзе ўпалі іскры.

Каля пясчанае дарогі ў раўку за вёскаю ляжаў той самы маладжавы цыган; ляжаў ён у выкачанай крапіве з высkаленымі і сцятымі зубамі. Твар яго скрывіўся і скамянеў ад пакуты. Далёка ад яго валяўся палатняны салдацкі рэмень.

— Ах, божа, так гэта ж той чалавек! — маці перахрысцілася.— Пытай, за што ж яны яго застрэлілі? Ці чалавек вінаваты?..

Дарогаю пад нашу вёску адна за адною ехалі нямецкія машыны: зверху на радыятарах трапяталася чырвоная матэрыя з белым кругам і намаляваным у ім чорным нямецкім крыжам. Машыны дыхалі гарам. Яны прайшлі, а над дарогаю стаяў і не разыходзіўся гэты чорны дым, смярдзючы, як агарак кнота ў лямпе.

Мы падняліся на грудок. Там, дзе стаяла дзедава хата, гумно, курэліся два чорныя пажарышчы: на дарогу, на жоўтае ад слепаты балота поўз і разыходзіўся сіні дым. Выдавала здалёк, што гарыць торф. На балотцы за дарогаю ў капусце было відаць чырвоную дзедаву карову. Пераліва-

лася сінявата-ліловае маладое жыта за балотцам, па ім хадзіў вецер, і яно сівела. Недзе высока ў злінялым небе вісеў невідушчы жаваранак; песня яго была тоненькая — вось-вось парвецца.

Было ўсё тое самае тут, у Азярышчы: сівая асака за грэбляю на лавах, цёмныя кусты ялаўцу, дзе, пэўна, жаласна ціўкалі, гайдаючыся на маладых жаўтлявых вяршках, шэрыя, з шылаватымі хвастамі янчыкі, стаяла асаднікава хата з белым атынкованым шчытом, смуга засцілала лес, нізкі і цёмны перад грудамі, дзе сыходзілася неба з зямлёю. Быў той самы свет, толькі не было дзедавай хаты.

— Ах, божа! — маці ўсплясенула патрэсканымі чорнымі, што ўжо не адмываліся, рукамі — дзіва, каторы дзень палола грады — і пайшла подбегам.

— А-я-ёй, а божачка мой! — заенчыла яна, падыходзячы да пажарышча.

Каля чырвонага пляскатага каменя, што раскалоўся ад агню, ляжала нешта чорнае, абгаранае, рыхтык корч. Я не пазнаў, я дагадаўся, што гэта дзед. Ён ляжаў дагары, скурчыўшы ў каленях чорныя, як асмалкі, ногі. Скурчаныя былі і рукі, на іх яшчэ целяпалася сатлелая, як трут, адзежа. Я не мог глядзець, баяўся, і пайшоў туды, дзе было гумно. На пажырышчы стаяла чорная, з пагібаным і расколатым колам, абгарэлая, ужо без карыта, сячкарня. Трашчалі, астываючы, асмалкі — усё, што асталося ад сцен, лат і кроквяў. Нада мною, над пажарышчам шмыгала, цвіркаючы, ластаўка. На прыгуменні сядзеў і, падняўшы галаву, цікаваў на яе Мар'ян.

— А татачка мой! А што зрабілася, а што ўчынілася, што цябе няма! — маці стаяла каля

расколатага каменя, паднімала і, успляснуўшы, апускала рукі.

Я падбег на балотца і выгнаў з капусты дзедаву карову. Каля таго месца, дзе была ўкапана бочка, з якое дзед браў ваду, чарнела даўжынёю можа на метр і глыбінёю па калена выбітая снарадам яма. Я пастаяў над берагам, баючыся ступіць у яму, і пагнаў з балотца карову: бакі ў яе былі круглыя — карову спушыла ад капусты.

Маці падышла сюды, выціраючы рукою мокрыя вочы:

— А дзе ж знайсці саломы, каб скруціць перавясла? Трэба перавязаць жывот карове — гэта ж памагае...

Маці трохі супакоілася, але потым, калі мы ўжо адагналіся ад дзедавага хутара, зноў з плачам сказала:

— А бацькі во — німашука...

Бацька знайшоўся на трэці дзень: нехта наказаў у вёску, што яго бачылі ў мястэчку — там немцы зрабілі з калючага дроту загарад і трымаюць арыштаваных людзей. Мы пачалі збіраць яму падаянку: маці збегала да цёткі Ядвісі і пазычыла бохан хлеба і паўапольца з'ялчалага жоўтага сала.

А дзеда хавалі назаўтра. Хавалі разам з Лявосяй у адной яме, каля крыжа перад вёскаю: Лявосю ў труне, а дзеда ў вялікай, збітай з негаблёваных дошчак скрыні. Дзеда ў труну не было як пакласці і не было як апрануць — яго накрылі прасцірадлам.

Да крыжа потым, чуючы нябожчыкаў, збягаліся і раўлі нюхаючы зямлю, усе каровы. Спярша раўла і бегла туды, угнуўшы галаву і круцячы рагамі, адна, а потым за ёй усе. Рабілася вусцішна.

Можа, праз месяц ці менш дзеда перавезлі на

магілкі. А я ўсё доўга чуў віну перад ім за тыя два злоты, усё шкадаваў, што не вярнуў іх дзеду. Мне і па сённяшні дзень здаецца, што гэта былі яго грошы.

Праз месяцы тры, ужо з Баранавіч, куды перавезлі арыштаваных мужчын, мой бацька ўцёк дадому.

Хаты ў нас не было доўга, жылі мы ў падсуседзях, але ў мацерынай скрыні, якую бацька збіў заміж куфра, валяўся бардзюр — тая шырокая папяровая стужка ў кветачкі з выразанымі зубкамі.

Хату мы пабудавалі пасля вайны — тады было не да шпалераў. Так і па сённяшні дзень дома ў нас не прыбіты да сцяны гэты самы бардзюр. І я ўсё забываюся спытаць, ці хавае яго маці ў сваёй скрыні.

З цягам часу ўсё забываецца, але іншы раз самая нязначная і дробная рэч напомніць чалавеку нейкі далёкі кавалачак жыцця, якое-небудзь здарэнне, як напомніў мне ўсё гэта, што напісана ў апавяданні, аблітым ружаватым заплеснелым сокам бярозавы пень.

# Маці

Чалавеку заўсёды помніцца нешта нязвыклае. Некалі, едучы дадому, ужо за Наваградкам я ўбачыў зрэзаныя старыя бярэзіны — яны ляжалі каля шашы роўненька адна пры адной, так як яны і раслі, яшчэ з зялёным непрывялым веццем. Тут быў круты паварот — дарожнікі збіраліся выпраміць трохі і пашырыць шашу і зрэзалі гэтыя бярэзіны.

Але было нешта нязвыклае, што ты бачыш гэтыя старыя зялёныя дрэвы, тоўстыя ў камлях, ужо нежывыя, з нерухомым галлём, а там дзе яны нядаўна стаялі, асталіся нізкія, яшчэ свежыя белаватыя пні, было нязвыкла, што тут каля вёскі Шайбакова змяніўся і неяк пагалеў свет.

Прайшло год пяць, але кожны раз, калі я еду дамоў і мінаю вёску Шайбакова, мне спамінаюцца гэтыя зрэзаныя бярэзіны — зялёныя, яшчэ не звялыя, што ляжалі ўпокат на зямлі, на сподзе душы зварухнецца той даўнейшы ачахлы боль.

Гэтак іншы раз мне спамянецца старая кабета, якую я стрэў у тралейбусе колькі год назад, калі я раптам убачу чый-небудзь нязвыклы, непрыгожы твар.

Забыўся ў якую гэта было пару, але пэўна ў раннюю зіму ці ў познюю восень, бо на кабеце сядзеў трохі выцвілы сіні бушлат з жоўтымі бляшанымі гузікамі, а на галаве была суконная хустка, закручаная тоўстым рагом кругом шыі.

Кабета сядзела згорбіўшыся на пярэднім сядзенні — тварам да ўсіх. Яна неяк нерухома і за-

цята глядзела сабе пад ногі, старыя яе рукі з набраклымі сінімі жыламі накрыж ляжалі на каленях, палец адзін у яе быў заверчаны белым лапікам, усё роўна як парэзаны сярпом на жніве. І яна шавяліла гэтым заверчаным у белы лапік парэзаным пальцам, як варушыць пальцам хворы чалавек, лежачы на божай пасцелі і думаючы пра блізкую смерць.

Твар у кабеты быў сцяты ад нейкае злосці, спярэшчаны маршчынамі, чырванаваты з шырокім носам, і я, узіраючыся на гэты твар, думаў, што яна многа і даўно п'е і, пэўна, брыдка лаецца. У маёй душы рабілася нешта такое, як робіцца з чалавекам тады, калі ён глядзіць у стары занядбаны калодзеж забіты зверху, каб ніхто не ўваліўся, спарахнелымі дошкамі, і там блішчыць вада, але не той цёмнаю глыбокаю чысцінёю, а каламутнасцю; закіданая палкамі, зацярушаная брудам.

І пакуль я думаў гэтак пра кабету ў сінім злінялым бушлаце, у тоўстай суконнай хустцы, закручанай адным рогам кругом шыі, як там ужо стаяла кантралёр — маладая, занадта ўжо вёрткае і бойкае дзяўчо.

— Ваш талон,— спытала яна, працягнуўшы руку да кабеты, але ўзіраючыся не на яе, а недзе ў акно.

Кабета ні то не пачула, ні то не разабралася, што да яе гавораць, усё гэтаксама нерухома сядзела, угнуўшыся і варушачы заверчаным пальцам.

Маладое дзяўчо насупілася і спытала зноў, і ўжо цвёрда.

І мне, як і гэтаму, мусіць, дзяўчаці, што раптам сцялася, пачало здавацца, што кабета скажа нешта нядобрае, злое, скажа хрыпаватым тоў-

стым голасам, якім, бывае, гавораць старыя мужчыны, курцы.

Кабета падняла свой чырвоны, сцяты як ад злосці, нязычлівасці твар з шырокім носам, і я ўбачыў яе рудыя, трохі зеленаватыя выцвілыя вочы і здзівіўся, што яны былі такія самыя, як у маёй мацеры.

— А мае вы дзеткі, я ж давала гэтыя дваццаць капеек.

Голас у кабеты быў маладжавы, мяккі, сакаўны, і было нешта ласкавае, зычлівае ў гэтым голасе. І ён быў таксама падобны да голасу маёй мацеры.

З твару ў дзяўчаці збегла цвёрдасць, нейкае спалоханае дзіва блiснула ў яе вачах, дзяўчына адступілася ад кабеты і пайшла ўжо сюды, да нас. А недзе ззаду ў тралейбусе пачалі крычаць, што даўно ходзяць па руках нечыя талоны і чаму гэта ніхто не прызнаецца.

А мяне спярша, як і гэтае вёрткае дзяўчо, ўзяло дзіва, а потым на сподзе душы заварушылася нейкая брыдкасць, схапіў нейкі сорам, я чуў бог ведае якую віну сам перад сабою за ўсё маё благое, што я думаў пра гэтую кабету.

Мне пара было выходзіць, і падняўся з сядзення, усё ўзіраючыся на кабету ў выцвілым сінім бушлаце з жоўтымі бляшанымі гузікамі, на яе твар, і мне пачало здавацца, што гэты непрыгожы, трохі пляскаты твар раптам змяніўся, бо мне помніўся ўсё яе голас, мяккі, ціхі, як голас у мае маці.

Я выйшаў з тралейбуса і сунуўся праз людскі вір на вуліцы. Не, тады, мусіць, была ранняя вясна, пагодны дзень, сонца, сухі, падсушаны вастраватым ветрам тратуар. Я думаў пра гэтую кабету, усё стараючыся ўгадаць — хто яна, і, невядома

чаму, мне раптам здалося, што яна тая нешчаслівая маці, у якое з вайны не вярнуліся дзеці: іх даўно няма на свеце, а яна ўсё жыве, просячы ў бога смерці.

Я перабіраў у памяці ўсё, што калі чуў ці ведаў пра мацярок.

І чым болей я думаў пра гэтую кабету, тым выразней бачыў, што з твару яна была падобна на маю маці, і голасам, і паставай, і гэтым заверчаным у белы лапік, як парэзаным на жніве, пальцам.

## ЗМЕСТ

**Адамчык В.**

Дзікі голуб. Апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1972.

192 с. 7000 экз. 26 к.

У новую кнігу В. Адамчыка ўвайшлі апавяданні апошніх год. Тут і «Дзікі голуб» — апавяданне пра чалавечую дабрату, навела «Пагарэльцы» — пра мацерыну памяць аб сваім дзіцяці, што забілі ў вайну, тут і замалёўка «Хата» — пра сённяшні дзень вёскі, пра тыя змены, якія адбываюцца ў ёй апошнім часам.

7-3-3 / 101-72 Бел2 А 28

На белорусском языке

Вячеслав Владимирович Адамчик
ДИКИЙ ГОЛУБЬ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар А. Масарэнка. Мастак Г. Грак. Мастацкі рэдактар І. Славянін. Тэхнічны рэдактар Г. Федарук. Карэктар А. Глушчанка.

АТ 16603. Здадзена ў набор 15/III 1972 г. Падп. да друку 9/VIII 1972 г. Тыраж 7000 экз. Фармат $70 \times 107^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7,8. Ул.-выд. арк. 7,74. Зак. 1238. Цана 26 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.